Казімір КАМЕЙША

## У ГРЫБАХ

Кошыкі з верхам.
Не адагнуць спіны,
не адняць рукі.
Пападаюцца,
як знарок,
з кожным крокам
баравікі,
З кожным крокам
сыраежкі
і рыжкі.
Верасень сцежкі
лёгкай меддзю
усыпаў.
Сцежкі —
ступіш —
звіняць пад нагамі.
Толькі сосны
глуха шумяць,
няўжо асіплі?
І яліны нямеюць,
адна,
другая...
Вось і ўсе прыціхлі.
Вецер іх не трывожыць
свістам.
Ага!
Разумею, чаму навакол
такая ўрачыстасць.
Гэта восень
апошняе золата
дорыць



Вымытым ліўнямі
гэтым прасторам.
Ведай!
Калі з верхам кошык
ледзь цягнеш вясёлы ты —
Ты не проста нясеш грыбы,
а золата,
Восені роднай золата.

## ВОЧЫ

Глянуць яны —
наскрозь чалавека
бачаць.
Глянуць лагодна,
даверліва —
на сэрцы зразу
лягчэй,
А глянуць дакорліва — бляск іх гарачы
Нібыта агнём душу апячэ.
Буду ісці з імі —
з дарогі ніколі не збочу,
Будзе ў сэрцы прытоенай радасці
пачуццё.
Вось жа дзіўныя вочы!
Сустрэў выпадкова аднойчы,
А імі гляджу на жыццё.

## *На арбіту камунізма*

**Валянцін ЧЫМІРКА**

# ДНЯПРОЎСКІЯ ЗАРАНКІ

**Нарыс**

### ПОШУКІ

Матруна спяшалася за сынам. Цэлячы патрапіць след у след, кратала за яго плячыма клунак, папраўляла, каб лепей ляжаў, не муляў хлопцу ў дарозе, і прасіла:

— Ты ж, Ляксандра, глядзі... Каб адразу напісаў... Мы з бацькам чакаць будзем.

Хлопец крочыў моўчкі, быў заняты сваімі думкамі.

Яны выйшлі на вуліцу, і Аляксандр глянуў на хату. Яна стаяла зводдалі, за агародам, і аж зіхацела аканіцамі. «Добра, што паспеў пафарбаваць, — падумаў ён. — А то бацьку яшчэ работы было б...»

З агарода нёсся халадок, пахла свежая ралля. «Як яны будуць без мяне? Ці ўправяцца самі? — непакоіўся хлопец пра бацькоў. — Хутка ж бульбу кідаць, а я вось... Ды што зробіш?! Цяпер ужо нельга назад».

Выбраліся за вёску, пашыбавалі ў напрамку Дняпра. Там, на рацэ заўсёды ёсць хто-небудзь з лодкай, перакінуць на другі бок. Аляксандр пойдзе ў Лоеў, а там сядзе на аўтобус і паедзе ў Гомель. Вядома, яму шкада пакідаць маці, бацьку, родную Хамінку. На душы, канешне, цяжка, маркотна, але ж так трэба.

Аляксандр перакінуў клунак на другое плячо і раптам спыніўся.

— Ну, мама, ідзі.

— Яшчэ трохі, сынок.

— Не ў салдаты ж...

— Усё адно надоўга. Не скора пабачу...

— Дарма, на дзень неяк заскочу..

— Глядзі ж, каб забег, не мінаў свае хаты.

Але маці развітвацца не спяшалася. Стаяла, глядзела то ў вочы сыну, то мерала позіркам усяго з ног да галавы, быццам сумнявалася: яе гэта Аляксандр ці мо хто іншы? Потым расчулена сказала:

— Вунь які ты ў мяне. Мужчына ўжо!..

I не ўтрымалася, прытуліла да сябе сына, пастаяла так, а пасля павярнулася, пайшла назад.

Усю дарогу Аляксандра турбавалі думкі. То шкадаваў, што дарма не захацеў вучыцца далей — усё ж трэба было налегчы, скончыць дзесяцігодку, і тады перад ім шырэй расчыніліся б дзверы, то супакойваў сябе тым, што і сем класаў не такая ўжо малая навука і пры жаданні можна дасягнуць усяго. А больш думаў пра тое, як ён стане матросам, пачне насіць паласатую, такую заманлівую ў дзяцінстве і нават цяпер, у семнаццаць год, цяльняшку — і, вядома, будзе хадзіць у далёкія рэйсы — да Кіева і далей, пабачыць вялікія гарады, а потым, калі з'явіцца ў вёску, ад дзяўчат яму не будзе адбою.

* * *

Параход «Марксіст», на які паступіў Аляксандр, яму падабаўся. На ім заўсёды было шумна. Людзі кудысьці спяшаліся, бы іх зацягнулі ў Гомель сілком, а цяпер вось адпусцілі і ім не церпіцца хутчэй дадому. Звычайна ў Гомелі параход напакоўваўся пасажырамі, і на Сожы аж да апошняй прыстані не сціхалі жарты, песні. Аляксандр выходзіў на палубу — тут было цікавей. Перад вачыма плылі маляўнічыя берагі, вёскі, сады, сенажаці. На палубе збіраліся хлопцы, дзяўчаты, з якімі можна было пагаманіць.

Язда па адным маршруце неўзабаве надакучыла. Аляксандра перасталі цікавіць пасажыры — ён, бадай, усіх ведаў у твар, не вабіла маляўнічасць берагоў — кожны дзень адно і тое ж. Усё часцей прыгадваліся словы сяброў-аднакашнікаў, якія адгаворвалі Аляксандра, каб не ішоў у матросы.

«А чым жа яна дрэнная, гэта работа? — дакараў некага ў думках матрос. — Добрая работа. А калі крыху і сумнавата бывае, дык ад таго, што рэйсы такія: Гомель — Ветка, Ветка — Гомель...»

Мінуў год, і Аляксандр заявіў начальніку:

— Хачу ў далёкія рэйсы!

Той доўга пазіраў на Дароньку, мо не ведаў, што сказаць гэтаму хлопцу, а пасля ўстаў, паклаў сваю руку на яго плячо:

— На баржу згодзен?

Аляксандр згадзіўся. Чым блага на баржы? Нават і лепш. Гэта ж, прычапіў яе да парахода, і — сядзі сабе, грэйся на сонцы.

Усё лета плаваў Аляксандр на баржы і ўверх па Дняпру, і ўніз. I заўсёды яны плылі паўз Хамінку. Калі-нікалі Аляксандр адпрошваўся на дзянёк дадому, каб праведаць бацькоў.

Аднойчы вярталіся ў Гомель, дзе павінны былі стаць на выгрузку. Ішлі прыцемкамі, і, як толькі наперадзе заблішчэлі агні Хамінкі, параход даў сігнал.

«Не забылі хлопцы, — усміхнуўся сам сабе Аляксандр. — Сігналяць!»

Параход сцішыў ход, і Дароньку выправадзілі на бераг.

Аляксандр з невялікім чамаданчыкам у руках, напакаваным гасцінцамі, ужо ўяўляў, што скажа маці, калі падасць ён ёй квяцістую хустку, як узрадуецца бацька, убачыўшы модную кепку. Чым бліжэй падыходзіў да вёскі, тым хутчэй хацелася трапіць у хату. «Маці, мусіць, вячэру ўжо рыхтуе. А бацька сядзіць ля ра-

### ПЕРШЫЯ ТВОРЫ



Адбыўся чарговы выпуск у Беларускім тэатральна-мастацкім інстытуце. Дыпломы атрымалі маладыя скульптары, графікі, жывапісцы. У гэтым нумары мы знаёмім вас, чытачы, з дыпломнымі працамі графікаў.

Леанід ШАКІНКА нарадзіўся ў 1927 годзе на Віцебшчыне. Пасля службы ў радах Савецкай Арміі вучыўся ў Мінскім мастацкім вучылішчы, скончыўшы якое, паступіў у тэатральна-мастацкі інстытут. Яго дыпломная праца — серыя лінагравюр пад назвай «Поры года».



**Тры гады працаваў Аляксандр Даронька трактарыстам. Перайшоў на ферму — і тут трактар спатрэбіўся, каб справіцца адкарміць за год 2 200 свіней.**

Фота **С. Чырэшкіна**

дыёпрыёмніка. Ён любіць паслухаць, што на свеце робіцца».

На вуліцы рыпнуў гармонік, узгарэўся і тут жа стух дзявочы смех.

«Гарманіста павялі, — вырашыў Аляксандр. — Даўно не быў на танцах», — і ён падышоў да клуба.

— Прывітанне флоту, — пачуў Аляксандр знаёмы голас Сашкі Пракопава. — Заходзь, заходзь...

— Дамоў трэба, — Аляксандр паказаў на чамаданчык. — Толькі што з парахода...

— Кінь чамаданчык у куток і гуляй. Паспееш дамоў...

— Не, пайду...

Сашка Пракопаў усё цягнуў сябра ў танцы. Міма праходзілі дзяўчаты. Аляксандр кідаў позіркі на іх, пазнаваў многіх, бо на вуліцы было яшчэ светла. І тут Аляксандр сустрэўся вачыма з адной дзяўчынай. Не пазнаў яе. А тая зноў і зноў азірнулася. Погляд у яе такі ласкавы, лагодны. Калі яна схавалася ў натоўпе, Аляксандр спытаў:

— Чыя гэта? У белай кофтачцы?

— А-а, Вера. Фельчарка... Нядаўна прыехала. — І Сашка таямніча кінуў: — Дзяўчына з ганарком. Абы-хто не падыдзе.

* * *

У Гомелі баржа стаяла нядоўга. Аднаногі асілак-кран мігам павыкідваў цяжкія скрыні і хутка зноў нагрузіў баржу. Аляксандр ледзь не спазніўся, і шкіпер, хоць і добры дзядзька, але бурчэў:

— Так, братка, нягожа. Як забег дамоў, дык і прапаў. А калі баржу ўзялі б на буксір? Што тады?

Аляксандр маўчаў. Вінаваты. Схіліўшы галаву, пастаяў перад шкіперам і нехаця падаўся на баржу. Неўзабаве каля іх ужо круціўся кацер. Падалі канец троса, і Аляксандр лоўка замацаваў яго.

Пазіраючы на сінюю роўнядзь ракі, слухаючы аднастайнае вуркатанне кацера, матрос у думках быў дома, з той, што ўбачыў ля клуба, з Вераю...

Аляксандр не спадзяваўся, што так усё атрымаецца. Ён вярнуўся тады на танцы і адразу адчуў на сабе чыйсьці цікаўны позірк. Хлопец зірнуў па баках і нечакана зноў сустрэўся вачыма з незнаёмай, пра якую расказваў Сашка, і яны абое збянтэжыліся. Калі зайгралі новы танец, Аляксандр падышоў да дзяўчыны.

Танцавалі позна. А калі надышоў час разыходзіцца, Аляксандр напрасіўся ў праважатыя. Вера была вясёлая, жартаўлівая.

Ночы ўлетку кароткія. За гамонкай, спрэчкамі Аляксандр не заўважыў, як стала брацца на дзень. Яны развіталіся.

Добра яшчэ, што паспеў. Праўда, крыху няёмка перад шкіперам.



Але нічога, з дзядзькам Рыгорам можа паладзіць.

Думка пра Веру не выходзіла з галавы. Трымалася дзяўчына з Аляксандрам неяк вельмі ўжо стрымана, насцярожана. Гэтая стрыманасць, мусіць, і не дазволіла яму спытаць, ці можна напісаць ёй пісьмо. І яны разышліся гэтак жа нечакана, як і сустрэліся.

Што будзе цяпер?

Заўважыўшы, як хлопец маркоціцца, дзядзька Рыгор моўчкі паківаў галавой, а потым не ўцерпеў, спытаў:

— Што гэта з табою, Аляксандр? Мусіць, нявесту знайшоў?

Хлопец маўчаў.

Неўзабаве, калі яны зноў вярталіся ў Гомель, дзядзька Рыгор прапанаваў:

— Можаш дамоў забегчы, — ён усміхнуўся ў кулак і дадаў. — Толькі не баўся...

— Добра, дзядзька Рыгор.

На гэты раз Аляксандр выбег на бераг з яшчэ большай радасцю.

Вера была на рабоце. Аляксандр накіраваўся ў Крупейкі, суседнюю вёску, дзе працавала дзяўчына. Вера не чакала такой сустрэчы і збянтэжылася. У той дзень яны доўга гаварылі.

* * *

Зімою яны пажаніліся.

Да вясны жылі разам, у бацькі. Прыгрэла сонейка, пачыналася навігацыя. Надышоў час збірацца матросу ў дарогу.

— Аляксандр, кідай тую баржу, — прасіла Вера. — Я хачу, каб ты быў са мною...

Хлопец задумваўся. «Я хачу, каб ты быў са мною...» Што гэта? Ці не пачынаецца тое, пра што ён не адзін раз чуў ад старэйшых: жонка ў хату — забывай на волю. Але ж ён не на гулянку едзе. І цяпер яго, магчыма, прызначаць ужо шкіперам. Калі ж адмовіцца, то хіба ён знойдзе сабе такую работу? У яго ж няма ніякай спецыяльнасці.

І ён зноў паехаў у Гомель.

Работы на баржы хапала. Аднак, калі мітусня спадала і перад вачыма праплывалі берагі, хлопцу рабілася сумнавата. Прыгадваліся сустрэчы з Верай, апошняя размова. «Я хачу, каб ты быў са мною...» І з грудзей самі сабой вырываліся словы: «І я, Вера, хачу быць з табою...»

Зазірнуць дадому доўга не выпадала. Неяк здаралася, што рачнікі раз за разам хадзілі з баржай уніз — спачатку па Сожу, потым па Дняпры. Толькі праз месяц ці нават болей Аляксандр Даронька наведаўся ў Хамінку. Да яго адразу прыбег цёзка — Сашка Пракопаў. Перагаварыўшы пра ўсе вясковыя навіны, Сашка наступаў на сябрука:

— Чуй, кідаў бы ты тую баржу. Цяпер і ў саўгасе нядрэнна. Вунь я колькі зарабляю!..



**Разабрацца ў новых кнігах па жывёлагадоўлі памагае Аляксандру яго жонка Вера Рыбакова — ветэрынарны фельчар саўгаса.**

Пакуль Даронька плаваў, калгас у Хамінцы аб'ядналі з саўгасам «Лоеўскі». Адбыліся змены і ў Хамінцы, і ў Крупейках. Але ж... Аляксандру абяцалі месца ў тэхучастку. Тады ён змоaccess амаль кожны тыдзень бываць до-

ма, і лепшага, бадай, не трэба.

Аляксандр чакаў, што Вера таксама пачне ўгаворваць яго перайсці ў саўгас, а яна чамусьці маўчала. «Ты бач яе... Бы ўсё адно ёй...»

Мінула лета, настала восень. Наўкола стаяла маўклівая туга. Паветра дыхала гарачынёй, хоць вечар збіраўся быць халодны — на захадзе сонца налілося ядраный чырванню. Пахла цёртай саломай, пажухлай травой. Па раллі важна хадзіла вараннё, шукаючы сабе спажывы. Аляксандр вяртаўся дамоў. Ён глянуў на ўзараныя гоні і падумаў: «Не тое цяпер, як было. Усё робіцца па-гаспадарску». Непадалёку вуркатаў трактар. Падышоўшы бліжэй, Аляксандр заўважыў, што яму падаюць знакі рукою. І ён здагадаўся — гэта яго цёзка, Сашка Пракопаў. Бач, вывучыўся на трактарыста і працуе ўжо.

«Правільна зрабіў, — хваліў у думках свайго сябрука Аляксандр. — Цяпер у яго спецыяльнасць у руках. Ды яшчэ якая!..»

Пастаялі, пагаманілі. Потым Аляксандр адышоў убок. Стаяў нерухома, назіраючы, як лоўка вядзе трактар Сашка, як роўна кладуцца барозны. Даронька глядзеў і адчуваў, як усяго яго ахоплівае зайздрасць, што не ён, а Сашка вядзе гэтую магутную машыну.

«От бы сабе навучыцца... — неяк здалёку і таму яшчэ несвядома прыходзіць думка. — От бы сабе... — Аляксандр запыніў гэту думку. — А што?»

## НОВАЙ ДАРОГАЙ

У сакавіку падзьмулі цёплыя вятры, і снег раптам пабурэў. Агаліліся ўзгоркі. З-за Дняпра пацягнула пахам прэлага чарназёму ды намытага ў пуцявіны сітняку...

Аляксандру Дароньку не рупіла ўжо ў дарогу. Яшчэ зімою ён атрымаў разлік у тэхучастку і асеў дома. Неяк адразу павесялела ў хаце. Шыракаплечы, дужы, Аляксандр рабіў усё дома і хадзіў на працу ў саўгас. Бацька, Іван Гарасімавіч, інвалід працы, любіў сына. Употай з Матрунай яны ганарыліся ім, што не цураецца хлопец ніякай работы.

Пачалася сяўба. Нядаўні матрос напрасіўся ў прычэпшчыкі. Ну што ж, захацеў — няхай працуе. А потым неяк адразу загаварылі пра хлопца: Дароньку хлебам не кармі, а дай пакорпацца ў маторы...

Даронька экстэрнам здаў экзамены на трактарыста. І раптам, — як гром з яснага неба, — Вера прынесла невясёлую вестку:

— Мяне пераводзяць.

— Куды?

— У Лоеў. Там, у цэнтральным аддзяленні адкрываецца новы ветпункт.

Як часам бывае ў жыцці! Каб стварыць сямейнае шчасце, каб быць разам з Верай, поруч з ёю працаваць, Аляксандр кінуў ранейшую работу, здаў экзамены на трактарыста. Здавалася, цяпер усё будзе добра, аж на табе... Пераводзяць. І зноў, значыць, яна — там, ён — тут. Аляксандр чухаў патыліцу і маўчаў. Каб супакоіць мужа, Вера сказала:

— Я дамоў буду прыходзіць. Тут жа недалёка.

Не, не сказаў ён тады, каб Вера адмовілася ад новай пасады. Ён ведаў: так трэба дзеля агульнай справы.

На світанку, калі яшчэ іншы раз над галавою свецяцца зоры, Аляксандр ідзе з Верай да Дняпра, перавозіць яе на той бок і хуценька вяртаецца дадому, заступае на змену. Хлопцы часам спрабавалі жартаваць з яго, але за сябра заступаўся Сашка, і тыя аціхалі.

Аднойчы на поле прыехаў галоўны інжынер саўгаса. Ён доўга гутарыў з Даронькам, а пасля прапанаваў:

— Пераходзь у цэнтральнае аддзяленне. Ёсць якраз месца трактарыста.

«Мусіць, Вера папрасіла», — падумаў Аляксандр і згадзіўся.

* * *

Тры гады працаваў Аляксандр трактарыстам. Працаваў, як і ўсе, а мо крыху і лепш за іншых. Недарма ў Дароньکі пахвальныя граматы ад райкома камсамола. І не думаў хлопец, што яго чакае наперадзе.

Неяк у канцы 1960 года дырэктар саўгаса Фёдар Цітавіч Лекаркін разам з прарабам Віктарам Рыгоравічам Сакаловым ездзілі ў саўгас «Баравічаны» Наўгародскай вобласці знаёміцца з механізацыяй працы ў свінагадоўлі. А калі вярнуліся, адразу ж узяліся за будаўніцтва нізкасценнага механізаванага свінарніка больш як на тысячу свіней. Работа пачалася дружна, і ўжо ў студзені будынак быў гатовы. У ім трэба было арганізаваць работу па-новаму. Каго ж паставіць за свінара? Выбар прыйшоўся на Аляксандра Дароньку. Яго запрасілі ў кантору саўгаса. У кабінеце дырэктара сядзелі сакратар парткома Мікалай Міхайлавіч Масленка, сакратар камсамольскай арганізацыі Віктар Кукса і яшчэ з паўдзесятка мужчын.

— Сядай, Аляксандр, — прапанаваў дырэктар.

Сеў. А на душы трывога: «Што яны хочуць ад мяне?»

Калі Аляксандр стрэўся позіркам з Віктарам Куксам, той чамусьці затоена ўсміхнуўся. І Даронька яшчэ больш разгубіўся.

— Ведаеш, братка, — пачаў урэшце дырэктар. — У нас да цябе далікатнае пытанне. Вось і думаю, як лепш сказаць. Каб зразумеў адразу...

У Аляксандра крыху адлягло.

— Дык вось што... Свінаром хочам цябе паставіць. Як ты на гэта глядзіш?

Аляксандр здзівіўся. Можа жарт: механізатара ды свінаром?

Думкі перапыніў сакратар парткома:

— Бачыў новы свінарнік? Дык вось... механізатар туды патрэбен. Мы раіліся тут і рашылі, што ты якраз і падыходзіш. Камсамолец. Трактарыст...

— Я з ім нядаўна гутарыў, — умяшаўся Віктар Кукса, — каб падаваў заяву ў партыю. І ведаеце, што ён сказаў: «Рана яшчэ, вось калі што-небудзь значнае зраблю...»

— Вось мы якраз і спадзяемся, што ты зробіш гэтае значнае, — загаварыў дырэктар. — Як вунь Антон Бартуліс ці Лукашкін... Уся краіна пра іх ведае!..

— Слава мне не патрэбна, Фёдар Цітавіч, — падняўся Даронька. — Не хочацца з трактарам развітвацца...

— Дарэмна непакоішся, — запярэчыў дырэктар. — На трактары і будзеш працаваць.

Аляксандр здзіўлена перасмыкнуў плячом.

Пасля той размовы доўга думаў Даронька. І было над чым думаць: браўся ж ён за новую справу. Вядома, Аляксандр бачыў, як кормяць свіней, бо часам памагаў маці. А цяпер вось трэба самому ўсё рабіць. Але што ён усё ж будзе там рабіць? Галоўны заатэхнік Іван Сцяпанавіч Кулага гаварыў, што свіней будуць карміць па-новаму — сырой бульбай і сухімі канцэнтратамі. Даронька чуў пра гэта, але як яно пойдзе, не ўяўляў сабе.

У дапамогу хлопцу вылучылі камсамолку Лізавету Патапенка. Назаўтра яны прымалі гаспадарку. Свіней перагналі ў новае памяшканне.

— Гэта, братка, яшчэ не ўсё, — заўважыў дырэктар саўгаса. — Мы думаем перакінуць сюды і адкормачнікаў. Так што больш за шэсцьсот галоў збярэцца. А вас двое. Раней жа на адкорме працавала больш як дзесяць чалавек.

— Яшчэ мо з гэтага нічога не выйдзе... — не ўтрымаўся Даронька.

— Выйдзе, — ляпнуў па плячы



**Пасля работы ідзе Аляксандр Даронька з жонкай і сынам Валерыкам на бераг шумлівага Дняпра.**



Адзін клопат у работнікаў саўгаса «Лоеўскі» — хутчэй даць краіне як мага больш мяса і малака. Вось і раяцца пра гэта сакратар парткома М. Масленка, галоўны заатэхнік І. Кулага, свінар А. Даронька і дырэктар гаспадаркі Ф. Лекаркін.

Даронькy дырэктар. — На цябе, хлопча, надзея!

У той першы дзень Даронька ўсё турбаваўся пра механізмы. Ён падвозіў канцэнтраты, засыпаў іх у спецыяльны бункер, а потым уключаў рубільнік транспарцёра. Трэба сказаць, што транспарцёр для запраўкі кармушак працаваў бездакорна.

Назаўтра работы станавілася менш — кармушкі запаўняюцца на двое сутак. Але свінні падыходзілі да кармушак неахвотна, рассоўвалі бульбу і, пакорпаўшыся лычам, адыходзілі.

«Чаму не ядуць?» — хваляваўся Аляксандр. І да Лізаветы:

— Ты бачыш? У свіней ніякага апетыту...

— Я ўжо раней заўважыла. Ды што зробіш?.. Каманда ж такая — карміць сырой бульбай.

— Ідзем у кантору.

Там якраз засталі галоўнага заатэхніка Івана Сцяпанавіча Кулагу. Ён выслухаў іх і ўсміхнуўся. Пасля адчыніў шуфлядку стала, дастаў адтуль невялічкую кніжачку і падаў Дароньку.

— Пачытайце. Тут знойдзеце адказ на ваша пытанне.

У той невялічкай кніжачцы падрабязна расказвалася пра вопыт работы вядомай свінаркі з саўгаса імя Дзяржынскага Капыльскага раёна Героя Сацыялістычнай Працы Ганны Нікульскай. Вопытная свінарка расказвала, што і ў яе былі такія ж турботы, але прайшоў час — і свінні прывыклі да незвычайных кармоў.

* * *

Бываюць дні, якія помняцца на ўсё жыццё. Аляксандр, як сёння, памятае тую сакавіцкую раніцу, калі ён ішоў у райком партыі. У дужых грудзях моцна білася сэрца, а ў галаве мроіліся думкі. Яны былі пра адно: зацвердзяць ці не?

Вось і райком. У прыёмным пакоі сакратара многа людзей. Яны пацішу гамоняць, але Даронька не прыслухоўваецца. Ён пазірае на дзверы з таблічкай «Першы сакратар РК КПБ».

І вось дзверы адчыніліся.

Аляксандр увайшоў у кабінет, спыніўся.

— Праходзь, Даронька, — запрасіў сакратар райкома. — Сядай.

«Ну, чаго я так расхваляваўся? — супакойваў сябе Аляксандр. — Тут жа ўсе свае. Вунь Мікалай Міхайлавіч, сакратар парткома, сядзіць...»

У гэты момант Мікалай Міхайлавіч устаў і зачытаў Даронькаву анкету.

— Якія будуць пытанні да таварыша Дароньні? — звярнуўся сакратар да членаў бюро.

— Хай раскажа, як працуе...

Пра што тут гаварыць? Аляксандр глядзеў на членаў бюро і маўчаў.

— Ну, раскажы, Даронька, як ты там дзевяцьсот свіней гадуеш.

— Гэта зусім проста, — асмеліўся Аляксандр. — І мне здаецца, тут няма пра што расказваць.

Усе засмяяліся.

— Няма пра што расказваць, — сакратар паўтарыў словы Дароньні. — Ты што гэта, братка?..

— А колькі адкорміш, Аляксандр, свіней за год?

— Раней думаў паўтары тысячы.

— А цяпер?

— Цяпер думаю, што каля дзвюх тысяч.

— Гэта ж геройства! Сапраўдны працоўны гераізм!

Потым яшчэ гаварылі. Яшчэ задавалі пытанні.

— Хто за тое, каб Аляксандра Іванавіча Даронькy прыняць кандыдатам у члены партыі?.. — раптам спытаў сакратар.

Аднагалосна.

З бюро Аляксандр не ішоў, а, здаецца, бег. І адразу на ферму. У галаве стаялі словы: «Сапраўдны працоўны гераізм!..» Даронька ўсміхнуўся. Які ён герой? Проста працуе, як падказвае сумленне, — і ўсё...

* * *

Беглі дні, ішлі месяцы. Аляксандр Даронька разам з памочніцай Лізаветай Патапенка здавалі дзяржаве сотню за сотняй кормных свіней. Пра іх справы пачалі пісаць у газетах, расказваць па радыё. Але не такі Даронька, каб задзіраць нос, каб заспакоіцца дасягнутым. Ён імкнецца працаваць сёння лепш, чым учора, а заўтра лепей, чым сёння. Маладыя жывёлаводы адкармілі летась 2028 свіней.

Аднойчы Даронькy паклікалі ў кантору і сказалі:

— Збірайся ў дарогу. Паедзеш у Мінск. На рэспубліканскую нараду працаўнікоў сельскай гаспадаркі.

Аляксандр не чакаў гэтага і быў вельмі рады, бо ведаў: на гэту нараду абяцаў прыехаць Мікіта Сяргеевіч Хрушчоў.

Праводзіць сабраліся амаль усе жывёлаводы. Яны моцна ціснулі Аляксандру руку, жадалі шчаслівага шляху і прасілі абавязкова выступіць, расказаць пра саўгас, пра поспехі жывёлаводаў. Хлопец аднекваўся, а калі падышоў да Веры, каб развітацца, тая, між іншым, сказала:

— Цябе, Аляксандр, просяць... Дык глядзі, не падвядзі...

У Мінску Даронька пазнаёміўся з лепшымі жывёлаводамі рэспублікі. Усе, з кім ён ні гаварыў, шчыра дзяліліся сваімі «сакрэтамі». І Аляксандр не таіўся, таксама расказваў усё, як ёсць. З цікавасцю слухалі Даронькy, зайздросцілі яму.

— Эх, каб і ў нас такая механізацыя!..

— А гэта зусім няцяжка зрабіць, — пераконваў Даронька. — Паверце, наш свінарнік з усёй механізацыяй каштуе ўсяго 2 700 рублёў. Пабудаваць яго па сіле кожнай гаспадарцы. Трэба толькі захацець, настояць...

І вось Даронька выйшаў на трыбуну. Заявіў, што ў чацвёртым годзе сямігодкі разам з памочніцай Лізаветай Патапенка бярэцца адкарміць 2 200 свіней. Ён думаў, што яго выступленне не зробіць ніякага ўражання на прысутных. Аж выйшла наадварот. У сваёй прамове на нарадзе Мікіта Сяргеевіч Хрушчоў сярод лепшых людзей рэспублікі назваў і яго прозвішча.

Вяртаўся Аляксандр з Мінска з адной думкай: «Працаваць... Працаваць... Яшчэ лепш працаваць...»

## НЕСПАКОЙ

У пакоі накурана. Сівы дым віецца да столі, ціснецца ў фортку.



Камсамолка Марыя Халімончык зусім нядаўна стала працаваць свінаркай і набыла ўжо добрую працоўную славу.



**Знатнаму свінару памагае Валянціна Леная.**

— Вось мы вызначылі новыя рубяжы, — гаварыў сакратар парткома аб задачах камуністаў на чацвёрты год сямігодкі. — Яны не малыя. Каб выканаць іх, трэба будзе добра папрацаваць. — Мікалай Міхайлавіч паглядзеў на Даронька і зазначыў. — Як ты думаеш, Аляксандр Іванавіч?

— Я, вядома... Мне не цяжка працаваць, але...

Даронька сціх. Усе зразумелі, што ён хацеў яшчэ нешта сказаць, ды спахапіўся.

— Кажы, не бойся, — прыўзняўся дырэктар.

— А чаго баяцца? — загаварыў Даронька. — Я пра сябе хачу сказаць. Вось мы з Лізаветай узяліся адкарміць сёлета 2 200 свіней. Гэта ж не жартачкі!.. Але — каб чырванець потым не давялося...

— Чаму ж чырванець?

— А таму, што самі ведаеце, якія ў нас подсвінкі... Худыя, слабыя. Пакуль ачуняюць ды набяруцца сілы, марокі колькі! Трэба падумаць пра гэта, і адкорм пойдзе хутчэй...

— Праўду кажа! — пачулася з залы. — Даўно трэба падумаць, каб падабраць на ферму самых працавітых людзей!

Але каго іменна?

— Лізавету Патапенка, — прапанаваў Даронька. — Яна згодна, сама гаварыла...

— А ты з кім будзеш? — спытаў Мікалай Міхайлавіч.

— Нікога мне не трэба.

— Адзін?

— А што? Другія ж могуць, як той Лукашкін ці Бартуліс, дык чым я горшы?

— Глядзі сам... Цяжка аднаму.

— Будзе цяжка, папрашу памочніка.

Камсамолка Лізавета Патапенка ахвотна згадзілася перайсці на другую ферму. Яна не спалохалася, што будзе менш зарабляць, бо разумела: так трэба для справы, для роднага саўгаса.

* * *

Вясною і свавольніку Дняпру раздолле. Гуляе сабе, цешыцца, бы і няма яму чаго рабіць. Кожны раз, калі Аляксандр ідзе на работу, не-не, ды і пастаіць трохі, залюбуецца ракой. Ці ж даўно было тое, калі ён гаспадарыў на ёй? Здаецца, зусім нядаўна. А як многа ўжо вады сплыло!..

Аляксандр глядзеў на раку, на хаты, што на процілеглым беразе як бы гойдаліся на вадзе: «Да Хамінкі ўсё ж не дайшлі хвалі. Стаміліся. А што цяпер дома? Даўно ўжо не быў... Ці ўзяліся за сяўбу?»

Раптам яго паклікалі. Хто гэта? А, Міхаіл Канцавы. Як прызначылі яго інспектарам-арганізатарам новага калгасна-саўгаснага ўпраўлення, ён ужо двойчы заходзіў на ферму. Аляксандр паспеў паскардзіцца, што ў яго забралі трактар і цяпер даводзіцца вазіць кармы на свінарнік коньмі. А гэта ж так нязручна, колькі траціцца часу! Канцавы паабяцаў пагаварыць з дырэктарам, памагчы.

Прывіталіся.

— Ну, як твае справы? Як вучоба?

— Справы, як бачыце, — адказаў Даронька. — А вучоба ідзе к канцу, хутка экзамены.

— Ты які клас канчаеш?

— Восьмы.

— Малайчына. Ну, а калі скончыш дзесяцігодку, тады ў інстытут паступіш?

— А чаму ж і не.

Памаўчалі. Ішлі паволі. Канцавы, абдумаўшы Даронькаву просьбу, загаварыў:



**На ферме саўгаса можна сустрэць інспектара-арганізатара Рэчыцкага тэрытарыяльна-вытворчага ўпраўлення М. Канцавога** (у цэнтры). **Разам з заатэхнікам саўгаса Зінай Кемеш** (злева) **і Аляксандрам Даронькам яны ўсе пытанні вырашаюць на месцы.**

— Вось што, братка. Я думаю наконт трактара... Ведаеш, цяпер сяўба, няўпраўка. Але праз дзень-два вернем. Так што пацярпі трохі.

Даронька нічога не сказаў, мусіць, быў згодзен.

— Ну, як Лізавета працуе? Не крыўдзішся на яе? — спытаўся інспектар.

— Што вы! Цяпер зусім не тое. Каб бачылі, якіх парсючкоў мне перадае на адкорм!

Аляксандр спыніўся, узяў Канцавога за локаць:

— У мяне да вас, Міхаіл Аляксеевіч, просьба. Я тут з адной дзяўчынай гаварыў. Марыя Халімончык, камсамолка яна. Дык, ведаеце, на ферму просіцца. Я ўжо гаварыў дырэктару, але каб вы яшчэ сказалі, ён бы абавязкова паслухаў...

Міхаіл Канцавы ўжо не раз сустракаўся з Аляксандрам, і кожны раз ён усё больш радаваўся за Даронька: гэты шчыры і сумленны чалавек не шкадуе сіл і працы для калектыву. Такія людзі, як Аляксандр Даронька, нібы тыя зоры, што вечарамі гараць у небе, над Дняпром-ракою, — ярка свецяць для ўсіх, усім дораць натхненне.

**Саўгас «Лоеўскі»**
**Гомельскай вобласці**

## Гары, камсамольскі аганёк!



# «ПРАЖЭКТАР» ЗНАХОДЗІЦЬ ЦЭЛЬ

### ПУЦЁЎКА Ў ЖЫЦЦЁ

Напярэдадні першамайскага свята раптам з'явіўся «Пражэктар». Першае выступленне дэбютанта было бяскрыўднае і радаснае: ён віншаваў станкабудаўнікоў са святам вясны. Аднак пасля свята яго прамені пачалі сляпіць вочы бракаробам, п'яніцам і гультаям.

Праз некаторы час у «Пражэктара» з'явіўся верны памочнік — ударны атрад «Камсамольскі пражэктар».

Пачалося ўсё з газеты, з аднаго нумара «Комсомольской правды», дакладней, нават з тэлефоннага званка. Раніцай мне пазваніў сакратар райкома камсамола Уладзімір Беркаў.

— Добры дзень, Яфім! Чытаў пра пражэктар?

— Пра які пражэктар? Дзе? — адказваю пытаннем на пытанне.

— Ды сёння ў «Комсомольской правде» ёсць. Новы пачын масквічоў.

Бягу па газеты. Ага, вось і пра пражэктар. Ну што ж, усё правільна. Сілы сабраны ў адзін кулак, шукай цэль і дзейнічай.

У гэты дзень спакойна абдумаць прачытанае не далі. Хлопцы заходзілі адзін за адным. На хаду абменьваліся меркаваннямі і беглі ў цэхі — трэба працаваць. Пасля званілі з гаркома, пыталіся, што думаем рабіць. А потым зноў нехта званіў, цікавіўся, што гэта за «Пражэктар» і ці будзем мы яго ствараць.

Вечарам адбылася нарада. Правільней, гэта была не нарада, а абмен думкамі. Узважвалі ўсе «за» і «супраць», крытычна асэнсоўвалі новы рух. Былі і такія, што раілі не спяшацца, паглядзець, як атрымаецца ў іншых. Пераканаў усіх камсорг інструментальнага цэха Віктар Ніціеўскі:

— Чаго вы, хлопцы, спрачаецеся? Дзейнічаць трэба, а не спрачацца. Работы ў нас шмат: новая тэхніка, станкі для прадпрыемстваў сельскагаспадарчага машынабудавання, выкарыстанне абсталявання, сыравіны і матэрыялаў. Трэба ўзяць пад кантроль усе асноўныя пытанні вытворчасці. Ударны, баявы атрад вельмі патрэбны.

За «Пражэктар», за ўзмацненне камсамольскага кантролю над вытворчасцю выступілі ўсе члены камітэта. У гэты дзень «Пражэктар» атрымаў на нашым заводзе пуцёўку ў жыццё.

### РЭЙД ЗА РЭЙДАМ

На жаль, я не вёў рэгулярных запісаў у дзённіку. Не падумаў пра гэта, ды і часу не было. Цяпер даводзіцца корпацца ў памяці, у запісных кніжках і пратаколах, успамінаць першыя крокі стварэння «Камсамольскага пражэктара».

Адной з форм умяшання камсамольцаў у вытворчыя справы з'яўляюцца рэйды. Правядзенне іх стала ў нас на заводзе добрай традыцыяй. Рэйдамі асабліва захапляюцца члены камітэта камсамола канструктар Леанід Хурсік і слесар-зборшчык Алег Гарахавік. Прызнацца, радуе нас такое спалучэнне: зборшчык і канструктар. Абодва добра ведаюць вытворчасць, умеюць, як кажуць, глядзець у корань.

Аднойчы ў камітэце камсамола гутарка ішла аб чарговым рэйдзе.

— Захоўванне і выкарыстанне металаў, — каротка вызначыў мэту рэйду Леанід.

Бачу па вачах Алега, што ён не згодзен, але раптам чую:

— А ці не лепш: «захоўванне і выкарыстанне інструменту і прыстасаванняў»?

Хітры Алег: хоча даведацца, як падрыхтаваўся да рэйду Леанід. І вядома, канструктар гатовы абараняць свае думкі, меркаванні.

— Ты кажаш праўду, Алег. Такі рэйд патрэбны, але мы яго правядзем пазней. Цяпер важна іншае: канструктары стараюцца зменшыць вагу станка, эканомяць метал, а ў цэху бываюць выпадкі, калі метал глумяць, перапрацоўваюць яго ў стружку.

Леанід прыводзіць свежы прыклад: на ўчастку наладак робяць інструментальную пліту вагою 197 кілаграм з загатоўкі, якая важыць 450 кілаграм.

— А цяпер падлічыце і зрабіце вывады, — заканчвае ён сваю думку.

Падлічваць няма чаго — 253 кілаграмы металу ідзе ў стружку. Для ўсіх вывад ясны: рэйд патрэбен, і як мага хутчэй. Вырашаем не цягнуць — заўтра ж рэйдавая брыгада адправіцца ў дарогу.

Рабочы дзень скончыўся. Члены рэйдавай брыгады прыступілі да работы. У цэхах да іх далучыліся камсоргі і камсамольскія актывісты. Не стану апісваць падрабязнасці рэйду. Дастаткова сказаць, што пасля апублікавання фотаабвінавачання дырэктар завода Сяргей Аляксандравіч Мурыгін падпісаў вялікі загад па выніках камсамольскага рэйду. Вінаватыя ў няправільным захаванні і выдаткаванні металаў былі пакараны. Праз некаторы час мы праверылі, як выконваецца загад дырэктара. Многія з ранейшых недахопаў былі ліквідаваны.

Шмат гаварылі на заводзе пра гэты рэйд. Вельмі прыемна было слухаць, як адгукаліся аб рабоце брыгады рабочыя, інжынеры і кіраўнікі завода. Але, вядома, больш за ўсё радавалі нас зрухі ў рабоце некаторых служб завода.

Даводзілася чуць і іншае. Некаторыя начальнікі цэхаў гаварылі:



Леанід Хурсік і Алег Зільбург сабраліся, каб абмеркаваць вынікі чарговага рэйду.

— Хто вы такія? Чаму без майго дазволу фатаграфуеце?

Або:

— Ходзяць тут, забаўляюцца фотаапаратам, працаваць перашкаджаюць!

Сустракалі нас на першым часе не вельмі гасцінна. Але мы ўсё ж рэгулярна прыходзілі ў цэхі з нашым фатографам Яўгенам Мацюшам.

Аднойчы заходзім у першы механічны цэх, дзе начальнікам Валянцін Аляксандравіч Брэйкін. Адразу бачым непарадак: каштоўныя ўніверсальна-зборныя прыстасаванні для апрацоўкі дэталей брудныя, накіданыя адно на другое.

Пакуль мы запісваем і фатаграфуем, тэхнолаг цэха Вячаслаў Квяткоўскі ўжо наводзіць парадак. Адразу знайшлося каму і пачысціць, і скласці прыстасаванні. Пасля гэтага цэхавы «Пражэктар», які ўзначальвае камсорг Казімір Шымусік, узяў пад свой кантроль выкарыстанне і захаванне ўсіх прыстасаванняў.

У другім механічным цэху прамень «Пражэктара» трапіў на працяжны станок: на ім працавалі без дапаможнага кранштэйна. А гэта пагаршае ўмовы работы. Па настойліваму патрабаванню «Камсамольскага пражэктара» кранштэйн быў устаноўлены.

Цэхавы «Пражэктар» першага механічнага выявіў, што майстры не перадаюць змен адзін аднаму. Гэта выклікала неарганізаванасць — часта ўзнікалі непаразуменні, майстры звальвалі віну адзін на другога. Дасціпная карыкатура паставіла ўсё на сваё месца.

## ШТАБ САДЗЕЯННЯ

Рэйды, хоць і даюць добрыя вынікі, але праводзяцца рэдка — адзін-два разы ў месяц. А вытворчыя пытанні патрабуюць неадкладнага вырашэння. Яны ўзнікаюць штодзень. Як і хто па лініі камсамола будзе іх вырашаць?

Патрэбен баявы аператыўны штаб — штаб садзеяння вытворчасці. І такі штаб быў створаны. У яго склад увайшлі прадстаўнікі ўсіх цэхаў і аддзелаў, а ўзначаліў яго Алег Гарахавік.

Прайшла першая дэкада месяца. На ўчастку зборкі каробак хуткасцей усё ў парадку. І раптам, трывога! Трэці механічны цэх затрымлівае выраб некалькіх дэталей. Што гэта азначае, зборшчыкі ведаюць вельмі добра: амаль гатовыя каробкі могуць затрымацца на некалькі дзён і са спазненнем паступяць у зборачны цэх. Што рабіць? Алег Зільбург, майстар участка зборкі каробак хуткасцей, адразу ж звяртаецца ў штаб садзеяння. І вось ужо трывожны сігнал вывешан у трэцім механічным. Яго чытаюць усе: майстры, рабочыя, тэхнолагі, начальнік цэха. Прыкладна праз гадзіну цікавімся, якія прыняты меры? Камсорг цэха Барыс Канаш паведамляе, што дэталі запушчаны ў вытворчасць і к вечару паступяць на ўчастак зборкі.

Ёсць і другая работа ў членаў штаба садзеяння. Сігналы штаба часам выходзяць за межы завода і адпраўляюцца ў падарожжа на прадпрыемствы - пастаўшчыкі. А бывае і наадварот, калі да нас прыходзяць сігналы з іншых прадпрыемстваў. Вось адзін з іх, прысланы камсамольскім штабам Курганскага машынабудаўнічага завода: **«Дарагія таварышы! Згодна дагавору, Ваш завод павінен паставіць у адрас нашага завода адразны станок 8Б66. Просім аказаць шэфскую дапамогу ў адгрузцы станка ў наш адрас.**

**З камсамольскім прывітаннем член камсамольскага штаба І. Саранскіх».**

Праз некалькі дзён мы паведамілі ў камсамольскі штаб Курганскага завода, што адразны станок адгружаны.

## АНАТОЛЬ ЖУК І ЯГО СЯБРЫ

Афіцыйна ён прымае наведвальнікаў з чатырох да пяці гадзін. Але трапіць да яго можна ў любы час. У тэхналагічнай лабараторыі сядзіць за сталом малады чарнавалосы хлопец. Гэта тэхнолаг Анатоль Жук, начальнік штаба ўдарнага атрада.

Цяпер аб прыёмных гадзінах. Анатоль не дэпутат. Ён — кансультант заводскага аддзела Усесаюзнага таварыства вынаходнікаў і рацыяналізатараў. Пасля работы ён застаецца, каб аказаць тэхнічную дапамогу рацыяналізатарам.

З выгляду крыху флегматычны, Анатоль аднагалосна быў зацверджаны начальнікам штаба «Камсамольскага пражэктара». Добры інжынер і рацыяналізатар, ён заўсёды ўдумліва, па-дзелавому падыходзіць да вырашэння кожнага пытання.

Калі яго зацвярджалі на пасяджэнні камітэта, ён сказаў:

— Я згодзен, але давайце пачнём без спешкі. Першыя крокі павінны быць цвёрдыя і ўпэўненыя. Толькі ў гэтым выпадку нас прызнаюць.

Сваім намеснікам Анатоль прапанаваў зацвердзіць Мікалая Вішнёва, тэхнолага трэцяга механічнага цэха. Вясёлы і рухавы Мікалай добра дапаўняў ураўнаважанага Анатоля. Па характару сваёй работы Мікалай часта бывае ў іншых цэхах.

Было таксама створана сем ударных груп: новай тэхнікі і тэхналогіі на чале з Анатолем Жукам; выкарыстання электраэнергіі і сыравіны, якую ўзначаліў Эрнст

Калі б ні сустрэліся члены штаба «Камсамольскага пражэктара», ім ёсць пра што пагаварыць. Вось і на гэты раз, горача спрачаючыся, ідуць па заводскім двары Эла Лабатава, Уладзімір Шандрыкаў, Мікалай Бондар, Анатоль Жук і Віктар Нічыпаровіч.



Ніканчык; якасцю выпускаемай прадукцыі цікавіцца кантралёр Валянціна Більдзюкевіч. Групу мадэрнізацыі абсталявання ўзначаліў загадчык планава-размеркавальнага бюро рамонтнага цэха Іван Гаўрылін; знешнімі пастаўкамі заняўся дыспетчар Фелікс Кірзнер. У карэспандэнцкую групу ўвайшоў Яўген Мацюш, а кіназдымачную групу ўзначаліў Анатоль Шлопак. Групай аналізу кіруе Эла Лабатава.

Такая структура штаба дае нам магчымасць ажыццяўляць пастаянны кантроль над асноўнымі ўчасткамі вытворчасці. Пры неабходнасці ўсе групы аб'ядноўваюцца і вырашаюць адну найбольш важную задачу.

Ударным атрадам памагаюць шматлікія актывісты ў цэхах і аддзелах.

Прайшло тры месяцы з дня стварэння нашага «Камсамольскага пражэктара», а ў яго святло трапілі ўжо ўсе ўчасткі вытворчага жыцця завода.

Цяжэй за ўсё было арганізаваць нам «Пражэктар» у спецыяльным канструктарскім бюро № 12. Камсорг Генрых Буланкоў гаварыў:

— Нам «Пражэктар» не патрэбен. Я не бачу задач, якія ён мог бы вырашаць.

Мы думалі інакш. СКБ распрацоўвае праекты станкоў, забяспечвае дакументацыяй завод. Ад канструктараў залежаць у многім і якасць станкоў і тэрміны іх вырабу.

Праз некалькі дзён сабралі камсоргаў аддзелаў і прадаставілі ім самім вызначыць задачы «Пражэктара». Спрачаліся доўга і горача, як кажуць, да знямогі. Урэшце прыйшлі да вываду, што «Пражэктар» трэба стварыць абавязкова. Вызначыліся і задачы: кантроль за ходам распрацоўкі праектаў, шэфства над заказамі для прадпрыемстваў сельскагаспадарчага машынабудавання, кантроль над работай аддзела забеспячэння.

Такім чынам, «Пражэктар» пры спецыяльным канструктарскім бюро № 12 быў створаны. Цяпер ім кіруе канструктар Анатоль Мельянцаў.

## ГАЛОЎНЫ НАПРАМАК

Задачай нумар адзін, галоўным напрамкам работы «Пражэктара» аб'яўлена барацьба за максімальнае выкарыстанне станочнага абсталявання. Мы правялі масавы рэйд па ўсіх цэхах і на ўсіх зменах. Кожны дзень у штаб паступалі весткі аб прастоях абсталявання, у цэхах і ў заводскім «Пражэктары» з'явіліся сігналы.

Партыйнае бюро завода вырашыла заслухаць на сваім пасяджэнні пытанне аб выкарыстанні абсталявання. Усе матэрыялы па рэйду мы перадалі ў партыйнае бюро завода. Цяпер у кожным цэху працуюць пад дэвізам: «Ні хвіліны прастою! Усім станкам работу!»

Нас хвалюе і другое важнае пытанне — своечасовае выкананне заказаў для прадпрыемстваў сельскагаспадарчага машынабудавання. Спецыяльны працяжны станок для Харкаўскага завода «Серп і молат» прайшоў, як кажуць, па зялёнай вуліцы. У другім механічным цэху камсамольцы адзначалі ў графіку ход вырабу дэталей. Пра тых, хто затрымліваў дэталі, пісалі «Маланкі». У цэхах стварана сапраўды баявая абстаноўка. На сігналы рэагавалі хутка. Інструментальны цэх затрымліваў выраб апраўак для другога механічнага цэха. Члены «Камсамольскага пражэктара» другога цэха Іда Чыкілеўская і Алег Гарахавік накіравалі сігнал інструментальшчыкам. За справу ўзяўся энергічны Віктар Ніціеўскі, камсорг цэха. Хутка разабраўшыся ў становішчы, Віктар дамовіўся з тэрмістамі, каб яны загартавалі апраўкі. А к вечару апраўкі ляжалі ўжо на стале кантрольнага майстра.

Мы разумеем, што галоўная задача «Пражэктара» — не сігналізаваць аб недахопах, а памагаць у іх ліквідацыі. Самае асноўнае ў працы — заваяваць павагу і давер'е. Дзеля гэтага патрэбны прынцыповасць, сумленнасць, справядлівасць і ўпартасць. І яшчэ трэба актыўна ўмешвацца ў вытворчае жыццё, але толькі не баяцца і не спыняцца на палавіне шляху.

І зусім няправільна думаюць тыя, хто сумняваецца — ці пакінуць ім старыя формы працы — кантрольныя пасты, штабы — ці скасаваць іх. Мы лічым, што трэба не толькі пакінуць іх, але і ўмацаваць, — актывізаваць усе формы работы. Тут трэба зразумець, што чым больш будзе памочнікаў у «Пражэктара», тым больш аператыўна ён будзе працаваць, тым лепш зможа «асвятліць» розныя ўчасткі жыцця завода. Калі ж у «Пражэктара» не будзе вялікага актыву, дык ён не здолее па-сапраўднаму давесці да канца пачатую справу.

«Пражэктар» — гэта добрая, дзейсная форма грамадскага, камуністычнага кантролю, якая памагае нам хутка і своечасова ліквідаваць недахопы. Як правіла, «Камсамольскі пражэктар» працуе добра там, дзе адміністрацыя і партыйная арганізацыя падтрымліваюць і накіроўваюць усю работу «Пражэктара». Кіраўніцтва нашага завода падтрымала нас, і мы вельмі ўдзячны яму за гэта.

Работа моладзі ва ўдарным атрадзе памагае выхаванню камуністычных адносін да працы, памагае вырашаць важную задачу стварэння матэрыяльна-тэхнічнай базы камунізма. «Камсамольскі пражэктар» нашага завода шукае і знаходзіць новыя цэлі.

**Яфім КРАКАЎ,**
**сакратар камітэта камсамола Мінскага станкабудаўнічага завода імя Кірава**

# СЫН ПАСІЯНАРЫІ

У цэнтры Валгаграда на плошчы Загінуўшых Барацьбітоў пахаваны адважны сын іспанскага народа, афіцэр Савецкай Арміі, Герой Савецкага Саюза Рубен Ібарурy.

Каля надмагільнай пліты растуць кветкі, ляжаць свежыя вянкі. Жыве ў памяці людзей высакародны воблік Рубена Ібарурy. Яго партрэт і камсамольскі білет беражна захоўваюцца ў музеі абароны Царыцына — Валгаграда.

Я гляджу на стары, пажоўклы здымак з армейскай газеты. На здымку — жывы, энергічны, вельмі абаяльны юнак. Крыху хударлявы, высокага росту, з прадаўгаватым тварам і прамым носам. Ва ўсім вобліку Рубена нейкі парыў, імкненне наперад.

Рубен нарадзіўся 9 студзеня 1920 года ў Самаростра, у гарах Біскайі. Маці яго — Далорэс Ібарурy, дачка гарняка і жонка гарняка, — з дзяцінства зведала, што такое бяспраўе, галеча, катаржная праца і ўпартая барацьба. Яна рана стала жонкаю і маці, і вельмі рана праявіліся яе цудоўныя здольнасці захапляць і пераконваць людзей сваім узнёслым, шчырым словам.

Перакласці даслоўна імя, якім стаў называць яе народ, — «Пасіянарыя» — вельмі цяжка. Для іспанцаў у гэтым слове заключана высокая апанаванасць ідэяй, гатоўнасць прыняць любыя пакуты ў імя яе, святая вера ў перамогу свабоды, праўды. Усё гэта ўбачыў народ у Далорэс — Пасіянарыі.

Таварышы па падпольнай барацьбе называлі яе чарнавокага хлопчыка не інакш як «Рубен, сын Пасіянарыі». У сям'і біскайскага гарняка часта чуў ён словы: «барацьба», «свабода», «рэвалюцыя», «Ленін», і гэтыя словы сталі з дзяцінства роднымі і блізкімі юнаму іспанцу.

Далорэс Ібарурy пра гэтыя гады жыцця свайго сына пісала яго аднапалчанам:

«Калі Рубену было трынаццаць год, ён прыехаў са мною ў Мадрыд, дзе адразу ж звязаўся з піянерамі. У цяжкі для кампартыі час Рубен прадаваў партыйную газету на вуліцах Мадрыда і працаваў у кварталах рабочых, ашукваючы пільнасць паліцыі, якая праследавала і палявала за гэтай газетай.

Старэйшыя таварышы не раз прасілі мяне забараніць Рубену ўдзельнічаць у дэманстрацыях, калі ўсе былі перакананы, што не мінуць сутычак з паліцыяй. Аднойчы я хацела ўтаіць ад яго вестку пра чарговае выступленне. Але Рубену стала вядома пра гэта. І ў той час, калі я збіралася пайсці на дэманстрацыю, Рубен мне сказаў: «Пачакай мяне, я пайду з табою». Я запярэчыла: «Ты яшчэ хлопчык, а на гэту дэманстрацыю ідуць толькі дарослыя людзі». Рубен з абурэннем адказаў: «І ты яшчэ лічыш сябе рэвалюцыянеркай! Вось як ты хочаш выхоўваць сваіх дзяцей...»

Рубен пайшоў на дэманстрацыю, якая, як мы і думалі, не абышлася без нападу паліцыі, прычым адзін таварыш быў забіты і некалькі таварышаў паранены».

Ішлі гады. Над Іспаніяй навісалі грозныя хмары. У 1934 годзе, калі пачалася магутная забастоўка астурыйскіх шахцёраў, паліцыя арыштавала пад залог дзяцей Далорэс Ібарурy — Рубена і Амаю. З вялікімі цяжкасцямі іх удалося вырваць з паліцэйскіх кіпцюроў. Таварышы з кампартыі вырашылі адправіць Рубена і Амаю ў Савецкі Саюз. І яны прыехалі сюды ў 1935 годзе.

Іспанію ахапіла полымя вайны. Крылатыя словы Далорэс Ібарурy, якія абляцелі ў той час увесь свет: «Лепш памерці стоячы, чым жыць на каленях!» — клікалі на барацьбу за свабоду і шчасце народаў. Болем сціскалася сэрца Рубена. Шмат думак тоўпілася ў галаве. Ён едзе ў Валгаград і паступае ў ваеннае вучылішча. Напружана, не шкадуючы ні сіл, ні часу, шаснаццацігадовы юнак вучыцца ваеннай справе.

«Хутчэй, хутчэй дадому, на фронт!» — гэта думка не давала спакою. Не закончыўшы вучылішча, ён паехаў у Іспанію, уступіў у народную армію, дзе служыў у такіх выдатных камандзіраў-камуністаў, як Мадэста і Матэ Залка.

У бітвах на рацэ Эбра Рубен камандаваў падраздзяленнем разведчыкаў. Па заданню Мадэста смельчакі перабраліся на варожы бераг, знялі фашысцкіх вартавых і забяспечылі пераправу дванаццатага батальёна імя Гарыбальдзі. За гэты подзвіг Рубен атрымаў чын сержанта.

Прайшло два дні. Вораг атакаваў рэспубліканцаў. Камандзір батальёна ў бінокль наглядаў за тым, як ідзе бой. Ён заўважыў у рэспубліканскіх пазіцыях пункт, куды памкнуліся фашысты.

— За мной! — усклікнуў Рубен.

Націск значна большага па сілах праціўніка быў адбіты. У гэтым баі Рубен быў цяжка паранены, але не пакінуў поля бою.

Лярыда адкрывала шлях на Барселону. За тыдзень да таго, як Лярыду ўзялі фашысты, у барселонскі шпіталь да сына прыехала маці.

— Мама, Лярыду здалі? — спытаў Рубен.

— Яшчэ не, але становішча цяжкае...

— Я пайду на фронт.

Яна маўчала.

Пад Лярыдай Рубену прыйшлося камандаваць ротай неабстраляных салдат. На іх наступалі італьянскія фашысцкія танкі. Праціўнік абыходным рухам акружыў роту Рубена. Асабістым прыкладам, мужнасцю і вытрымкай сын Пасіянарыі натхняў байцоў. Многія з іх загінулі ў гэтай няроўнай схватцы з фашысцкімі танкамі. У другі раз параненага, непрытомнага, Рубена вынеслі да сваіх таварышы.

Да французскай мяжы адыходзілі апошнія рэзервы рэспубліканскай арміі. Да павозкі, на якой ляжаў Рубен, падышлі члены ЦК кампартыі Хасэ Дзіяс і Лістэр.

— Рубен, — сказаў Дзіяс, —



**ПЕРШЫЯ ТВОРЫ**

Міхаіл МОЎЧАН нарадзіўся ў 1925 годзе на Гродзеншчыне. Яшчэ перад вайной разам з бацькамі быў паехаў у Аргенціну шукаць працы. У 1956 годзе ён вярнуўся на радзіму і паступіў у Беларускі тэатральна-мастацкі інстытут, які скончыў сёлета, абараніўшы дыпломную працу — серыю літаграфій пад назвай «У пошуках лепшага жыцця».

у Францыі цябе інтэрніруюць, магчыма, нават трапіш у канцлагер. Але мы зробім усё магчымае, каб сын Пасіянарыі зноў быў у сяброў.

І пацалаваў яго ў бледны лоб.

— А дзе мама?

— Яна з супрацоўнікамі ЦК і рэдакцыі «Фрэнтэ Роха», яна раскажа ўсяму свету пра трагедыю нашага становішча, пра здраду чэмберленаў. Лепш за Пасіянарыю гэта ніхто не зробіць.

Пакутлівым для Рубена быў шлях у канцлагер для інтэрніраваных. Але на поўдні Францыі ў яго знайшлося многа сяброў. Яны арганізавалі ўцёкі.

Рубен зноў апынуўся ў Савецкім Саюзе.

Дзевятнаццацігадовы камсамолец, барацьбіт-антыфашыст ведаў, што хоць рэспубліканцы і былі пераможаны, але барацьба будзе працягвацца.

У 1940 годзе Рубен ідзе ў Чырвоную Армію. Ён ганарыўся тым, што служыць у Першай Маскоўскай пралетарскай дывізіі. Праз некаторы час Рубен атрымаў званне лейтэнанта і стаў камандаваць кулямётным узводам.

Такім вось, поўным нянавісці да фашызму, пайшоў Рубен Ібаруры на фронт у першы ж дзень нападу на нашу краіну гітлераўскіх захопнікаў.

Пры абароне моста каля горада Барысава ён быў паранены. Упарты, жорсткі бой за мост працягваўся некалькі гадзін. Калі змоўклі апошнія стрэлы, камандзір палка размясціў байцоў на кароткі адпачынак, а ўзводу Рубена Ібаруры загадаў заняць пазіцыі баявой аховы ля моста. Гітлераўцы зноў пайшлі ў атаку. Яны спадзяваліся змяць танкамі савецкіх салдат.

— Сябры, — звярнуўся Рубен да байцоў, — не прапусцім фашыстаў. Но пасаран! — крыкнуў ён па-іспанску. І залёг за супрацьтанкавае ружжо.

Фашысцкія танкі адкрылі ўраганны агонь з гармат і кулямётаў. Але агонь байцоў Рубена Ібаруры выводзіў са строю адну за другой машыны ворага. Моцны ўдар у нагу зваліў Рубена. Паранены, ён зрабіў яшчэ адзін стрэл амаль ва ўпор па танку.

Пацягнуліся доўгія дні лячэння. Спачатку ў Маскве, потым у Куйбышаве і нарэшце ва Уфе.

Не дачакаўшыся, пакуль зажыве рана, ён выпісаўся са шпіталю і паехаў у Маскву. Тут сустрэў даўняга сябра Арцёма Сяргеева, мужа сястры Амаі. Гаварылі пра вайну, пра тое, што ворага адагналі ад Масквы, але баі перамясціліся на поўдзень.

— А мы сядзім у тыле. Не, так нельга, — узбуджана гаварыў Рубен.

— Куды табе з такімі ранамі? Падлячыся. А чаму ты не пішаш маці? — спытаў Арцём.

— А што я буду пісаць? — ускінуў густыя бровы Рубен. — Маё месца на фронце, а я сяджу ў Маскве.

Праз некаторы час Рубен пайшоў у галоўнае ўпраўленне кадраў Міністэрства абароны і дабіўся, каб яго залічылі ў дывізію. Вечарам таго ж дня паехаў на фронт, ледзь паспеўшы пазваніць сястры Амаі. Больш родныя яго не бачылі.

Ужо з Валгаграда 13 жніўня 1942 года Рубен пісаў:

«Дарагая мама! Я не пісаў табе, пакуль не ведаў, куды мяне прызначаць. Сягоння я магу табе сказаць гэта. Знаходжуся ў вядомым месцы, якое для мяне вельмі дарагое. Гэта горад, дзе я вучыўся...

Мне хочацца хутчэй у бой. Можаш быць перакананa, што я выканаю свой камсамольскі і воінскі абавязак...»

23 жніўня 1942 года фашысты фарсіравалі Дон. Буйныя сілы мотапяхоты і танкаў рынуліся на поўдзень, каб адсюль уварвацца ў Валгаград. На іх шляху жалезнай заслонай сталі савецкія войскі. Галоўны ўдар на гэтым участку лёг на плечы Гвардзейскай 35 дывізіі. Яна павінна была заняць абарону на фронце Самахвалаўка — Катлубань.

Палкі дывізіі яшчэ знаходзіліся ў дарозе. На рубеж разгортвання быў пастаўлены перадавы атрад. Ён складаўся са стралковага батальёна і кулямётнай роты, якой камандаваў гвардыі капітан Рубен Ібаруры. Ноччу перадавы атрад завязаў жорсткі бой з праціўнікам. Батальён утрымліваў рубеж да таго часу, пакуль не падышлі палкі дывізіі. Але гэта быў толькі пачатак. Перадавы атрад атрымаў цяжкае заданне — прыкрыць правы фланг дывізіі каля хутара Уласаўка.

Здавалася, гэта было звыш чалавечых сіл: удзень салдаты былі ў дарозе, ноччу вялі цяжкі бой. На досвітку таксама завязаўся бой. Загінуў камандзір батальёна.

Рубен Ібаруры ўзначаліў батальён. Ён сказаў коратка, з цвёрдай рашучасцю, як гаварыў у баі на Эбра і пад Лярыдай у Іспаніі, як гаварыў пад Барысавам у Беларусі:

— Фашысты не пройдуць — но пасаран!

Зноў бой. Вузкі ўчастак абароны палаў у агні. А калі фашысты кінуліся ў атаку, зноў пачалі біць нашы кулямёты і аўтаматы.

Потым падняўся з кінжалам у руцэ Рубен Ібаруры, за ім у адзіным імкненні ўсе астатнія. Гвардзейцы сутыкнуліся з ворагам. Пачалася рукапашная схватка... Калі перавага ў баі была на баку гвардзейцаў, фашысты ўжылі новы манеўр. Свежымі сіламі пяхоты пры падтрымцы танкаў яны ўдарылі з флангаў. Батальён трапіў у агнявыя абцугі. Рубена раніла ў жывот. Ён пахіснуўся і паваліўся на зямлю. Абмацаў сябе, дакрануўся да жывата — рэзкі боль працяў усё цела. Яму зрабілася горача, вочы памутнелі. Але ён быў жывы і, намацваючы ручку кінжала, імкнуўся працягваць бой...

Рашучым штурмам адбіўшы ў ворага гэты вогненны кавалак волжскай зямлі, аднапалчане доўга шукалі Рубена. Пачало цямнець, а знайсці яго ўсё не маглі. Заглядвалі ў кожны кут траншэі, у кожную варонку, абмацвалі, здавалася, кожны метр зямлі. Нарэшце знайшлі. Рубен ляжаў уверх тварам, пульс у яго ледзь-ледзь быў прыкметны. Яго павезлі ў шпіталь. Калі ў палату да Рубена прыйшлі аднапалчане, ён, гледзячы на іхнія змрочныя твары, крыху прыўзняўся і сказаў:

— Не трэба, сябры, слёз. Я паміраю за Іспанію і за Савецкі Саюз. Перадайце маці, што я змагаўся, як сын Пасіянарыі.

І яшчэ дадаў, з цяжкасцю вымаўляючы кожнае слова:

— Калі давядзецца каму з вас быць у Іспаніі, пакланіцеся ёй ад мяне, пацалуйце яе зямлю...

І змоўк назаўсёды.

«Няма больш нашага Рубена», — гэтыя трывожныя словы абляцелі ўсю дывізію. На мітынгах, перад боем савецкія воіны кляліся адпомсціць ворагам за смерць сына Пасіянарыі.

— Гераічная смерць Рубена Ібаруры, — гаварыў на пахаванні героя член Ваеннага Савета фронту М. С. Хрушчоў, — гэта яго бяссмерце. У свае маладыя дваццаць два гады загінуў ён на полі бою, да канца выканаўшы свой воінскі абавязак. Памяць аб ім навечна застанецца ў сэрцах савецкіх людзей і нашых верных сяброў — іспанскіх барацьбітоў супраць фашызму. Палымяны сын Іспаніі, Рубен Ібаруры ваяваў на савецкай зямлі гэтак жа самаадданa і гераічна, як і савецкія добраахвотнікі Інтэрнацыянальнай брыгады ў Іспаніі. Подзвігі герояў,



**Герой Савецкага Саюза Рубен Ібаруры. Май. 1941 г.**

што аддалі жыццё ў агульнай барацьбе за свабоду, ніколі не будуць забыты, яны народзяць новых герояў і новыя будучыя подзвігі.

Калі савецкія салдаты ўзялі Берлін, нехта на адной з калон рэйхстага выскраб штыком: «Не прайшлі, гáды. Но пасаран! Тут мы разграмілі фашызм».

Фашызм не прайшоў. Але ён застаўся ў Іспаніі. З таго часу над Іспаніяй — чорная ноч. Але мы ведаем — іспанскі народ пад кіраўніцтвам сваёй слаўнай камуністычнай партыі працягвае барацьбу. Заклік, які ўпершыню прагучаў з вуснаў Пасіянарыі, гучыць у Іспаніі і сёння. «Но пасаран! Фашысты не пройдуць!»

Радзіма Рубена — шахцёрская Біскайя — зноў стала сімвалам і сцягам іспанскіх працоўных за свабоду Радзімы. Ва ўсім свеце расце магутная хваля салідарнасці з народам Іспаніі, які вядзе барацьбу за светлую будучыню сваёй краіны.

Іспанскі народ пераможа. Ён заўсёды будзе памятаць імя Рубена Ібаруры, сына Пасіянарыі...

**Сямён ДЫХНЭ,**
**маёр запасу**

*Пра наш маральны кодэкс*

**Сяргей ГРАХОЎСКІ**

# ДЛЯ ШЧАСЦЯ ЖЫВЕ ЧАЛАВЕК

Нам насустрач па вуліцах і плошчах ідуць людзі. Паспешлівыя юнакі і дзяўчаты, задуменныя пажылыя жанчыны і сярэдняга веку мужчыны з пасівелымі без пары скронямі. Адны з іх усміхаюцца, другія ссунулі бровы ў глыбокай задуме. Пра што яны думаюць? Што іх радуе? Што непакоіць? Можа ў гэты момант у некага нарадзілася мудрае рашэнне яшчэ нябачанага архітэктурнага ансамбля, а нехта знайшоў рашэнне канструкцыі новай машыны. Магчыма, у сэрцы аднаго юнака загучалі радкі натхнёнай паэмы аб маладосці, а другі ў гэтую хвіліну цвёрда рашыў сказаць сваёй каханай тое, на што так доўга не адважваўся.

Ідуць людзі. Яны заўсёды спяшаюцца, пазіраюць на гадзіннікі, бо час сапраўды набірае касмічныя хуткасці. За ім трэба не толькі паспець, але і абагнаць яго. Такі ўжо характар у савецкага чалавека, няўрымслівы і неспакойны, дапытлівы і прагны, бо ён жыве не толькі для сябе, дбае не толькі пра сённяшні дзень. У яго шырокія далягляды, акрэсленыя планы, велічная мэта, імя якой — камунізм.

Мы часта ў характарыстыках пішам пра чалавека, што ён добры работнік, увесь час перавыконвае вытворчыя нормы, старанна ставіцца да сваіх абавязкаў, не мае адміністрацыйных спагнанняў, але забываемся сказаць, ці добры ён чалавек, ці клапатлівы ён муж і бацька, ці шчыры ён з людзьмі, ці чулы і ўважлівы да кожнага чалавека. Таму і здараецца, што, толькі прачытаўшы яго прозвішча ў газетнай калонцы аб скасаванні шлюбу, мы даведваемся пра яго сямейную трагедыю і пачынаем шаптацца, паціскаць плячыма і не адважваемся ўмяшацца ў «чужыя справы».

У савецкага чалавека няма «чужых спраў», няма «чужых клопатаў». Усё нас хвалюе, усё радуе і засмучае, бо законам нашага жыцця стала: чалавек чалавеку — таварыш, друг і брат. У гэтым братэрстве — сіла і чысціня нашага грамадства, у ім загартоўваюцца і праяўляюцца нашы характары, усё наша маральнае аблічча.

Чым больш у цябе сяброў на зямлі, тым радасней, тым лягчэй ісці ў любую дарогу. А дарога ў нас вялікая і светлая. Яе пройдзе толькі той, хто пазбавіцца ад непатрэбнага грузу мінулага, ад перажыткаў, якія

цягнуць назад, хто ачысціць душу ад усяго дробязнага і цёмнага — ад эгаізму і злосці, ад уласніцкіх путаў і чэрствасці. З душою, акрылёнаю неўміручаю ідэяй камунізма, кожны з нас павінен ісці ў заўтрашні дзень, думаць аб тым, што ён можа і што павінен зрабіць на зямлі, клапаціцца пра тых, што прыйдуць яму на змену.

Будучыня чалавецтва куецца сёння ў кожнай сям'і, і мы адказныя за будучыню кожнага члена сям'і. Мы павінны думаць аб ім ад калыскі да таго дня, калі выправім сваё дзіця ў вялікую дарогу.

## РАБОЧАЯ ДЫНАСТЫЯ

Мы не вядзём геральдыкі, не пішам сваіх радаслоўных. У нашай вялікай савецкай сям'і ёсць адзін герб — Серп і Молат, асветлены сонцам і смелаю мараю. Біяграфія двух-трох пакаленняў аднаго роду можа расказаць больш, чым дзесяткі кніг, бо ў ёй змясцілася цэлая эпоха, суровая і баявая, шчаслівая і бясконца дарагая сэрцу кожнага савецкага чалавека.

...Па вуліцы ішла пажылая жанчына. Невысокага росту, шырокая ў плячах, там-сям сівізна на галаве, а вочы зусім маладыя і чыстыя. Зірнеш у іх, і можаш даверыць такому чалавеку самае дарагое. Я ж у яе спытаў толькі дарогу. Жанчына спынілася, выслухала мяне, вярнулася назад і павяла нацянькі да завулка, які заблытаўся сярод новых кварталаў нашай сталіцы.

— А да каго вы там ідзяце? — пацікавілася мая клапатлівая праважатая.

Я сказаў, што шукаю майстра цэха завода імя Кірава Пятра Віктаравіча Кардымона. Жанчына адразу спынілася, падняліся бровы, добрыя светлыя вочы пачалі ўглядацца ў мяне, нібы сілілася пазнаць забытага знаёмага.

— А ён цяпер там не жыве, — сказала яна. — Пеця з сям'ёю перад Новым годам пераехаў у новы дом.

— Прабачце, а вы яго ведаеце?

— Сын гэта мой, старэйшы.

Я расказаў, якая патрэба вяла мяне да Пятра Віктаравіча. Мы пазнаёміліся, разгаварыліся, а праз некалькі хвілін зайшлі ў чысты, утульны пакойчык. За адчыненым акном лопаліся і развіналіся пупышкі буйнага бэзу, зялёным пушком пакрыліся кусты парэчак. Пахла вясною і вільгаццю перакапанай зямлі ў маленькім гародчыку. Дар'я Аляксееўна Кардымон успамінала вясну сваёй маладосці і дняпроўскія кручы за родным горадам Крамянчугом.

...Дымны, закураны ліцейны цэх на маленькім заводзіку. На ім некалі адлівалі алюмініевыя міскі, а як толькі пачалася імперыялістычная вайна, яго назвалі гучным і не зусім зразумелым словам «Арсенал». Семнаццацігадовая Даша, тоненькая і кволая, працавала на ім ліцейшчыцай.

Кожны дзень у Крамянчуг прыходзілі доўгія таварныя эшалоны. У іх плакалі дзеці, прычыталі жанчыны, з дзвярэй пазіралі маўклівыя барадачы. Ехалі бежанцы з Беларусі, уцякалі ад вайны.

Неўзабаве на «Арсенале» з'явіўся высокі чарнявы юнак у доўгай, відаць, з чужога пляча куртцы, у пабітых чаравіках. Ён прыехаў з Мінска з маткаю і сястрою. Звалі яго Віктар Кардымон. Даша лавіла сябе на тым, што ўсё часцей і часцей пачала думаць пра невядомы ёй горад Мінск, пыталася, дзе ён, які, ці далёка ад яго фронт. Даша працавала побач з Віцем, і ранічкаю, ідучы на завод, заўсёды выпадала так, што хлопец даганяў яе. Яны разам ішлі ў свой курны цэх.

А хутка маладыя ліцейшчыкі з крамянчугскага «Арсенала» селі за вясельны стол. Гасцей амаль не было. Вайна. Паплакалі маці слязамі смутку і радасці за сваіх дзяцей. У мінскіх бежанцаў з'явілася блізкая радня ў далёкім ад радзімы горадзе. Так пачалася дынастыя Кардымонаў.

Прашумела над краінай рэвалюцыя, заканчвалася вайна. Жыццё перавярнулася і стала зусім іншым. Вярталіся на радзіму бежанцы, паехалі ў Мінск Віктаравы маці і сястра. А яго, маладога і гарачага, падхапіла хваля бурных рэвалюцыйных падзей. Ён уступіў у Чырвоную Гвардыю, узяў у рукі вінтоўку, каб абараняць заваёвы Вялікага Кастрычніка. У той памятны 1917 год у маладых Кардымонаў нарадзіўся сын. Яго назвалі Пятром. Моцна трымаючыся адно за аднаго, жылі, працавалі, змагаліся за сваё шчасце, за шчасце сына, за шчасце людзей маладыя Кардымоны — работніца «Арсенала» і баец Чырвонай Гвардыі.

У 1922 годзе яны прыехалі ў Мінск. Пасяліліся ў маленечкі прыватны пакойчык на Вакзальнай вуліцы, дзе жыла з дачкою Віктарава маці, Ганна Андрэеўна. Хоць і стала цясней, але ўсім было добра і радасна. Па хаце бегаў пяцігадовы Пеця і гугукала ў калысцы маленькая Верачка. Віктар Кардымон працаваў цесляром. Будаваў масты, а Дар'я Аляксееўна была нянькай ў дзіцячым садзе.

— Усяк даводзілася, — успамінае яна, — але ніхто нікога ніколі не папракаў, ніхто не сварыўся. Падрасталі дзеці і, гледзячы на нас, стараліся памагчы і мне, і бабулі, і бацьку. А калі ў нас з'явіўся Леанід, старэйшыя няньчылі яго, глядзелі за домам. Так мы і жылі разам, дружна і хораша.

З 1929 года Віктар Осіпавіч працаваў на партыйнай рабоце: быў заўсёды там, дзе цяжэй, дзе ён патрэбен. Арганізоўваў калгасы, ствараў тарфяныя заводы, пасля аж да самай вайны быў парторгам на чыгунцы.

Дзеці растуць непрыкметна, а як толькі пойдуць у школу, гады бягуць асабліва хутка. Так непрыкметна дайшоў да сёмага класа і Пеця Кардымон. Вучыўся і быў за гаспадара ў хаце: маці на рабоце, бацька часта ў раз'ездах. Трэба ж і дроў накалоць, і вады прынесці, і ў магазін збегаць, Лёньку дагледзець.

Рабочыя людзі скупыя на пахвалу і салодзенькую ласку. Яны ўмеюць стрымліваць свае глыбокія пачуцці і не ўмеюць уголас захапляцца «талентамі» і «выключнымі якасцямі» сваіх дзяцей.

Так было і ў сям'і Кардымонаў.

Скончыў Пятро сямігодку і сказаў бацькам:

— Пайду працаваць.

Ён бачыў, што яго рубель будзе не лішні ў хаце, а рукі з самага маленства цягнуліся да металу. Ён любіў слухаць, як ён звініць, становіцца паслухмяным у руках чалавека.

Чатырнаццацігадовы Пеця Кардымон пайшоў на завод імя Кірава (тады ён зваўся «Камунар») вучыцца на слесара. Шустрага і сціплага хлапчука палюбілі стары майстар Некраш і таварышы па цэху. Побач працаваў яго равеснік, негаваркі і нечым заўсёды заклапочаны хлапчук. Пеця даведаўся, што ў яго няма бацькоў, што начуе ён, дзе прыйдзецца, таму і кашуля падоўгу не мытая і сам ён нейкі пакамечаны. А хлопец добры, працавіты. Запрасіў яго Пятро да сябе. Паабедалі разам, прагаварылі да поўначы і ляглі спаць на адзін ложак. Так і з'явіўся новы сябар у доме Кардымонаў. У вялікай і дружнай сям'і, нават у цеснай кватэры, добраму чалавеку заўсёды знойдзецца месца, шчырае слова і ласка.

Праз дзевяць месяцаў Пятру Кардымону прысвоілі рабочы разрад. Ён пайшоў працаваць слесарам у брыгаду рамонтнікаў механічнага цэха. У далоні ўядаўся металічны пыл, часам смылелі рукі ад зубіла і малатка, але заўсёды было радасна на душы за сваю рабочую годнасць, за кожную ўдачу, за скупое майстрава «добра».

Выцягнуўся, узмужнеў малады слесар. Глыбока пасаджаныя чорныя вочы прагна да ўсяго прыглядаліся, а рукі стараліся ўсё зрабіць як найлепш. Чаго не ведаў — пытаўся, што не ўмеў зрабіць — прасіў паказаць. І на заводзе сям'я была дружная, шчырая, клапатлівая. А калі ўвечары збіраліся дома бацька і дзеці, тата расказваў пра выдатнага машыніста з мінскага дэпо, пра першы калгасны сход, што ён праводзіў непадалёку ад Смалявіч, а то браў свежую газету і чытаў уголас самае цікавае. Мама працавала санітаркаю ў бальніцы. Яна часам затрымлівалася на дзяжурстве, і ўсе яе дома чакалі. Кіпеў самавар, Вера і Лёня рабілі ўрокі, бабуля, Ганна Андрэеўна, слухала расказы сына і старэйшага ўнука. Яна радавалася, што падрастае здаровае і трывалае трэцяе пакаленне яе

сям'і. Ім усё ясна ў жыцці: працаваць, вучыцца, паважаць людзей і ўсё рабіць як найлепш...

У 1938 годзе Пятро Кардымон ажаніўся з работніцай швейнай фабрыкі імя 8 Сакавіка. Сам малады, а жонка яшчэ маладзейшая. Прывёў нявестку ў сям'ю, але і тады ў іх двух невялічкіх пакойчыках не стала цясней. Добры чалавек, які займае месца ў сэрцы, ніколі не замінае ў хаце. А Зіна, невялічкая, зграбная, вясёлая, як веснавы ручай, прынесла з сабою іскрыстую лёгкасць і святло, непасрэднасць і адкрытасць.

Праз год пасля вяселля прыйшла новая радасць. У доме Кардымонаў з'явіўся новы чалавек. Хлопчык. Назвалі яго Георгі. Аж не верылася Дар'і Аляксееўне і Віктару Осіпавічу. Самі ж яшчэ маладыя, здаецца, ці даўно ўпершыню сустрэліся на «Арсенале» і на табе — бабуля і дзед. А хутка і ўнучку прычакалі, Ларысу.

Мабыць, няма ў нашай краіне ніводнай сям'і, якую б не апаліла, не пакалечыла вайна. У першыя ж дні страшэннай навалы пачалі разлятацца мужчыны з сям'і Кардымонаў. З бронецягнікам паехаў былы чырвонагвардзеец камуніст Віктар Осіпавіч, Пятро стаў спачатку мінамётчыкам, а пасля, як ён сам кажа, «доктарам» танкаў: за плячыма была вінтоўка, а ў руках малаток і зубіла. Яго чатырнаццацігадовы брат Лёнька падаўся некуды на ўсход, спачатку працаваў у падмаскоўным калгасе, а падрос і пайшоў добраахвотна ў армію.

Пераможцамі прыехалі з вайны сыны Дар'і Аляксееўны. На мыліцах вярнуўся муж, у Пятра яшчэ нылі свежыя раны. Але зноў сабралася дружная сям'я ў маленькую ўтульную кватэру на Спартыўным завулку.

Пятро ў першыя ж дні пайшоў паглядзець на свой завод. Паглядзеў і сэрцам прыкіпеў да яго. Сталі абгарэлыя сцены, віселі скручаныя ад агню бэлькі, ляжалі груды друзу, зарослыя сівым палыном. Па трое сутак не прыходзіў дадому Пятро Кардымон з завода: разбіраў бітую цэглу, мураваў сцены, збіраў такі-сякі інструмент. З розных франтоў, у пілотках і палінялых гімнасцёрках, у афіцэрскіх кіцелях прыходзілі былыя кіраўцы, і завод хутка ажыў, засвяціліся вокны, зноў зазвінеў метал, загулі станкі.

Цяпер Пятро Віктаравіч Кардымон працуе майстрам энерга-рамонтнага цэха і ўзначальвае брыгаду камуністычнай працы. Але ў спісах работнікаў завода імя Кірава, апрача яго, запісаны яшчэ тры Кардымоны. Сапраўды, цэлая дынастыя!

У пачатку 1962 года сям'я Пятра Віктаравіча Кардымона пераехала ў новы дом. З вокан утульнай і вельмі чыстай трохпакаёвай кватэры відаць агні тэлевізійнай вышкі і непагаснае зарыва над аўтамабільным і трактарным заводамі.

— А вунь і наш, кіраўскі,— паказвае на заводскія карпусы Пятро Віктаравіч.

Трыццаць адзін год свайго жыцця аддаў ён заводу. Тут усё блізкае і роднае яму, яго сям'і, яго дзецям, і яны свае жыццё назаўсёды звязалі з «бацькавым» заводам. Тут кожны ведае адзін аднаго, многія сябруюць сем'ямі, радасці і гора дзеляць разам. Некалькі гадоў назад прапанавалі Пятру Віктаравічу новую кватэру, але ён адмаўляўся. Некаторыя нават лічылі яго дзіваком. А ён казаў:

— Пакуль яшчэ людзі жывуць цясней і горш за мяне, ім і давайце, а я і пачакаць магу.

І чакаў, хоць і вырасла сям'я, падняліся дзеці. Затое цяпер асабліва хораша ў доме Кардымонаў. Шчаслівa жыве дружная сям'я самых звычайных савецкіх людзей. Так, самых звычайных.

Якія ж педагагічныя прынцыпы ляжаць у аснове выхавання маладога савецкага чалавека ў сям'і?

— Я педагогікі не ведаю, і мая Зінаіда Антонаўна яе ніколі не вывучала,— гаворыць Пятро Віктаравіч Кардымон,— а дзяцей, як бачыце, выгадавалі добрых, сумленных і працавітых. Ніколі нас не выклікалі ў школу, ніхто не скардзіўся на іх, ніколі яны не ленаваліся. У сям'і ўсе дзеці ў нас роўныя, ніхто не лічыць сябе лепшым або горшым.



Відаць, лепшая педагогіка — праца з маленства, павага да яе, пачуццё адказнасці за кожны свой крок. Нездарма ж народ гаворыць: «Што ў дзяцінстве выхаваеш, на тое ў старасці абапрэшся».

Я расказаў аб трох пакаленнях сям'і Кардымонаў. Тут эстафету працоўнай славы перадаюць з пакалення ў пакаленне, як самы дарагі скарб, як фамільную спадчыну рабочай дынастыі.

Хіба ж гэта не паказальна: дзед чорнарабочы, чырвонагвардзеец і партыйны работнік, яго сын — рабочы высокага класа, майстар выдатнай якасці, а ўнук — інжынер, нястомны шукальнік новага і перадавога!

Сціраецца грань паміж разумоваю і фізічнаю працаю. Часам слухаеш размову двух маладых людзей і не разумееш, каторы з іх інжынер, а каторы рабочы. Яны аднолькава валодаюць і вышэйшаю матэматыкай, і сапраматам, і практыкай работы за станком. Такі наш малады савецкі чалавек. Так яго выхавалі дома, у школе і ў піянерскім атрадзе, у камсамоле і ў дружнай рабочай сям'і.

Але, як кажуць, і ў сям'і бываюць выродкі.

## САЛОДКАЯ АТРУТА

«Ёсць яшчэ, на жаль, і такія бацькі, якія абыякава ставяцца да выхавання дзяцей, ствараюць ім абстаноўку гультайства, а часам і самі адмоўна на іх уплываюць. Іменна з такіх сем'яў маладыя людзі трапляюць часам у лік хуліганаў, дармаедаў», — гаварыў Мікіта Сяргеевіч Хрушчоў на XIV з'ездзе ВЛКСМ.

Чытаеш гэтыя словы і думаеш над лёсам тых маладых людзей, чыё жыццё стала пакутамі для бацькоў, для блізкіх, нарэшце, лягло цяжкім грузам на плечы нашага грамадства.

Адкуль жа бяруцца васемнаццаці- і дваццацігадовыя хуліганы і дармаеды, п'яніцы і распуснікі, нахабныя абібокі? Яны ж вучыліся ў савецкай школе, чыталі «Маладую гвардыю» і «Педагагічную паэму», «Як гартавалася сталь» і «Паднятую цаліну», вучылі на памяць вершы Маякоўскага і Купалы. Чаму ж яны сталі нягоднікамі і паразітамі? Дзе былі іх бацькі?

Бацькі былі побач, яны любілі і песцілі сваіх дзяцей. Часта можна пачуць, як маці з пачуццём перавагі над суседкаю гаворыць: «А я для свайго нічога не шкадую». Маленькі сынок тэта добра разумее, адчувае сваю ўладу над матчыным сэрцам і патрабуе ўсяго, чаго яму толькі захочацца. Ён ведае добра «дай», «купі», «хачу», «маё» і зусім не разумее «няможна», ніколі не скажа «на, вазьмі». А маці ўголас захапляецца сваім маленькім дыктатарам:

— Ён у нас такі разумны, такі таленавіты, але ўжо нервовы, яму нельга пярэчыць, нельга крыўдзіць. На, на, сыночак, вазьмі, толькі не плач.

І сыночак адразу змаўкае. Ён ужо ведае, што разумнейшы, прыгажэйшы і лепшы за ўсіх дзяцей на свеце, што яму ўсё дазволена, усё можна.

— Навошта вы так песціце свайго Мішу? —пытаюся ў мамы.

— Досыць, што я ў дзяцінстве не мела ні ласкі, ні радасці. Рана страціла бацькоў, выхоўвалася ў чужых людзей, усяк бывала. А сыночак мой няхай ласуецца і за мяне і за сябе, ён жа ў нас адзін, усё для яго. Я маці, я ведаю, што раблю.

Так, у Мішы ёсць бацькі, да слепаты ўлюбёныя ў яго, але няма выхавальнікаў.

Міша расце і заўсёды помніць, што ён не такі, як усе астатнія, што ён лепшы за іх, што яму ўсё дазволена, што ніхто яго не павінен ушчуваць, адмаўляць у яго патрабаваннях. Іменна ў патрабаваннях, бо прасіць ён не ўмее, пытаць дазволу не навучыўся.

Вось ён пайшоў у першы клас, вось з'явілася першая двойка, заўвага настаўніцы, з яго пасмяяліся сябры, і Міша прыбягае дадому ўвесь у сля-

зах, маці кідаецца дә яго, цалуе і лашчыць, суцяшае і ўпрошвае не плакаць.

— Гэта дрэнная цёця, ваша Ганна Пятроўна, я з ёю пагавару.

І назаўтра бяжыць да настаўніцы, да дырэктара школы, абураецца і патрабуе да свайго дзіцяці выключнай увагі:

— Ён жа ў мяне нервовы, ён такі ўражлівы, да яго павінен быць асобы падыход. Ну, пастаўце яму хоць тройку, я вас прашу, не крыўдзіце дзіця. Я не толькі маці, а і ўрач, я не магу пусціць Мішачку ў школу, пакуль ён не супакоіцца. У яго баліць галоўка і сапсаваўся апетыт.

Так і хадзіла ўсе дзесяць год у школу Марыя Фёдараўна выпрошваць сыну тройкі, абараняць яго ад «чэрствых» і «бяздушных» настаўнікаў.

Ужо вялікім дзецюком Міша так і не ўмеў выпрасаваць сабе штаны, мама не дазваляла яму запальваць газавую пліту або забіць цвік: чаго добрага, яшчэ па пальцы стукне, а пасылаць у краму па хлеб дарослага хлапчука лічыла непрыстойным.

Як жа — адзіны любімы сын, ну як яго не песціць! Ідзе Міша ў кіно, мама яму цішком у кішэню пакладзе лішні рубель. Хіба ж можна шкадаваць роднаму дзіцяці? Так-сяк закончыў Міша дзісяцігодку. Настаўнікі былі рады, што пазбавіліся ад гультая і шумных налётаў яго мамы. А Марыя Фёдараўна абуралася, што яе сына недаацанілі, што знарок хочуць прынізіць годнасць такога прыгожага і ласкавага хлопчыка.

— Цяпер адпачні, сынок, пагуляй, набярыся сіл,— казала Мішу добрая мама. І Міша гуляў. Прыходзіў дахаты далёка за поўнач, а калі бацькі ішлі на работу, ён соладка спаў у сваім пакоі.

Бацьку, паважанага і вельмі занятага чалавека, гэта пачынала непакоіць, ён хацеў пасадзіць сына за падручнікі, каб той рыхтаваўся да экзаменаў у інстытут. Марыя Фёдараўна накідвалася на мужа:

— Ты не любіш яго, так і ў сухоты можна ўвагнаць, дай адпачыць дзіцяці. За дзесяць гадоў яму агорклі гэтыя падручнікі. Ён хоча паступаць у фізкультурны. Там у цябе знаёмых няма?

У фізкультурным інстытуце Мікалай Васільевіч знаёмых не меў, а Міша на першым экзамене праваліўся.

Дый паступаў ён так, не столькі для сябе, колькі для бацькоў, каб не папракалі яго.

Неяк за абедам Мікалай Васільевіч сказаў сыну, што трэба прыстроіцца на работу.

— Не хвалюйся, баця, аформлюся. Разумею — стаж патрэбен.

Але па-ранейшаму Міша знікаў кожны вечар, прыходзіў толькі пад раніцу, твар станавіўся азызлы, а з яго пакоя несла перагарам гарэлкі.

Бацька хадзіў пахмуры і маўклівы. Ён памыкаўся сур'ёзна пагаварыць з сынам, але яго не заўсёды застанеш дома.

— Ты думаеш, ён не перажывае, —суцяшала мужа Марыя Фёдараўна.— Ён жа кожны дзень ходзіць, каб аформіцца на работу.

Мікалай Васільевіч пайшоў на завод, куды трэці месяц «афармляўся» Міша. У аддзеле кадраў яму сказалі, што ніякі Міша ні разу да іх не заходзіў і не падаваў заявы.

Толькі цяпер Мікалаю Васільевічу ўспомніліся «баця», «законна», «жалезна», «каласальна» ў мове яго сына. Адкуль гэты жаргон? Куды ён ходзіць? З кім сябруе? Што робіць да раніцы? Дзе бярэ грошы?

Упершыню ў жыцці бацька ўмяшаўся ў лёс сына, стукнуў па стале кулаком і сказаў:

— Ты ведаеш наш савецкі закон — хто не працуе, той не есць? Вылазь з-за стала, зарабі спачатку гэты кавалак хлеба, а пасля садзіся.

Гаворка закончылася істэрыкай Марыі Фёдараўны. Яна папракала мужа ў несправядлівасці і празмернай суровасці. «Хлеба роднаму дзіцяці пашкадаваў. І я ж зарабляю, ён мае есць». Справа ледзь не дайшла да разводу.

Нарэшце Міша паступіў на радыёзавод, вучыцца на слесара. Трэба было рана ўставаць, бегчы пад дожджыкам па цёмных вуліцах да прахадной. А дома так было ўтульна і цёпла, так хацелася спаць. І Міша неяк праспаў. Ён паскардзіўся маме, што вельмі стаміўся, што дрэнна сябе



адчувае. Пашкадавала Марыя Фёдараўна сына і выпісала яму бюлетэнь на тры дні. Хутка Міша стаў самым «хваравітым» у цэху і на заводзе. А калі не было бюлетэня, ён выходзіў з дому, але ішоў не на завод, а зусім у другі бок. З'явіліся «сябры», яны паказвалі дарогу ў рэстараны, а калі аднойчы не было чым заплаціць за выпітае і з'едзенае, Міша сілком зняў гадзіннік з рукі свайго сабутэльніка. Так з'явіўся ў аддзяленні міліцыі акт на Мішу.

За тры гады Міша лічыўся на працы толькі восем месяцаў. Кім ён толькі ні быў: і слесарам, і электрамантажнікам, і статыстам у кіно, але нідзе больш за два месяцы яго не трымалі. Затое ў міліцэйскай справе ўсё болей і болей з'яўлялася актаў аб хуліганстве, п'янках і непрыстойных паводзінах. Мішу некалькі разоў папярэджвалі, каб пачаў працаваць, ён абяцаў, даваў слова, нават падаў заяву на трактарны завод. Падаў... і паўгода не паказваў туды вачэй, але ўсім казаў: «афармляюся на трактарны».

Летась Мішу тройчы выклікаў ваенкамат, а яму ніяк не хапала часу, каб схадзіць туды, прайсці камісію і стаць са сваімі равеснікамі ў рады Савецкай Арміі. Папярэджвалі работнікі міліцыі, бралі подпісы, што пачне працаваць. Міша ўжо не лічыўся не толькі з бацькамі, але і з законамі народа, які яго паіў, карміў і адзяваў дзевятнаццаць гадоў.

У міліцыю прыйшоў сам бацька. Нялёгка яму было расказваць горкую праўду пра сына, прызнавацца, што самі гадавалі дармаеда, і прасіць дапамогі.

О, каб ведала пра гэта Марыя Фёдараўна, цесна было б мужу ў хаце. Яна бегала ў пракуратуру і ў суд, плакала і патрабавала, прасіла і расказвала пра свае заслугі, абвінавачвала школу і камсамольскую арганізацыю, дакарала ўсіх на свеце, апрача сябе. І ўсё ж яе Мішачку выслалі на тры гады. Няхай папрацуе, калі бацька з маткай не навучылі, можа людзі добрыя навучаць. Навучаць напэўна.

У гэтай горкай гісторыі ўсё праўда. Ёсць у Мішы і прозвішча, і пэўны адрас, але справа не ў тым, каб называць іх. Яго кароткая і сумная біяграфія, відаць, тыповая для некаторых юнакоў і іх бацькоў. Іх не многа, але яны, на жаль, яшчэ ёсць. Ёсць яшчэ сем'і, у якіх гадуюцца «выключныя», «самыя прыгожыя», «самыя разумныя» дзеці. Ім усё дазволена, усё даступна, іх кожнае патрабаванне выконваецца дарослымі. Яны становяцца маленькімі тыранамі бабулек, нянек, бацькоў, настаўнікаў. Яны лёгка бяруць усё гатовенькае і нічога не даюць у замену. Іх ад самых нязначных клопатаў і намаганняў засцерагае сляпая бацькоўская любоў—гэтая салодкая атрута, што на доўгія гады калечыць самага блізкага і дарагога чалавека. Такія бацькі забываюць, што іх дзіця, пакуль яно яшчэ малое, не толькі іх сямейная радасць і ўцеха, а перш за ўсё—гэта будучы чалавек, будаўнік, стваральнік і грамадзянін камуністычнага заўтра. Усе яго «выключныя» якасці могуць раскрыцца толькі ў працы, у адносінах да вялікай справы ўсяго савецкага народа, вызначацца мераю аддачы сіл, здольнасцей, запалу душы людзям, сярод якіх ён жыве і будзе жыць. Ён належыць народу, ён яго часцінка, яго надзея.

З нараджэння і да дня, калі прыйдзецца выпраўляць свайго нашчадка ў вялікую самастойную дарогу, яго патрэбна выхоўваць сумленным і працавітым чалавекам, з пачуццём адказнасці за кожны свой крок. Трэба думаць, каб сын або дачка ішлі ў жыцці па галоўнай магістралі, а не шукалі лёгкіх бакавых сцежак. Пра гэта клапоцяцца настаўнікі, піянерская арганізацыя, камсамол, усе савецкія людзі. Але іх намаганні без правільнага выхавання ў сям'і могуць быць марныя.

Глядзіш — і не хочацца верыць, што з выпеставанага хлопчыка вырас дармаед, захрыбетнік, які ўсё грабе пад сябе, прагна ўсмоктваецца ў самы смачны кавалак агульнага каравая, а сам нічога не дае і не хоча даваць. «Думаю, таварышы, што такія людзі самыя небяспечныя раскрадальнікі народнага дабра, зладзеі і супраць іх патрэбна выклікаць гнеў народа. Трэба, каб такія людзі заўсёды адчувалі, што наш народ ненавідзіць дармаедаў, што людзі працы, за кошт якіх жывуць цяпер гэтыя

дармаеды, не хочуць болей цярпець гэтых трутняў»,— гаварыў М. С. Хрушчоў у прамове на XIV з'ездзе камсамола.

Чытаючы гэтыя гнеўныя і справядлівыя словы, думаецца, што яны звернуты не толькі да тых, хто спрабуе пражыць за чужы кошт, хто спустошыў сябе духоўна. Яны — і напамінак бацькам, чые дзеці яшчэ жывуць пад іх крылом. Кім яны будуць, якое месца зоймуць у жыцці, што яны змогуць даць сваёй краіне, народу, які іх корміць і поіць з калыскі, ці здольны яны будуць будаваць камунізм і жыць пры камунізме? Такою мераю павінны вымярацца ўчынкі, паводзіны, усе маральныя якасці кожнага савецкага чалавека. Гэтаю меркаю павінна вымярацца бацькоўская любоў і патрабавальнасць да кожнага дзіцяці.

* * *

Мільёны савецкіх юнакоў і дзяўчат будуюць гіганты энергетыкі на магутных рэках Сібіры, здабываюць алмазы і ўздымаюць цаліну, вараць сталь і пільна ахоўваюць спакой і мір на нашай зямлі. У іх дужыя рукі і гарачыя сэрцы, чыстае сумленне і светлая, акрыленая рамантыкай і творчым неспакоем маладосць. Ім належыць сённяшні і заўтрашні дзень, будучыня зямлі і касмічных вышыняў сусвету.

Іх гадавалі і выпраўлялі ў вялікую жыццёвую дарогу добрыя і разумныя матчыны рукі, ім сілы давала савецкая Радзіма, шчырыя і працавітыя людзі вучылі жыць і змагацца за шчасце. Партыя дала ім крылы самай высокай і светлай мары: «Цяперашняе пакаленне будзе жыць пры камунізме».

Яно яго будуе сваімі рукамі. Свецяцца агнямі новыя гарады, збудаваныя нашай моладдзю, шумяць паркі і скверы, пасаджаныя камсамолам, з канвеераў сыходзяць машыны з маркаю маладзёжных брыгад камуністычнай працы, бязмежным морам развінуліся ўраджайныя палі Радзімы — на іх працуе савецкая моладзь.

Чалавек нараджаецца для шчасця, ён прыносіць шчасце сабе і людзям, а шчасце — у натхнёнай творчай працы народа, у чысціні душы, у высокіх пачуццях гуманізму, у нястомных пошуках і намаганнях, адкрыццях і перамогах, у здзяйсненні нязгаснай, як сонца, ідэі, імя якой — камунізм.

Ідуць заклапочаныя, радасныя і шчаслівыя савецкія людзі ў свой заўтрашні дзень. Паглядзі, малады бацька, паглядзі, маладая маці, куды пойдзе ваш сын, ваша дачка, ці гатовы яны да паходу, ці дужыя ў іх рукі і плечы, ці гарачыя і чыстыя іх сэрцы?

## *Родныя прасторы*



Фота **Л. Эйдзіна.**

*Сёння полем, дзе быў*
*партызанскі раён,*
*Самаходны камбайн*
*гоніць жытні загон.*

*Аркадзь КУЛЯШОЎ*

# ПРАБЛЕМА ТРЫВАЛАСЦІ

### ЧАМУ ЗАГІНУЎ САМАЛЁТ?

Сухія радкі газетнага паведамлення: «... разбіўся пасажырскі самалёт. Пасажыры і экіпаж загінулі. Спецыяльная камісія вядзе расследаванне прычын катастрофы».

Час ад часу такія інфармацыі разам з фотаздымкамі разбітага самалёта здараецца прачытаць у газетах.

Натуральна, што прычыны катастрофы бываюць розныя. Часам — памылка пілота. Але ж, як правіла, за штурвал пасажырскіх лайнераў садзяцца самыя вопытныя лётчыкі. Бывае, што прычына — у недасканалай канструкцыі самалёта. Але і тут, як правіла, інжынеры вельмі старанна разлічваюць крыллі, цела і мускулы магутнай машыны, а потым лётчыкі-выпрабавальнікі экзаменуюць самалёт у паветры, перш чым дадуць яму пуцёўку ў жыццё.

Дык у чым жа справа? Хто ж тады вінаваты? Метал. Так, той самы метал, з якога зроблена машына.

Разлічваючы тую ці іншую дэталь, канструктар меркаваў, што яна «ідэальна здаровая». А дэталь можа быць «інвалідам». Унутры яе могуць быць нябачныя ракавіны і расколіны, структура металу можа не адпавядаць зададзенай. Рэжым тэрмаапрацоўкі не вытрыман, на паверхні ўзніклі драпіны і шчыліны. І кожная з іх можа стаць прычынай смерці дэталі.

Ну, а калі непрыгодная дэталь зойме сваё месца ў машыне, дык як тут не ўспомніць дзіцячую казку пра каваля, які дрэнна падкаваў каня. Адарвалася падкова — паваліўся конь. Паваліўся конь — прапаў коннік. Прапаў коннік — загінула войска.

Аналогія з самалётам поўная.

### ЗБРОЯ КАНТРАЛЁРА

Здавалася, гэта вельмі проста. Трэба толькі выпускаць усе дэталі без браку. Але гэтае пытанне залежыць ад завода, г. зн. ад соцень і тысяч людзей і станкоў. І проста скажам, гэта даволі складаная справа.

Лепш пытанне паставіць так: як перагарадзіць дарогу браку?

Адказ на гэта трэба шукаць у аддзеле тэхнічнага кантролю кожнага машынабудаўнічага завода. Іменна там, у канцы заводскага канвеера, — незалежна ад таго, сыходзяць з яго самалёты ці радыёпрыёмнікі, пыласосы ці аўтамабілі, — стаяць людзі, якія, распісваючыся ў пашпарце машыны, сведчаць, што яна прыгодная. Кантралёры — салдаты службы трываласці. Але чалавек становіцца салдатам толькі тады, калі ў яго ў руках зброя. Чым жа ўзброены кантралёры?

Каб вымераць памеры дэталі, кантралёры карыстаюцца шаблонамі і калібрамі. Каб праверыць якасць знешняй апрацоўкі, прымяняюць яшчэ і розныя аптычныя прыборы — ад вока кантралёра да спецыяльных мікраскопаў, праектараў і індыкатараў.

Але як пранікнуць у сярэдзіну металу? Як даведацца, якая яго структура? Вядома ж, што крохкасць чыгуну залежыць ад наяўнасці маленечкіх, нябачных вокам пласцінчак графіту, і, наадварот, дробныя зерні структуры мартэнсіту надаюць сталі пластычнасць і пругкасць. Як пракантраляваць якасць і глыбіню самых складаных відаў сённяшняй тэрмаапрацоўкі?

Прыходзіцца браць дэталь, распілоўваць яе, шліфаваць, пратраўляць кіслатой і толькі тады даследаваць яе пад мікраскопам. На гэта траціцца каля 10 гадзін маруднай ручной працы. Але не гэта галоўнае. Калі звычайны вал лёгка вымераць калібрам, дык даследаваць яго структуру не распілоўваючы, г. зн. не разбураючы, проста немагчыма. Таму з партыі дэталей выбіраюць некалькі штук і «прэпарыруюць» іх. Калі працэнт браку не перавышае нормы, дык партыю прапускаюць, калі перавышае, — выбракоўваюць. Вось так і ўзнік выбарачны кантроль.

Але калі ўсе дэталі ў партыі не правяраюцца, дзе гарантыя, што брак не пройдзе міма кантралёра і не стане на сваё месца ў машыне, дзеля таго... каб стаць прычынай аварыі? А ў сённяшняй жа тэхніцы, калі мы маем справу са складанейшай аўтаматыкай, дастаткова, каб хоць адзін прыбор «схібіў», як выйдзе са строю ўсё прыстасаванне.

Цікавы і такі гістарычны экскурс. Вядома, што калі амерыканцы рыхтаваліся ўпершыню прымяніць атамныя бомбы супраць безабаронных японскіх гарадоў Хірасімы і Нагасакі, яны зрабілі для гэтых бомбаў мноства запасных дэталей. Як вядома, у той час амерыканскае камандаванне мела толькі дзве бомбы, камплектаў жа зрабілі не два.., а тысячу! Навошта? Амерыканцы зрабілі гэтую тысячу камплектаў для кантролю. 998 былі разбураны ў працэсе выпрабаванняў і даследаванняў толькі дзеля таго, каб ваеннае камандаванне магло быць упэўнена, што астатнія два будуць працаваць надзейна.

Але вернемся да кантролю. Відавочна, што выбарачны кантроль у самой сваёй аснове не надзейны. Акрамя таго, ён патрабуе шмат ручной працы.

Дзе ж выхад?

### ВУЧОНЫ ЗНАХОДЗІЦЬ РАШЭННЕ

Пра ўсё гэта Тадэуш Янушавіч Гараздоўскі пачаў задумвацца яшчэ будучы студэнтам. Але як вырашыць праблему, над якой на працягу некалькіх дзесяцігоддзяў ламалі галовы вучоныя і інжынеры ва ўсіх індустрыяльных краінах свету? І калі кандыдат тэхнічных навук Т. Гараздоўскі ўзначаліў лабараторыю ў навукова-даследчым інстытуце падшыпнікавай прамысловасці, дык ён ужо ведаў, якім шляхам пойдзе.

Новы прыбор, створаны калектывам лабараторыі, назвалі



**Кандыдат тэхнічных навук Тадэуш Гараздоўскі ля створанага ім прыбора-аўтамата.**

Фота **М. Пашына**

ЭМІД — электрамагнітны індуктыўны дэфектаскоп.

Токі Фуко нараджаюцца ў кожным сардэчніку кожнай катушкі, калі па ёй прапускаюць ток. Іменна на гэтым заснавана дзеянне прыбора. Дэталь змяшчаюць у катушку-датчык, падключаную да асцылографа. Калі, дапусцім, у дэталі будзе расколіна, дык сілавыя лініі віхравога току пачнуць як бы «абыходзіць» яе. Гэтую перамену шляху току адразу ж заўважыць асцылограф. На экране ўспыхне зялёная крывая. Па яе характары вучоныя вызначаюць, ці ёсць у дэталі дэфект. Вельмі важнай акалічнасцю з'яўляецца тое, што на адным і тым жа ЭМІДзе вучоныя могуць атрымаць адказ на ўсе без выключэння пытанні.

Акрамя таго, ЭМІД можа вымяраць дэталі. Гэта вельмі важна ў тых выпадках, калі дэталь ужо знаходзіцца ў эксплуатацыі, як напрыклад труба, па якой ідзе гарачая пара пад высокім ціскам. Не заўсёды ж ёсць магчымасць вымераць унутраны дыяметр трубы звычайным вымяральным інструментам. ЭМІД робіць гэта ва ўсіх выпадках. Стваральнікам прыбора ўдалося зблакіраваць яго з камандным прыстасаваннем і такім чынам цалкам аўтаматызаваць аперацыю кантролю.

ЭМІД — выдатны ўніверсальны прыбор-аўтамат. Ён поўнасцю кантралюе ўсе дэталі, не разбураючы іх. Якая глыбіня тэрмаапрацоўкі і структура металу, ці ёсць у дэталі расколіны і поры, якія памеры дэталі — на ўсе гэтыя пытанні ЭМІД дае адказ, перадае яго на каманднае прыстасаванне, якое само адпраўляе дэталь у бункер добрай прадукцыі або ў брак.

Новыя прыборы для дэфектаскапіі знойдуць сабе шырокае прымяненне ва ўсіх галінах машынабудавання, у аўтамабільнай і авіяцыйнай прамысловасці і ў металургіі.

## ЭКЗАМЕН У МІНСКУ

Хоць ЭМІДы нарадзіліся ў Маскве, іх «вытворчае хрышчэнне» адбылося ў Мінску. Іменна ў сталіцы Беларусі вучоныя і інжынеры вырашалі самае важнае — «пойдзе прыбор ці не пойдзе». Бо адна справа, калі ў спакойнай цішыні лабараторыі стаіць прыгожы асцылограф, паблiскваючы чорнымі пераключальнікамі, і зусім іншая, калі ён стаў зброяй кантралёра. Малейшая асечка, на якую ў лабараторыі маглі б не звярнуць увагі, тут, у вытворчых умовах, можа «папсаваць» рэпутацыю прыбора.

Іменна гэты першы экзамен ЭМІД трымаў у Мінску на падшыпнікавым заводзе.

Дэфектаскапія падшыпнікаў — справа вельмі важная і адказная. І памеры ўсіх элементаў падшыпніка: колцаў, шарыкаў або ролікаў, сепаратара — старанна правяраліся.

Але праверыць якасць тэрмаапрацоўкі практычна было немагчыма. ЭМІД бліскуча рашыў і гэтую задачу, у выніку чаго брак ад тэрмаапрацоўкі ўдалося знізіць з 76 працэнтаў да нуля, а даўгавечнасць падшыпнікаў вырасла ў 20 разоў!

Пасля гэтага новыя дэфектаскопы перайшлі на трактарны завод. Потым пры саўнаргасе ў Мінску была створана спецыяльная апорная база, якая займалася пытаннямі прымянення ў вытворчасці розных дэфектаскопаў (у першую чаргу ЭМІДаў). Пасля першага вопыту паспяховага прымянення ЭМІДаў пачалося іх падарожжа па краіне.

На Маскоўскім заводзе малалітражных аўтамабіляў і на Маскоўскім заводзе аўтатрактарнага электраабсталявання, даследуючы дэталь у заводскай лабараторыі, інжынеры трацілі каля 10 гадзін толькі на тое, каб вызначыць глыбіню цэментацыі шасцярні. І гэта зразумела, бо шасцярню даводзілася распілоўваць, пратраўліваць і даследаваць. Натуральна, што дэталь разбуралася. ЭМІД гэтую ж работу робіць за некалькі секунд, прычым дэталь ужо не разбураецца. Новы спосаб дэфектаскапіі не толькі самы эфектыўны, але і самы эканамічны. Гэта пацвярджаюць вытворчыя выпрабаванні ЭМІДаў на горкаўскім заводзе «Чырвоная Этна», якія паказалі, што можна зусім ліквідаваць брак і павысіць прадукцыйнасць працы на заводзе ў цэлым на сорак працэнтаў.

Калектыў лабараторыі стварыў комплекс аўтаматычных сродкаў кантролю для Першауральскага новатрубнага завода.

Але не толькі гэтым вызначаюцца новыя дэфектаскопы. Звычайныя сродкі кантролю — гэта толькі рэгістрацыя прыгоднай прадукцыі. ЭМІДы Першауральска не такія — гэта нядрэмнае вока, якое патрабуе захавання ўсіх правіл тэхналагічнага працэсу. Па рольгангу падаюцца гатовыя трубы; праходзячы праз сістэму датчыкаў, яны ўсебакова правяраюцца. Але вось ЭМІД заўважыў брак. Дзве механічныя рукі падымаюць дэфектную трубу і адкідваюць яе. Адначасова на панелі прыбора ўспыхвае лічба, якая паказвае працэнт браку. Калі ЭМІД некалькі разоў выкінуў з рольганга непрыгодныя трубы, на панелі загаржальна загарэлася група лямп і... рольганг спыніўся. Дэфектаскоп адмовіўся прымаць прадукцыю нізкай якасці.

— І яго не ўгаворыш прыняць брак, — жартуюць інжынеры, якія стварылі прыбор.

Адзіны выхад «угаварыць» ЭМІД — гэта неадкладна прыняць меры, каб ліквідаваць брак.

Новыя дэфектаскопы адпраўляюцца ў вялікую дарогу на заводы нашай краіны. А на інстытуцкім двары старанна запакоўваюць скрынкі з ЭМІДамі, якія пасылаюцца на заводы і інстытуты братніх сацыялістычных краін.

У навукова-даследчы інстытут падшыпнікавай прамысловасці Тадэушу Янушавічу Гараздоўскаму сталі прыходзіць сотні пісем. ЭМІДамі цікавяцца ўсе і заўсёды падкрэсліваюць вельмі высокі эканамічны эфект. Але ўзнікае законнае пытанне: дзе ж сувязь паміж, здавалася б, такімі рознымі рэчамі, як эканоміка і праблема трываласці? Аказваецца, сувязь ёсць, і куды большая, чым гэта здаецца на першы погляд.

Дапусцім, паламаўся аўтамабіль. На першы погляд, страта відавочная — кошт рамонту. (Дарэчы, кошт рамонту звычайна прадугледжваецца планамі.) Але пакуль аўтамабіль рамантаваўся, ён прастойваў — такім чынам, да кошту рамонту дадаецца кошт прастою, таксама, як гэта адносілася б да трактара на ўборцы. Пакуль ён рамантаваўся, збожжа асыпалася — і зноў страты.



**На Мінскім падшыпнікавым заводзе. Разбракоўка колцаў па марках сталей пры дапамозе прыбора ЭМІД-4.**
Фота Антоніо **Гансалеса**

Вось чаму такую вялікую ролю мае праблема трываласці. І вось чаму стварэнне прыбора, які вырашае праблемы трываласці, набывае такое значэнне для народнай гаспадаркі.

## МАТЧ ВЫІГРАНЫ НАМІ

Цікава і іншае. Ужо многа гадоў заходнегерманскія інжынеры працуюць над стварэннем розных дэфектаскопаў. Савецкія даследчыкі пачалі канструяваць ЭМІД параўнаўча нядаўна, але ўжо дасягнулі выключных поспехаў.

У лабараторыі 1-га дзяржаўнага падшыпнікавага завода быў праведзены своеасаблівы матч паміж... двума дэфектаскопамі — нашым ЭМІДам і падобным да яго заходнегерманскім.

Абодва прыборы правяралі шарыкі падшыпнікаў. Спецыяльны аўтамат падаваў у дэфектаскоп шарыкі, якія, праходзячы праз катушкі-датчыкі, кантраляваліся

прыборамі. Прыборы ж адпраўлялі шарыкі або ў бункер прыгоднай прадукцыі або ў брак. Прайшло некалькі хвілін, і прыбор з ФРГ «пачаў халтурыць». У бункер прыгоднай прадукцыі пачалі трапляць шарыкі з расколінамі і выбоінамі. Калі ўважліва праверылі бункер ЭМІДа, дык там не аказалася ніводнай дэфектнай дэталі. Мы выйгралі матч.

ЭМІД прымяняецца ва ўсіх галінах машынабудавання і металургіі. Ім правяраюць дэталі самалётаў і станкоў, пыласосаў і трактараў, аўтамабіляў і пракатных станаў...

Выдатны творчы пошук увянчаўся заслужаным поспехам. За гэты прыбор Т. Я. Гараздоўскаму і яго таварышам прысуджаны медаль Усесаюзнай выстаўкі дасягненняў народнай гаспадаркі.

Пранікненне ў свет металу працягваецца.

**Лазар ЛІФШЫЦ**

# У ГАСЦЯХ У ШЭФАЎ

Калектыў Драматычнага тэатра Чырвонасцяжнага Балтыйскага Флоту пачаў сваю сёлетнюю паездку па гасціннай зямлі Беларусі са старажытнага Полацка.

Першая сустрэча была з камсамолам, з моладдзю. Вельмі многа цёплых слоў пачулі мы ад першага сакратара гаркома камсамола В. Арцёменкі, ад прадстаўнікоў маладых рабочых. Полацкія камсамольцы ўручылі калектыву тэатра памятны вымпел і альбом з фотаздымкамі, прысвечаны 1100-годдзю іх роднага горада. Цеплыню першай сустрэчы мы адчувалі і пасля, кожны дзень, кожны вечар, калі падымалася заслона нашага тэатра. Цеплыня сустрэчы зрабіла вельмі добры ўплыў на нашы творчыя поспехі. Праз тыдзень мы паказалі палачанам прэм'еру спектакля «Добры дзень, Барыс» па п'есе В. Васільева, а на наступны дзень — яшчэ адну прэм'еру. На гэты раз гледачу была паказана п'еса афіцэра Балтыйскага флоту В. Купрына «Глыбіня». Абедзве прэм'еры палачане прынялі з вялікім захапленнем.

Усяму калектыву тэатра было вельмі радасна, што так добра пачаліся нашы сёлетнія гастролі, якія з'яўляюцца творчай справаздачай, прысвечанай 40-годдзю шэфства камсамола Беларусі над Чырвонасцяжным Балтыйскім Флотам.

**Спектакль «Маракі не здаюцца» па п'есе М. Імшанецкага: капітан Гаранін (арт. В. Мануш) і ваенурач Красавіна (арт. І. Краўчук).**

Вось чаму, калі мы прыехалі ў сталіцу Беларусі — Мінск, дык і тут не абышлося без урачыстага прыёму. У памяшканні Тэатра юнага гледача, які гасцінна прадаставіў нам свае памяшканні, перад пачаткам гастроляў адбыўся сход.

У сваім выступленні сакратар ЦК ЛКСМ Беларусі А. Ваніцкі вітаў прадстаўнікоў слаўнай Балтыкі—наш тэатр—і расказаў аб шматгадовым шэфстве беларускага камсамола над Чырвонасцяжным Балтыйскім Флотам, аб справах і подзвігах моладзі Беларусі на перадавых рубяжах сямігодкі.

Нам вельмі радасна было слухаць былога марака-балтыйца, а цяпер майстра ўчастка камуністычнай працы на Мінскім заводзе запасных частак С. Зарэмбу. Перадаючы палымянае прывітанне балтыйцам, ён паведаміў, што іх участак працуе пад дэвізам: «За славай не ганіся! У перадавых вучыся! Адстаючых абганяй!»

Бурнай авацыяй сустрэла зала паведамленне аб тым, што Ваенны Савет Флоту ўзнагародзіў камсамол Беларусі памятным падарункам — марской бесказыркай і корцікам. Спектакль «Глыбіня», які мы паказалі ў той вечар, сталічная моладзь прыняла таксама вельмі цёпла.

Спектаклі тэатра глядзелі не толькі мінчане, але і працаўнікі калгаснай вёскі. З гэтых сустрэч самай незабыўнай была тая, якая адбылася ў саўгасе «Рудзенскі». Мы выехалі туды са спектаклем «Маракі не здаюцца» па п'есе М. Імшанецкага.

Да пачатку спектакля артысты тэатра сустрэліся з удзельнікамі самадзейнасці. У сабратоў па мастацтву адразу ж знайшлося вельмі многа агульных тэм для гутаркі, якая працягвалася і пасля спектакля. Праўда, пасля спектакля гутарка ператварылася ўжо ў канферэнцыю гледачоў. Нам было прыемна пачуць, што спектакль «Маракі не здаюцца» (пра герояў вострава Ханка) усхваляваў гледача, які ўбачыў у ім праўдзівы паказ гераізма Вялікай Айчыннай вайны.

Дзе б мы ні былі — у Полацку, Мінску, Гродна, Бабруйску, Быхаве,— творчыя сустрэчы з гасцінным беларускім гледачом усюды праходзілі цёпла. І гэта хочацца паставіць у заслугу творчаму калектыву тэатра, які быў сфарміраваны ў 1930 годзе з удзельнікаў матроскай мастацкай самадзейнасці, а праз чатыры гады папоўніўся выпускнікамі Ленінградскага тэатральнага вучылішча на чале з рэжысёрам А. Пергаментам.

Аснова жыцця кожнага тэатра — рэпертуар. У нас ён некалькі спецыфічны. З першых дзён тэатр імкнуўся і імкнецца да гэтага часу ствараць свой, арыгінальны рэпертуар гераіка-рамантычнага напрамку, каб найлепшым чынам садзейнічаць выхаванню верных абаронцаў Радзімы.



**Перад пачаткам спектакля ўдзельніцы самадзейнага драматычнага калектыву Рудзенскага дома культуры Г. Расолька і Г. Урублеўская пацікавіліся, як грыміруецца артыстка М. Іванова — выканаўца ролі санінструктара Шуры ў спектаклі «Маракі не здаюцца».**

«Мяцеж» Д. Фурманава, «Гібель эскадры» А. Карнейчука, «Князь Мсціслаў Удалы» І. Прута, «Любоў Яравая» К. Трэнева, «Аптымістычная трагедыя» У. Вішнеўскага, «Бранявоезд 14-69» У. Іванова. Ужо гэты, далёка няпоўны пералік дае ўяўленне пра творчы напрамак тэатра, які застаецца такім і сёння.

Дружба, дух таварыства і ўзаемнай выручкі, пачуццё адказнасці, прынцыповыя, партыйныя адносіны да інтарэсаў тэатра і, нарэшце, усведамленне сваёй арганічнай сувязі з праслаўленым Чырвонасцяжным Балтыйскім Флотам, з яго слаўнымі воінамі — усё гэта стала законам жыцця нашага калектыву.

Для творчай справаздачы ў Беларусь



Група гледачоў пасёлка Рудзенск спяшаецца выказаць артыстам свае ўражанні аб прагледжаным спектаклі «Маракі не здаюцца».

мы прывезлі «Трэцюю патэтычную» лаўрэата Ленінскай прэміі М. Пагодзіна, «Глыбіню» В. Купрына і «Маракі не здаюцца» М. Імшанецкага, «Ракетчыкі» К. Рапапорта, «Добры дзень, Барыс» В. Васільева, «Абавязковае спатканне» Г. Трыфанава, «Анджэла» Віктора Гюго і «Пігмаліён» Бернарда Шоу.

Тэатр мае свой моцны аўтарскі актыў. К. Рапапорт напісаў п'есу «Ракетчыкі», В. Купрын (балтыец, капітан III ранга) — «Глыбіню», якія ўвайшлі ў рэпертуар і ідуць з нязменным поспехам. Капітан III ранга М. Чабатаеў і капітан-лейтэнант У. Жычкін перадалі тэатру п'есу пра матросаў — «Трывога матроскіх сэрцаў», артыст тэатра А. Краўчук напісаў арыгінальную п'есу «Сувязь часоў».

Над увасабленнем гэтага рэпертуару працуюць як заслужаныя майстры сцэны: Ю. Пятроўскі, М. Церахаў, П. Швец, І. Калачанаў, Л. Шэнгелідзе, К. Бялова, М. Свірына і іншыя, так і таленавітая моладзь: Ірына і Анатоль Краўчукі, Юры Саркісаў, Галіна Жукава, Вадзім Дальскі, Віктар Сіманаў, Марыя Іванова...

Творчы калектыў тэатра узначальваюць галоўны рэжысёр заслужаны дзеяч мастацтва РСФСР А. Струнін і галоўны мастак заслужаны дзеяч мастацтва РСФСР С. Сержын.

Калі заканчвалася друкаванне гэтага нумару часопіса, мы завяршалі свае гастролі па Беларусі. Мы ад'язджалі адсюль з адзіным жаданнем — сустрэцца зноў.

Да новых сустрэч, сябры!

**Анатоль КУЛАГІН,**
**артыст тэатра ЧБФ**

Фота А. Дзітлава



# ПРА ЗЕМЛЯКА І ДРУГА

## *Аркадзю Чарнышэвічу пяцьдзесят год*

*Пачну з аднаго, вельмі даўняга сшытка. Мне паказаў яго мой малодшы брат, калі я неяк быў дома, на сваёй радзіме.*

*— Ці пазнаеш? — спытаў ён, трымаючы ў руках пажоўклыя лісты ў патрэсканых вокладках. — Мабыць, ужо забыўся?*

*Гэта быў мой юнацкі дзённік або лепш сказаць — першы зборнік нейкіх літаратурных практыкаванняў. Успамінаю цяпер пра яго толькі таму, што разам з маімі запісамі там ёсць і запісы Аркадзя Чарнышэвіча, разам з маімі сякімі-такімі вершамі ёсць і яго вершы.*

*Гэты сшытак быў у нас на дваіх. Аркадзь вучыўся ў Старобінскай сямігодцы і кватараваў там, у Старобіне. Я, пасля пачатковай школы, некалькі год нідзе не вучыўся, бацька мяне не пусціў у сямігодку. Кожную суботу Аркадзь ішоў са Старобіна дадому, а я іншы раз сустракаў яго яшчэ на дарозе. Выхадны мы праводзілі разам. Ён чытаў мне тыя новыя вершы, што напісаў за тыдзень, і некаторыя ўпісваў у мой сшытак. Я паказваў тое, што ўдалося напісаць за гэтыя дні самому.*

*Так у нашым жыцці было многа агульнага. Падлеткамі мы разам бегалі па вуліцы, потым разам вадзілі пасвіць коней. І ў абодвух у нас у торбачках для хлеба заўсёды былі якія-небудзь кніжкі або падручнікі. Зімою нас вучыў па хатах наняты ўсёй вёскай настаўнік. Адзін быў такі, што ўсіх нават ставіў перад заняткамі на малебен. Мы з Аркадзем*

*стаялі побач, паштурхвалі адзін аднаго і смяшліва пераглядваліся. Ужо тады мы былі актыўнымі бязбожнікамі: ведалі многа частушак пра папоў і, прыхоўваючыся, малявалі карыкатуры на Ісуса Хрыста і Мікалая-цудатворцу.*

*Аднаго разу выпусцілі антырэлігійную насценгазету. Мне папала за гэта ад суседзяў і ад бацькі. А Аркадзю гэта сышло лягчэй, бо яго бацька сам не верыў у бога і не любіў папоў. Ён быў чалавек граматны, чытаў кніжкі і вёў нават запісы і падлікі па сваёй гаспадарцы, якая ў пэўны час лічылася ўзорнай і падтрымлівалася раённымі арганізацыямі.*

*Потым мы пачалі селькорыць. Спачатку пасылалі ў Мінск толькі вершы і чакалі наступнага нумару «Маладога аратага», як самага вялікага свята. Дрыжачымі пальцамі перагортвалі старонкі і ў канцы ўглядаліся ў «паштовую скрынку». Амаль кожны раз там паведамлялася то аднаму, то другому з нас, што вершы не падышлі да друку. Тады мы «перабеглі» ў прозу. Сталі пісаць заметкі пра контрактацыю пасеваў і жывёлы і аб рабоце нашага ЕПО (Единое потребительское общество). Аркадзь іншы раз пісаў і замалёўкі. Неўзабаве мы арганізавалі селькораўскі гурток.*

*Праз некаторы час упершыню ўбачылі свае друкаваныя радкі. У «Маладым аратым» з'явілася нешта падобнае на замалёўку за подпісам Аркадзя Чарнышэвіча, а ў «Беларускай вёсцы» быў змешчаны мой допіс пра млынара, які краў у памольшчыкаў муку і хаваў яе ў аднаго нашага суседа. І замалёўка, і допіс былі так перароблены, што мы ледзь здолелі іх пазнаць, аднак прозвішчы пад нізам стаялі нашыя.*

*Такімі былі першыя крокі ў літаратуру. Пасля гэтай замалёўкі Аркадзь стаў яшчэ больш пісаць, мы абодва пачалі ўсур'ёз марыць аб тым, каб пакінуць вёску і пераехаць у горад, бліжэй да газет і часопісаў, вучыцца там, дзе хто зможа, і пісаць, пісаць.*

*Але выйшла так, што нам не давялося паехаць разам. У трыццатым годзе я паехаў у Рагачоў і паступіў там вучыцца ў прафтэхшколу бондараў, а Аркадзь вымушаны быў падацца зусім у іншы бок, следам за сваім бацькам.*

*З таго часу мы доўга не бачыліся. Вярнуўшыся ў сорак пятым годзе з фронту, я даведаўся, што Аркадзь Чарнышэвіч яшчэ перад вайною надрукаваў нізку апавяданняў у «Полымі рэвалюцыі». Праз некаторы час мы пачалі перапісвацца, потым я памог Аркадзю пераехаць у Беларусь і ўладкавацца на работу загадчыкам пачатковай школы. Тады пайшлі ў Чарнышэвіча кніжка за кніжкай. Праз год пасля таго, як ён вярнуўся ў Беларусь, Дзяржаўнае выдавецтва БССР выпусціла асобным выданнем яго таленавітую аповесць «У адной сям'і». Яшчэ праз год выйшаў зборнік апавяданняў «Зосін лужок», потым — аповесць «На сажалках», зборнік апавяданняў «Суседзі». І аповесці і апавяданні Аркадзя Чарнышэвіча адразу спадабаліся чытачу за сваю непасрэднасць і шчырасць. Пісьменнік валодае вельмі добрай назіральнасцю, умее бачыць і найлепш разумець чалавечую душу.*

*Прайшло яшчэ гады два, і мне аднаму з першых давялося чытаць у рукапісу вялікі раман Чарнышэвіча «Світанне». Яшчэ не ўсё там было як належыць, даведзена, — вядома, першы варыянт. Але многія раздзелы захапілі мяне сваёй мастацкай спеласцю. Чытаў я і ўвесь час бачыў перад сабою жывых, паўнакроўных людзей, у некаторых персанажах пазнаваў знаёмых мне прататыпаў. Цяпер гэты раман шырока вядомы чытачу, а зусім нядаўна ён выйшаў у Ленінградзе на рускай мове.*



*«Світанне» — першае вялікае палатно таленавітага пісьменніка, яно прысвечана станаўленню савецкай улады на Беларусі. Раман-хроніка «Засценак Малінаўка», хоць і другая вялікая кніга, аднак па тэме яна, відаць, першая. Калі я чытаў яе, то бачыў нашу з Аркадзем вёску яшчэ да рэвалюцыі і зноў пазнаваў некаторых сваіх аднавяскоўцаў. У Аркадзя Чарнышэвіча ёсць такая каштоўная якасць, якой могуць пазайздросціць і вельмі масцітыя літаратары: выключна светлая і дакладная пісьменніцкая памяць. Ён памятае, бадай, усё, што дзе чуў ці бачыў, можа, нават пачынаючы з трохгадовага ўзросту. Памятае не як фатограф, пераказчык, а як мастак.*

*Мне захацелася напісаць гэтыя некалькі радкоў у сувязі з тым, што майму аднавяскоўцу і другу спаўняецца пяцьдзесят год. Паўвека прайшло, а неяк яно не надта і заўважалася і зусім не сцягнулася. Не мала зрабіў добрага за гэтыя гады пісьменнік Аркадзь Чарнышэвіч, але хочацца ад усёй душы пажадаць, каб ён напісаў яшчэ многа харошых кніг, каб самабытны талент яго яшчэ больш рос, мацнеў і мужнеў.*

***Аляксей КУЛАКОЎСКІ***

Алесь ЯСКЕВІЧ

# КАМПАЗІЦЫЯ ТВОРА І СТЫХІЯ СЛОВА

Артыкул гэты — не запозненая рэцэнзія на кнігу, якая даўно выйшла ў свет і рэцэнзавалася ў свой час у друку. Да аповесці Алеся Бажко «Перад верасnем» я звяртаюся таму, што яна дае багаты матэрыял для пастаноўкі пытання аб кампазіцыйнай арганізацыі мастацкага твора. Пытанне гэта складанае, і ў адным артыкуле яго вырашыць нельга. Але хочацца спадзявацца, што назіранні і вывады, падставай для якіх паслужыла аповесць «Перад верасnем», прынясуць карысць не толькі аўтару, але і многім іншым маладым пісьменнікам.

Першае, што адразу заўважаецца, калі чытаеш аповесць «Перад верасnем», — гэта сталы пісьменніцкі погляд яе аўтара на свет, уменне ўбачыць жыццё ля самых яго вытокаў, у гомане народнай стыхіі.

«Перад верасnем» — кніга мнагапланавая, у ёй шмат цікавых вобразаў і ўдалых знаходак. Алесю Бажко ўдалося абмінуць спрошчанасць і схематызм, уласцівыя многім творам маладых. Гэта надзвычай удумлівы, з вострым бачаннем свету пісьменнік добра ведае тое, аб чым піша.

За гэтай першай думкай адразу ўзнікае другая, процілеглая: аповесць, багатая па жыццёваму матэрыялу, атрымалася ўсё ж рыхлай, малавыразнай, бо пісьменніку не ўдалося размясціць жыццёвы матэрыял у той строгай адпаведнасці і абумоўленасці, якіх вымагаюць законы кампазіцыі мастацкага твора. Вось чаму ў аповесці цяжка прасачыць нават галоўныя сюжэтныя лініі і выразна ўявіць сабе некаторыя вобразы.

Спачатку нават цяжка сказаць, чаму недахопы твора заўважаюцца не з першага позірку. Прычына тут, магчыма, у пакладзенай на самую паверхню пластычнай, пачэрпнутай з народных крыніц мове, якая надае жыццёвую праўдзівасць намаляваным пісьменнікам характарам.

Але варта добра прыгледзецца да мастацкай тканіны твора, як стане відавочна, што пад гэтым, па-майстэрску адшліфаваным рукою здольнага



маладога мастака моўным панцырам няма аб'ёмнасці малюнка. У творы то тут, то там зрушаны планы, а самае галоўнае — тут пануе хаатычнае нагрувашчванне жыццёвага матэрыялу, эпізодаў, малюнкаў, з якімі ў поўнай меры не змог саўладаць аўтар. Бясконцае мноства дэталей, дробных, не выбраных, накіданых мясцінамі без якой-небудзь сістэмы і адчування цэласнасці малюнка, а часам нават без увагі на элементарныя законы кампазіцыі, дзе важныя падрабязнасці, якія нясуць сэнс цэлага раздзела, а то і наогул кнігі, павінны ўзвышацца над другараднымі, нязначнымі, — уся гэтая стыхія матэрыялу запаланіла твор настолькі, што ўжо праз некалькі старонак пачынаеш ламаць галаву, што да чаго.

Алесю Бажко, як мы ўбачым пры аналізе твора, вядомы многія рэдкія прыёмы пісьменніцкага майстэрства. Уся бяда ў тым, што ён часта няўмела валодае гэтымі прыёмамі.

Аўтара прываблівае манера, у апошні час асабліва пашыраная сярод беларускіх пісьменнікаў,— калі пры дапамозе самай дробнай бытавой падрабязнасці мастак кожным радком, кожным словам, знарок пастаўленым не гучна, упэўнівае чытача ў праўдзівасці напісанага, ды так пераканаўча, што яму амаль фізічна ўяўляецца, як гамоняць і разыходзяцца наўкол хвалі жыцця.

Бажко неяк асабліва тонка перадае палёт часу ў прыродзе тым, што вельмі дакладна заўважыць, як раптам настала хвілінная цішыня і ахапіла чалавека млявасць ці мройнасць, як у яго зазвінела кроў у вушах, як наступіла перамена ў наваколлі.

«Вось пані прысела на лаўку, відаць, ёй захацелася пазагараць. На потную нагу сеў авадзень. Пані халатам прыдушыла яго і заплюшчыла вочы. Можна было падумаць, што яна спіць. Але гэта так здавалася. Пані Авяліна пазяхнула і абцёрла далонню рот. Юзя вынесла ёй падвячорак — зацукраваныя чарэшні і кавалак пірага. Пан Антось лазіў з сеткаю па запрудах, — трэба было чакаць вячэры...

І раптам неяк усе замітусіліся, заляпалі дзверы, закрычаў у сенцах певень, які хаваўся там ад дажджу, забегала ў гасціную і назад наймічка і г. д.».

Пры карыстанні мноствам дробных бытавых падрабязнасцей, калі часта мяняюцца дэталі і эпізоды, трэба асабліва імкнуцца да цэласнасці малюнка, да аднаго агульнага вугла бачання, бо гэтая манера натуральна прыводзіць да паслаблення сюжэтных сувязей і зацямнення асноўнага дзеяння. Так здараецца часта і ў аповесці Алеся Бажко. Пісьменнік часам зусім не сочыць за стройнасцю малюнка. Вось як у адным толькі раздзеле, дзе расказваецца пра наймічку Юзю, апавяданне перапыняецца дзесяткам пабочных дэталей:

«Добра пасядзець пад разгалістаю дзічкаю на мурагу, падабраўшы пад сябе ногі, ні аб чым не думаючы»,— настройвае нас аўтар на летуценны, мройны лад. А наступным сказам: «Плача Юзя, якая паабпякала хлоркай рукі», ён ушчэнт разбівае гэты ўмела і тонка створаны настрой. Яшчэ два-тры сказы з гэтага малюнка аб тым, як Янак прыносіць Юзі вады, перабіваюцца хоць знешне і звязаным з папярэднім, але па сутнасці малюнкам іншага плану: на конаўцы, у якой Янак падаў вады дзяўчыне, гаспадар прыпаяў алавянага анёлка і зрабіў па латыні надпіс: «Маліся і працуй». Гэтая фраза паслужыла пісьменніку мастком, па якім ён пераскочыў на атэістычныя настроі парабкаў. І зноў, ужо ў каторы раз на адной толькі старонцы, перамяніўся малюнак: «...Нехта — аднаму мне вядома, хто — павесіў у капліцы пад абразамі нежывую варону». Не паспеў чытач асвоіцца з гэтым малюнкам, як аўтар наступным сказам пераносіць яго ў новыя абставіны: «Пакуль Аўгусцін забаўляе паноў малітвамі, падлеткі страсаюць Крукоўскага сад».

У невялікім падраздзельчыку, на якіх-небудзь чатырох старонках, пісьменнік расказаў, як Янак паказаў сабакам Крукоўскага зайца, і пан за гэта даў яму дзесяць грошаў, перайшоў на размову з дзядзькам Харытонам, якая тут жа была перапынена скаргамі пані Авяліны на наймічку, зноў вярнуўся да ўспамінаў Харытона, зачапіў нейкім чынам гаспадара Булыгу, не мінуў расказаць пра яго скнарасць і г. д. У канцы кожнай

старонкі чытач ужо забывае, аб чым ішла размова ў пачатку. І атрымалася, што ў раздзеле пра наймічку Юзю пісьменнік успомніў многа пабочных падзей і здарэнняў, а пра самую Юзю нічога па сутнасці і не сказаў.

З маладымі пісьменнікамі такое здараецца часта: ёсць многа думак, і думкі цікавыя, але таму, што аўтар, забыўшы пра законы кампазіцыі, хацеў выказаць усё адразу, нічога выразнага ў яго не атрымалася.

Гэта слабасць асабліва ярка выявілася ў раздзеле «Зямля гудзе», у якім прамільгнула бясконцае мноства разнастайных малюнкаў, раптоўна паявілася і знікла вялікая колькасць персанажаў. Вось чаму, каб штонебудзь зразумець, даводзіцца па некалькі разоў перачытваць многія месцы.

Леў Талстой нездарма лічыў самай цяжкай задачай для пісьменніка арганізацыю матэрыялу:

«То дэталі пачнуць весці пісьменніка ў бок, то, наадварот, галоўнае пачне лезці з-пад пяра раней часу, не падрыхтаванае ўсёй логікай падзей і вобразаў. У такіх выпадках чытач, не падведзены яшчэ да патрэбнага вываду, будзе не здольны ўспрыняць гэтае галоўнае і раўнадушна пройдзе міма яго».

Па якому ж закону, у якой прапорцыі расстаўляюцца мастацкія дэталі ў творы?

Свядома гэта атрымліваецца ў мастака ці несвядома, але яго імкненне да найбольшай выразнасці напісанага абавязкова прыводзіць да таго, што найбольш важныя з пункту гледжання асноўнай думкі твора дэталі выдзяляюцца, узвышаюцца і пануюць над другараднымі, менш значнымі. Пісьменніку дадзена пачуццё мастацкай меры для таго, каб часам нават дарагія і трапныя знаходкі падаць мімаходзь, а то і проста смела выкрэсліць, калі яны не маюць непасрэднага дачынення да яго задумы. Алесю Бажко яшчэ не ўдаецца падначаліць дэталі гэтаму строгаму парадку, расставіць іх у лагічнай паслядоўнасці. Наадварот, ён дае ім поўную свабоду, парушаючы тым самым стройнасць твора, хоць яны і не да месца, але ён абавязкова дзе-небудзь ды прыстроіць іх.

Па ўзвышаных, выдзеленых з агульнай тканіны і шляхам варыяцыі паўтораных важных для зместу дэталях, эпізодах і малюнках праходзіць лейтматыў твора, ствараецца пэўны настрой і кірунак асноўнай думкі. Пры тым паўтараем, важную ролю ў стварэнні аб'ёмнасці малюнка адыгрывае правільнае размяшчэнне галоўных і другарадных дэталей. У залежнасці ад гэтага вобразы і карціны жыцця або будуць выглядаць плоскаснымі, як фрэска, або прымуць натуральную аб'ёмную форму.

У панскай Польшчы, асабліва на «ўсходніх крэсах», напярэдадні незабыўнага Верасня грамадскія і класавыя супярэчнасці абвастрыліся да крайняй ступені. Працоўны народ быў даведзены да поўнай галечы і вымірання. Моцны, здаровы і здольны чалавек, які мог быць уладаром прыроды і чэрпаць жыццё вялікай мерай, ірваў жылы, дзень і ноч робячы на пана, а потым, знясілены, стары, адзінока паміраў дзе-небудзь на задворках панскай сядзібы.

Трагедыю жыцця працоўнага чалавека ва ўмовах былой панскай Польшчы аўтар задумаў паказаць праз складаны, рэалістычны ў сваёй жыццёвай супярэчлівасці вобраз дзядзькі Харытона. Быў здаровы ў маладыя гады дзядзька Харытон, служыў конюхам у пана Булыгі. Не хацеў чалавек дарма хлеб есці — уставаў рана, працаваў за дзесяцёх, за гэта парабкі недалюблівалі яго. Надрываўся сваё жыццё дзядзька Харытон, пакуль не захварэў. І тады адзінокі, асуджаны, ён з панскае ласкі быў пакінуты ў адрыне паміраць. Вобраз гэты атрымаўся б выключнай сілы ўражання, калі б аўтар саўладаў з багатымі жыццёвымі назіраннямі і размясціў іх у такой лагічнай паслядоўнасці, якая рысу за рысай раскрывала б характар героя. Аднак такой паслядоўнасці ў абмалёўцы вобраза дзядзькі Харытона няма. Пісьменнік часта звяртаецца да яго, але, не даводзячы свае думкі да канца, пераносіць увагу на іншыя вобразы і акалічнасці. У выніку цікавы па задуме вобраз атрымаўся кампазіцыйна раскіданы.

Лёс панскай Польшчы, страшэнная трагедыя народа, даведзенага распусным панствам да мяжы вымірання, асабліва яскрава паказаны праз вобраз «стаўпа» гэтага грамадства пана Булыгі і праз лёс яго панскага гнязда — гэтай непарушнай, як здавалася гаспадару, цытадэлі ўласніцтва. Няблага валодаючы мастацкім прыёмам градацыі (паступовага ўзмацнення, нарастання), аўтар паказвае, як наступае немінучая гібель уласніцкага гнязда, як прыходзіць у занапад гаспадарка, развальваецца сям'я. Пан Булыга, страціўшы ад прагнасці чалавечае аблічча, не вытрымаў гэтага і палез у пятлю. А гэта ж быў моцны, з жалезнай хваткай уласнік!

І вось у тым, як пададзена ў аповесці смерць Булыгі, асабліва відаць усе промахі пісьменніка, яго няўважлівасць да законаў кампазіцыі.

Трагедыя пана Булыгі з'яўляецца адным з кульмінацыйных момантаў аповесці, да якога з самага пачатку накіравана цэнтральнае дзеянне і лагічнае развіццё падзей. Але пададзена яна вельмі бегла. Пісьменнік абышоўся толькі адным сказам: «Булыга ў варыўні павесіўся».

Калі б смерць Булыгі разраслася ў асобную псіхалагічна напружаную сцэну, то ў ёй знайшлі б сваё лагічнае завяршэнне падзеі, звязаныя з вобразам Булыгі, перакрыжаваліся б многія сюжэтныя лініі. Праўда, крыху раней аўтар вельмі ўмела даў настрой трывогі, што панавала ў сям'і Булыгі. Тут адчувалі, што павінна здарыцца нешта страшнае. Але гэтая інтанацыя прагучала ў аповесці неяк на паўактавы і хутка абарвалася.

Аповесць «Перад вераснем» густа заселена арыгінальна задуманымі вобразамі. На адносна маленькай плошчы твора аўтар перакрыжаваў лёс больш двух дзесяткаў чалавек. І трэба сказаць, што ён добра бачыць сваіх герояў, глыбока разумее іх. Але вылепіць іх як цэласныя характары, прасачыць развіццё гэтых характараў сюжэтна, не згубіць іх сярод стыхіі дэталей яму ўдаецца не заўсёды.

Найбольш удаўся Алесю Бажко вобраз пані Авяліны, якая, лічачы сябе інтэлігентнай жанчынай, сланяецца без справы па маёнтку і ад гультайства пачынае траціць розум.

Цікава задуманы вобраз рэвалюцыянера. Польская дэфензіва высачыла і пасадзіла чалавека за краты. Вельмі шмат зрабіў ён для людзей, многа сардэчнага цяпла аддаў ім. І памяць аб рэвалюцыянеру жыве ў народзе. У кожнай гутарцы людзі ўспамінаюць яго імя, яно абавязвае іх давесці да канца вялікую справу вызвалення. І хоць гэты вобраз ні разу не паяўляецца на старонках аповесці, тым не менш гэта — адзін са значных вобразаў, створаных маладым празаікам.

Але што добра ў адным выпадку, зусім не падыходзіць у другім. Гэтым жа прыёмам аўтар вырашыў паказаць і лёс гордай, непакорнай прыгажуні цёткі Ярыны. Некалькі разоў ён успамінае аб страшэнным лёсе жанчыны. Але гэтага, вядома, мала. Вобразу нестае акрэсленасці, жывых фарбаў.

Алесь Бажко шырока выкарыстоўвае такі сапраўды эканомны і выразны мастацкі сродак, як дыялог. У яго пластычна выпісаны дыялог — адзін з важнейшых сродкаў мастацкай тыпізацыі і індывідуальнай характарыстыкі персанажаў. У наступным невялічкім дыялогу за прафесіянальным гандлярскім мнагаслоўем паўстае, як жывы, хітры круцель — гандляр Лейба.

«— Вазьміце маю краму, забудзьцеся, што я ведаю, як вы рэзаліся... Прабачце, цалаваліся паміж сабой за хутары і асады. Лейба нічога не чуў, нічога не бачыў...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

— Антось! Слухай, Антось! — крычыць Лейба, бегучы за Булыгам. — Апамятайся, яшчэ месяц-другі і твой сад...

— Што? Што мой сад?

— Нічога! Я толькі хацеў запытацца, ці памятаеш ты аднаго вялікага дурня Лейбу, які пасля вайны з бальшавікамі пазычаў табе грошы».

Дыялог, не патрабуючы ніякіх дадатковых характарыстык, перадае вобраз у дзеянні. Але дыялог у прозе павінен быць строга абумоўлены,

падрыхтаваны абставінамі, узаемаадносінамі герояў і рухам сюжэта. А ў Алеся Бажко многія раздзелы больш нагадваюць драматычны, чым эпічны твор. Там, дзе сюжэт павінен быў разгортвацца ўзаемадзеяннем і сутыкненнямі герояў, ён рухаецца выключна дыялогам. Новыя героі ўводзяцца ў дзеянне кароткімі рэмаркамі, як у драме. Проза пачынае выглядаць некалькі штучнай, цьмянее, бо няма сапраўднага дзеяння і аб'ёмнасці. Успомнім, што да слова ў п'есе,— каб яно атрымала поўнае гучанне,— далучаюцца ігра акцёра, яго міміка, рухі, жэсты, урэшце дэкарацыі, асвятленне і г. д.

Яснасці сюжэтных ліній многа шкодзіць тое, што пісьменнік састаўныя частачкі сюжэта — дэталі — лепіць адну да адной, не змацаваўшы іх так званымі сюжэтнымі масткамі. Звычайна ў творы гэтыя сюжэтныя масткі не нясуць пэўнай мастацкай нагрузкі, але трывала звязваюць дэталі, эпізоды, малюнкі ў стройнае дзеянне, якое разгортваецца лагічна і натуральна.

Але бывае так, што іншы пісьменнік столькі панастаўляе гэтых масткоў і пераходаў ад аднаго эпізода да другога і ад адной дэталі да другой, што гэтыя дапаможныя сродкі ў разгортванні сюжэта пачынаюць дамінаваць у творы, ад чаго твор ненатуральна «пухне».

Прыхільнік эканомнай, насычанай прозы, Алесь Бажко ў аповесці вырашыў наогул абысціся без гэтага сюжэтнага, другараднага ў мастацкіх адносінах элемента. І гэта помсціць яму на кожным кроку тым, што дзеянне ў творы ўвесь час расплываецца. Пісьменнік дапускае нават такія рэчы: на лузе паміж хлапчукамі ідзе жвавая гаворка. І раптам недзе ў сярэдзіне дыялога адчуваецца, што тут з'явілася пані Авяліна. Аўтар не лічыць патрэбным хаця б невялічкай рэмаркай паведаміць пра гэта, а адразу ўводзіць яе ў дыялог. А чытач толькі плячыма паціскае: адкуль яна ўзялася? Такое нерастлумачанае паяўленне герояў, увядзенне зусім не матываваных дэталей часта сустракаюцца ў творы.

Бывае ў пісьменніка і так, што ў адным месцы, дзе гэта менш за ўсё патрэбна, ён сэканоміць, затое ў другім — растраціць. Пра нечалавечую скнарасць пана Булыгі, напрыклад, Алесь Бажко ўспамінае пры кожным выпадку: то багаты гаспадар, у якога ломяцца засекі ад дабра, загадвае частаваць сваіх высокіх гасцей тухлай саланінай; то ён прыходзіць з рэзгінамі і забірае сітняк, які падпасак Янак нарыхтаваў на халодныя дні, каб было куды зашыцца, бо ў Булыгі разлічваць на цёплую вопратку не прыходзілася; то ён «кожны божы дзень» папракае парабкаў кавалкам хлеба і г. д.

Многія малюнкі, партрэты, эпізоды аповесці выпісаны з усім мноствам жыццёвых падрабязнасцей. У гэтым няма ніякай неабходнасці. Сталы мастак выбірае толькі нямногія з іх, але асабліва шматзначныя і пластычныя, якія адной якой-небудзь трапнай і дакладнай падрабязнасцю ствараюць настрой, атмасферу цэлага, дапісваюць ва ўяўленні чытача ўвесь малюнак.

Падзеі ў аповесці аўтар падае праз успрыняцце падлетка. Юначае сэрца ўспрыймае жыццё востра, непрымірыма, абавязкова з крайнасцямі; яно пратэстуе або згаджаецца, але ніколі не бывае абыякавым. Вось адкуль ідзе ў творах такога плана глыбінны падтэкст і багацце аспектаў. На жаль, аўтар не заўсёды ў поўнай меры выкарыстоўвае гэтае цудадзейнае святло: многія падзеі, прапушчаныя праз бачанне яго героя, застаюцца скупымі на цёплыя фарбы.

Але важна нават не гэта. Усім вядома, што падача падзей праз успрыйманне героя-падлетка — пры ўсіх перавагах, якія яна дае, — манера па-свойму некалькі абмежаваная, бо пісьменнік мае магчымасць паказаць жыццё толькі ў тым асэнсаванні і з той ацэнкай, якую можа даць у свае гады яго герой.

Каб пашырыць поле свайго бачання, пісьменніку ў такіх выпадках даводзіцца звяртацца да аб'ектыўнага, эпічнага адлюстравання тых падзей, якія яшчэ не можа зразумець і асэнсаваць яго герой.

Алесь Бажко пазбягае суб'ектыўнага адлюстравання падзей. Нават там, дзе не дазваляла кампазіцыя, ён усё ж імкнецца падаць іх праз бачанне героя. Гэта часта прыводзіць да парушэння планаў і яснасці малюнка. Характэрны прыклад: «Гэта было зусім блізка ад паноў, але яны не маглі заўважыць мяне за сцяною маладога вішняку, які падступаў да агародчыка. Пры тым пан сенатар стаяў спіною да мяне». Але далей аўтару патрэбна паказаць сваіх герояў у дзеянні, іх партрэты, выраз твару, паводзіны, жэсты, і ён піша: «Праз цёмныя акуляры ён (сенатар.— **А. Я.**) прагна, з нейкай зайздрасцю глядзеў на пані Авяліну...», не зважаючы, што ў спіну ды яшчэ з-за сцяны вішняку выразу твару сенатара Янак убачыць не мог.

Імкненне ў што б там ні стала глядзець на свет толькі вачыма свайго героя прыводзіць, акрамя ўсяго, яшчэ і да ненатуральных нацяжак. З-за таго, што аўтар надзяляе свайго героя глыбокім разуменнем падзей і законаў класавай барацьбы, пятнаццацігадовы падлетак на старонках аповесці пачынае выглядаць мудрым і сталым чалавекам, закончаным рэвалюцыянерам. Ён нават і гаворыць аднымі алегорыямі: «Хутчэй бы пачалося жніво. Не, не жніво, а паўстанне», «Шчаслівы той, хто не мае дачок», «Зірні, як ён глядзіць на цябе,— гаворыць ён паненцы Марысі. — Калі не плюнеш яму ў бельмы, дык і начаваць застанецца». У пані Авяліны, якая ходзіць бессаромна ў начной сарочцы, падлетак у першую чаргу заўважае «яе голыя рукі нясвежай белізны».

Вышэй гаварылася, што ўсе гэтыя кампазіцыйныя парушэнні схаваны пад добра адшліфаванай пластычнай народнай мовай. Бажко вельмі ўважлівы і чулы стыліст, у яго наогул не сустрэнеш груба пастаўленага слова. Ён глыбока адчувае багацце роднай мовы, яе дух, сінтаксіс, сінаніміку, хараство народнага выразу. У яго прозе б'е першародной свежасці струмень роднага слова. У ёй ёсць многа мясцін, што кранаюць тонкім ледзьледзь прыкметным (і гэта асабліва важна, што ледзь-ледзь!) гумарам, які ў сучаснай прозе, як трапна зазначыў адзін літаратуразнаўца, цэніцца на вагу золата.

Можна знайсці ў творы яшчэ многа станоўчых якасцей і ўдалых знаходак, але «з прычыны дрэннага валодання майстэрствам кампазіцыі» аўтару не заўсёды ўдаецца данесці ўсю паўнату сваёй думкі да чытача.

# *Бібліяграфія*

## ПА ЗАГАДУ СЭРЦА




З нейкім незвычайным хваляваннем бярэм мы ў рукі кожную кнігу аб працоўных справах нашых цудоўных сучаснікаў. І не выпадкова: кожная з іх — гэта часцінка кіпучага стваральнага жыцця, кожная нясе нешта новае, непаўторнае, кліча на вялікія і слаўныя подзвігі.

Перад намі адна з такіх кніг — расказ даяркі з калгаса імя Калініна Зельвенскага раёна, камсорга фермы камуністычнай працы Галіны Панасік аб працоўных буднях маладых жывёлаводаў *. Аўтару не трэба было выдумляць сюжэт і прозвішчы сваіх гераінь. Усе яны жывуць і працуюць побач з ёй. Камсамолкі Ніна Гарбач, Марыя Гром, Марыя Карпус, Жэня Пазняк і іншыя смела выйшлі шукаць сваё шчасце на вялікую дарогу працоўнага жыцця. У іх мы пазнаём людзей нашага сённяшняга, нашага заўтра, тых, што будуюць камунізм. Гэта людзі з гарачымі, неспакойнымі сэрцамі, сумленныя, настойлівыя, працавітыя.

Не адразу яны сталі такія. Нямала намаганняў трэба было прыкласці камсамольскім і партыйным важакам калгаса, каб навесці належны парадак на ферме, стварыць дружны, згуртаваны калектыў. Часта тут разгараліся спрэчкі з-за якой-небудзь дробязі. Кожны стараўся толькі сам за сябе, не думаючы пра таварыша.

«Прывязуць бульбу, — успамінае Галіна Панасік. — Хапаем вёдры і — наперагонкі, каб больш захапіць. Як правіла, наперадзе ўсіх Люда Чудзілоўская. Ладная, дужая дзяўчына, яна спраўлялася набраць пяць вёдзер бульбы, тады як Алена Жах — два... Астатнім нярэдка і вядра не заставалася. Пачыналася сварка...»

Грымелі камсамольскія «маланкі». Грымелі да таго часу, пакуль кожны не адчуў сябе неад'емнай часцінкай калектыву, не зазірнуў адкрыта і даверліва ў вочы свайго сябра, пакуль не было, нарэшце, адсвяткавана нараджэнне сапраўднай працоўнай дружбы.

З кожным днём мацнеў калектыў, раслі новыя, камуністычныя адносіны да працы. «Бульбяныя баталіі» саступілі месца бескарысліваму сяброўскаму спаборніцтву. Тая ж спрытная Люда Чудзілоўская, якая заўсёды вырывалася ўперад, каб захапіць больш бульбы для сваіх кароў, дбае цяпер не толькі пра сябе, але і пра таварышак, а маладая даярка Алена Пазняк не адмахваецца больш ад парад вопытных даярак. Наадварот, яна сама звяртаецца да Марыі Гром. І тая ахвотна ёй памагае.

Так агульнымі намаганнямі маладыя жывёлаводы дабіваюцца немалых поспехаў. Іх мэта — надаіць за год па тры тысячы кілаграмаў малака ад каровы.

Карысныя, добрыя справы! І не напаказ, не дзеля славы, а дзеля шчасця і радасці людзей. «Жыць і працаваць па-камуністычнаму!» — вось дэвіз іх жыцця. Калектыў вядзе барацьбу не толькі за добрасумленную працу. Ён вядзе барацьбу за чалавека, непарыўна звязанага з калектывам, за сэрцы, адкрытыя і адданыя таварышам, за маральную чысціню — адным словам, за тыя прынцыпы, якія складаюць маральны кодэкс будаўніка камунізма.

Камсамолкі не супакойваюцца на дасягнутым. Там, дзе ініцыятыва б'е крыніцай, не можа быць застою, заспакоенасці. Вось чаму зноў садзяцца маладыя даяркі за школьныя парты, настойліва вучацца.

Праўдзіва і шчыра расказвае Галіна Панасік аб працы сваіх сяброўак, аб іх духоўным росце, дружбе, творчай узаемадапамозе, іх радасцях і няўдачах. Яе расказ — яшчэ адзін доказ таго, што нават самая будзённая на першы погляд праца можа прынесці вялікае шчасце, калі палюбіць яе ўсім сэрцам, аддаць ёй усе свае сілы.

**Валянціна ЛЕМЦЮГОВА**

* Галіна Панасік. Так загадала сэрца. Дзяржаўнае выдавецтва БССР, Мінск, 1962.

## УПОРАВЕНЬ З ЧАСАМ




Зборнік называецца «Палачанка».* Паэтэса сама родам з Полаччыны. Яна — лірык. Таму, відаць, пераважае аўтабіяграфічнае.

У сваіх вершах паэтэса імкнецца стварыць жывы чалавечы характар і паказаць праз яго нашага сучасніка — чалавека неспакойнага, цікаўнага, які не так ужо і многа пражыў, але шмат перажыў.

Паэтэса ідзе ад уласнага жыццёвага вопыту. Нібы адчуваючы, што яго можа не хапіць на поўную карціну часу, прапушчаную праз уласнае сэрца, яна часам звяртаецца да вопыту старэйшых, тых, хто прайшоў праз пекла нядаўняй вайны. Гэта можна бачыць у паэме «Гавораць бессмяротныя» і ў вершы «Палачанка».

У вершы «Палачанка» паэтэса хоча ўзняць свайго лірычнага героя да шырокага абагульнення, надаць яго вобразу эпічны змест:

Я з табою расла,  
Ела хлеб травяны і бульбяны,  
Я з табою была,  
Калі ў лес ты ішла, ў партызаны.  
Ты ішла ваяваць,  
Хоць ніхто не прыносіў павесткі...

Ці ўдалося аўтару паказаць нам сённяшняга чалавека, перадаць дыханне нашай сучаснасці?

У поўнай меры — так, удалося. Новы зборнік Еўдакіі Лось, як, дарэчы, і першая яе кніга, мае несумненныя вартасці. Мы маем на ўвазе, у прыватнасці, тое, што паэтэса імкнецца суразмяраць вершы з часам, што яна бачыць свет шырока, хоча быць упоравень са сваім часам. Прычым, гэтыя патэнцыяльныя вартасці яе паэтычнай работы часта рэалізуюцца ва ўдала знойдзеных вобразах, праз якія сапраўды прасвечвае час. Возьмем для прыкладу верш «Маскве, 31 снежня 1958 года»:

У гуме святочная ёлка, як вежа,  
Пад ёй, каля шара зямнога,  
рабяты:  
Кружыць пад цёмна-блакітным  
бязмежжам  
Спрытны бягун, спадарожнік  
вусаты!  
Кружыць бягун, не стамляецца  
смелы, —  
Слабаму хіба такую хаду мець?  
Колькі вякоў чалавецтву карцела  
Цацку такую рабятам прыдумаць!..

Аб тым, пра што пісалі многія і многія паэты, Еўдакія Лось сказала па-свойму, знайшла свой падыход да тэмы. І гэта не адзіны прыклад. Мы сустракаем такое ўменне па-новаму і ўдала сказаць аб людзях і ў другіх вершах.

Не магічная сіла метафарычнага шыфру, а думка, свой свежы падыход да жыцця характарызуе лепшыя творы паэтэсы, сярод якіх

* Еўдакія Лось. Палачанка. Вершы. Дзяржаўнае выдавецтва БССР, Мінск, 1962.

«Мы садзім дрэвы», дзе, на наш погляд, добра сказана пра землякоў паэтэсы, што разам з ёю садзілі дрэвы ў Маскве:

Мы ў гэтым ведаем парадак, —
Мы адтуль, дзе пеняць вішнякі.
Дзе над кожнай клуняю ігруша
Атрасае круглыя лісты,
Дзе, як восень у адведкі рушыць,
Насыпаюць яблыкаў бурты.

І ўвогуле, пішучы аб родным краі, Еўдакія Лось робіць умелыя абагульненні, паказвае свой народ, які на працягу стагоддзяў «вывучаў адну навуку, адно евангелле: рабіць...» і «аднаму маліўся богу — нялёгкай працы мазалю» («Продкі»).

Паэтэса імкнецца мысліць вобразамі, якія дае сённяшняе жыццё, мысліць шырока, не замыкаючыся ў межах сваёй Полаччыны ці нават адной Беларусі. Таму і ўзнікаюць у яе вершы пра сустрэчы з Масквой, з Рыгай, з сябрамі з братніх краін — Румыніі, Балгарыі. Гэта і ёсць адзнака нашага часу, у які нельга ўявіць сябе нават на момант адарваным ад вялікага свету, ад вялікіх спраў нашай савецкай краіны і краін сацыялізма.

У зборніку «Палачанка» можна сустрэць шэраг прыкладаў, дзе адчуваецца, як б'ецца жывая думка аўтара, шукаючы новых вобразаў. Так выглядае верш «Гняздо ластавак» з цёплымі, празрыстымі радкамі:

Крылцы пачысцяць да ўсходу яны,
Неба нап'юцца світальнага,

з пошукамі новай свежай рыфмы, якая можа задаволіць самых прыдзірлівых цаніцеляў (вокал сяла стаўкі — ластаўкі). Або вось радкі з верша «Песня», дзе гаворыцца пра першую сустрэчу з Рыгай:

Ты была мне чужою, Рыга,
«Нечытабельнай»... —

Гэта вельмі трапна сказана пра незнаёмы горад.

І ўсё ж новы зборнік Еўдакіі Лось выклікае супярэчлівае ўражанне. Тое лепшае, пра што гаварылася, на жаль, не стала ў ім асноўным, вызначальным, яно мяжуе з вельмі слабым, не да канца прадуманым і не зусім старанна апрацаваным. Непасрэднасць выяўлення лірычнага героя падмяняецца часам дэкларатыўнасцю, яго жывыя рысы — амаль анкетнымі звесткамі.

Зборніку, на наш погляд, нестае мэтанакіраванасці пошукаў, пэўнага адзінства погляду на свет, якое, напрыклад, у першай кнізе праявілася ва ўзрушана-захопленым яго ўспрыйманні. У «Палачанцы» паэтэса адыходзіць ад эмацыянальнага бачання рэчаіснасці і шукае глыбіні, але не заўсёды яе знаходзіць.

Часам, узяўшы добры жыццёвы матэрыял, паэтэса яўна не спраўляецца з ім, не знаходзіць патрэбнага кампазіцыйнага рашэння тэмы. Ідэйна-эмацыянальны цэнтр верша «Мой дзед» — у яго канцоўцы, але ж паэтэса не падводзіць чытача да актыўнага ўспрыняцця думкі верша. І апошнія радкі, самыя важныя, успрыймаюцца, як нейкі давесак да верша, а не як яго сутнасць.

У зборніку ёсць некалькі паэтычных апрацовак сюжэтаў з замежнага (балгарскага, японскага) фальклору, а таксама пераказ прамовы італьянскага паэта Ін'яца Буціта, які пабываў у Маскве. Лепшым з гэтых твораў будзе, бадай, апошні. Прынамсі, у ім відаць мэтазгоднасць паэтычнай апрацоўкі ўзятага матэрыялу. Што ж датычыць пераказу балгарскай казкі «Слівы за смецце», дык ён, хоць і зроблены не горш, але наводзіць на пытанне — ці патрэбна такая апрацоўка. Сюжэт казкі, на наш погляд, патрабуе не верша, а прозы і толькі прозы. Пададзены вершам, ён страціў натуральнасць і таму яшчэ, што не ўзбагаціўся пад пяром паэтэсы, а так і застаўся пераказам у самым літаральным сэнсе гэтага слова.

Паэтэса часам вельмі залежыць ад інерцыі верша, выяўляе слабую ўладу над ім, да таго ж мала працуе над словам. І ў выніку — многа сырых радкоў, выпадковых і лішніх слоў. Вось прыклады з верша «Прыйдзі, мой госць...»:

Цябе сустрэнуць мурагі ласкава,
Атуліць засень векавечных крон...
Ты не здзіўляйся: тут такое
**права**



(чаму «права»? — толькі для рыфмы?)
Прымі мой падарунак **весялей** (?!)
або:

Я падару табе
Усё, што **мо** твае прывабіць вочы.

Можа ўсё гэта дробязі? Не! Лішняе або выпадковае слова ў радку не толькі замінае дакладнаму выяўленню думкі, але і стушоўвае выразныя абрысы паэтычнага вобраза, разбураючы яго. Недакладны ў сэнсавых адносінах радок, як правіла, не мае і выразнага рытму, прадуманай гукавой арганізацыі. А гэта — вялікі мінус для верша, бо верш працуе толькі на палову сваёй сілы.

Некаторым вершам зборніка нестае адпаведнага тэме адзінства стылю. Так, у вершы «Рыбак» спачатку размова вядзецца ў празаічна-бытавым ключы:

Салака выліваецца руччамі,
І шлёпаюць бы кашалёвы краты
То судакі з дзіковымі лычамі,
То камбалы пляскатыя, як латы.

І побач, у наступных радках, — такое ўзвышана-рамантычнае:

А вунь і той увішны працаўнік,
Што паланіў імклівых рыб
чароды.

Гэтыя радкі з розных кантэкстаў не могуць даць аднаго паэтычнага сплаву. Такое ж спалучэнне вельмі чужых адзін другому радкоў сустракаем і ў вершы «Валяр'яна»:

Прыйдзі па вымаклай нізіне,
Згані з кустоў прырэчных сон.

Навошта тут побач з першым простым бытавым радком такі напышлівы другі? Такое спалучэнне зусім не вымагаецца задумай верша. Яно — ад непрадуманасці, недапрацаванасці.

Еўдакія Лось — несумненна, здольны ў паэзіі чалавек. Яна ўмее па-свойму, арыгінальна бачыць жыццё і расказаць пра яго. Але хацелася б бачыць паэтэсу і яе лірычнага героя з больш выразным, акрэсленым характарам, з больш ярка выяўленымі рысамі непаўторнай індывідуальнасці.

У вершы «Палачанка», які даў назву зборніку, паэтэса заяўляе аб тым, што яна настойліва шукае гэты непаўторны адзіны характар, гэтую асабістасць. Будзем верыць ёй. Але ў зборніку ёсць і другі верш — «Па вялікім следу», сэнс якога неяк нядобра пярэчыць папярэдняму намеру ісці па нязведаных дарогах, па цаліне жыцця:

Ці раз танула б я ў снягах
палёў,
Каб хтосьці мне слядоў не
вызначаў.

Прыведзеныя радкі сказаны ў іншым сэнсе. Мы на іх не звярнулі б увагі, калі б не тая акалічнасць, што ў зборніку сапраўды многа твораў, якія ідуць па пратаптанаму следу. І таму варта, відаць, паберагчыся, каб гэтыя, мімаходзь кінутыя словы не сталі правілам творчасці.

**Міхась ЛАЗАРУК**

# ПА РОДНАЙ ЗЯМЛІ




Ад добрага чалавечага пачуцця — любві да роднага краю — нарадзілася кніга Аляксея Сінілава «Сцежкамі Прынёмання» *. Гэта, як зазначае і сам аўтар, дарожныя замалёўкі. Яму, супрацоўніку «Гродзенскай праўды» давялося — і па абавязку службы і па сваёй ахвоце — абхадзіць і аб'ездзіць усю Гродзеншчыну. Уражанняў набралася шмат, захацелася шчодра падзяліцца з людзьмі і ведамі пра родную зямлю, і захапленнем хараством «сінявокага прынёманскага краю», яго прыродай і людзьмі.

Сінілаў проста гаворыць пра тое, што на думку апісаць Прынёманне яго навяла таленавітая кні-

* Аляксей Сінілаў. «Сцежкамі Прынёмання». Дарожныя замалёўкі. Дзяржаўнае выдавецтва БССР, Мінск, 1962.

га рускага пісьменніка У. Салаухіна «Уладзімірскія прасёлкі», у якой паэтычна расказана пра старажытную і маладую уладзімірскую зямлю.

Гродзеншчына таксама старажытная. Яе прырода, побыт, гісторыя тояць у сабе шмат паэзіі, рамантыкі, героікі. І таму зусім натуральнае жаданне чалавека, які шмат пабачыў і валодае пяром, перадаць чытачам, асабліва юнацтву, свае шчырыя пачуцці сыноўняй любві да роднага краю.

Кампазіцыя кнігі простая: кожны раздзел — апісанне аднаго з шаснаццаці дзён падарожжа. Аўтар паведамляе разнастайныя звесткі аб гісторыі і геаграфіі Гродзеншчыны, дзеліцца асабістымі ўражаннямі аб прыродзе і сустрэчах з людзьмі, а часам і ўспамінамі. Адбываецца жывая гутарка аўтара кнігі з чытачом — часам сур'ёзная, а часам і не пазбаўленая гумару.

Вядома, не ўсё, пра што гаворыцца ў замалёўках, «далося» А. Сінілаву менавіта ў час гэтага падарожжа, як ён спрабуе нас пераканаць, каб матываваць выбраную літаратурную форму. Несумненна, большая частка фактаў і ўражанняў адклалася ў свядомасці і памяці аўтара на працягу многіх паездак. Гэтая бяскрыўдная ўмоўнасць зусім не перашкаджае, а нават памагае ўспрыймаць сутнасць таго, пра што расказвае аўтар. У кнізе адбіліся найбольш ярка два захапленні А. Сінілава — прыродай Прынёмання і яго гісторыяй.

На працягу ўсёй кнігі, з першага раздзела і да апошняга — гучыць шчырае «пахвальнае слова» бацьку-Нёману, магутнаму прыгажуну, волату-працаўніку. У мастацкіх адносінах гэта лепшыя старонкі кнігі, бо ў іх выявілася асабістае аўтарскае бачанне прыроды, што нарадзіла свежую вобразнасць. Нёман паўстае ва ўяўленні аўтара жывой істотай, якой нададзены рысы станоўчага народнага ідэалу: «Нёман увесь у руху, у бясконцай цяжкай працы. Мясцінамі яго цела напружваецца, пакрываецца вузламі стальных мускулаў... Не дбае Нёман ні пра адпачынак, ні пра навядзенне харастваа, а, як заўзяты працаўнік, адкладвае гэта на потым, на той час, калі будзе зроблена самая цяжкая работа, і ўсё з новай сілай кідаецца ўперад, сваімі шырокімі дужымі грудзьмі прабіваючы дарогу між высокіх круч і абрываў».

Нёман і лес — магутныя прыродныя сілы, сябры працаўніка. Гаворачы пра іх, пісьменнік не толькі перадае знешняе ўражанне, якое яны робяць на чалавека, але і ўспрынятую з малаком маці любоў беларуса да сваіх спрадвечных карміцеляў і абаронцаў у ліхую гадзіну. У апісаннях прыроды адчуваецца душа чалавека, які любіць і разумее яе, умее бачыць прыгажосць у самым малым і сціплым — кветцы, птушцы, травінцы. Адсюль — тонкія, трапныя назіранні натураліста, вобразныя характарыстыкі, як напрыклад: «... варона, у якой лірыкі няма і на пазногаць», «кожны каласок — званочак», «маладыя, а таму неразумныя бярозкі аказаліся залішне цікаўнымі, зірнулі ў бездань і за гэта былі пакараны: больш ужо не выпрасталіся...» Любоў да прыроды ў Сінілава спалучаецца з руплівым, гаспадарлівым падыходам да яе.

Дарожныя замалёўкі — не падручнік па гісторыі, тут няма сістэматычнага пераказу падзей, якіх багата было на гродзенскай зямлі. Гістарычным экскурсам нададзена форма адвольнага апавядання. Пісьменнік прыводзіць дакументальныя звесткі, разважае сам, строіць здагадкі, успамінае мясцовыя легенды, цытуе вершы і песні. Усё гэта вельмі ажыўляе кнігу.

Яшчэ ва ўступным раздзеле А. Сінілаў прымушае задумацца над картай, над тым, «што ёсць і адкуль пайшло Прынёманне», над геаграфічнымі назвамі, якія ўвасобілі з глыбокай старажытнасці гісторыю і побыт Прынёманскага краю. Гэта ўдалы і плённы прыём для ўзбуджэння цікавасці моладзі да гісторыі і краязнаўства. Добры ён і тым, што абвастрае слых чытача, яго ўвагу да роднай мовы, запрашае разгадваць патаемны сэнс назваў, слоў, якія бытуюць у народзе. Ідучы за аўтарам, мы падарожнічаем ад аднаго памятнага месца да другога, і ў гэтай дарозе ўвесь час нас суправаджае голас аўтара-праведніка. Вось ён пазнаёміў нас з курортам Друскінінкай, і на нас павеяла прыгажосцю, весялосцю, бадзёрасцю гэтага цудоўнага кутка. А праз пару старонак мы журботна схіляем галовы ля падножжа помніка героям «маленькай Брэсцкай крэпасці» — пагранічнай заставы на Чорнай Ганьчы. А потым — Гродна з яго помнікамі старажытнасці, з памяццю Элізы Ажэшка, з летапісам дзён Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі, з яго непаўторнымі сённяшнімі справамі. Сцяжынкі Прынёмання прыводзяць чытача і ў роднае сяло паэта-рэвалюцыянера Валянціна Таўлая, і народнага героя Міколы Арцюха, і ў памятныя месцы беларускіх пушчаў, дзе некалі змагаліся Кастусь Каліноўскі і Валеры Урублеўскі, а пазней — героі грамадзянскай і Айчыннай войнаў.

Чытач даведваецца ў кнізе і пра эканоміку Прынёмання — пра заводы, калгасы, саўгасы.

Дарожныя замалёўкі А. Сінілава — спалучэнне лірычных мастацкіх эцюдаў-пейзажаў, кароткіх нарысаў гістарычнага зместу з карцінамі сённяшняга дня Прынёманскага краю. І тут трэба сказаць, што паказ людзей Прынёмання — найменш выразная састаўная частка кнігі. Пра людзей, якія яму сустракаліся ў дарозе, аўтар гаворыць часта, але мала хто з іх намаляваны так запамінальна, як старшыня калгаса П. Шчарбакоў — чалавек з цяжкім і прыгожым жыццём барацьбіта і працаўніка. Ствараецца ўражанне, што А. Сінілаў імкнецца расказаць пра кожнага сустрэчнага, незалежна ад таго, глыбокі гэта характар, цікавы ці не.

А. Сінілаў вельмі дакладны ў абазначэнні месца, калі гутарка ідзе пра гістарычныя падзеі мінулага — як жа інакш? А вось калі ён расказвае пра адзін калгас, другі, пра завод, то пераход у яго апавяданні мясцінамі бывае такі няўлоўны, што ў чытача ўсё зліваецца перад вачыма і ў думках, усё роўна, нібы чытаеш тэкст, дзе новая думка не пачынаецца з новага абзаца.

**Гэтыя недахопы, вядома, не могуць закрэсліць усяго таго добрага, што ёсць у кнізе. А добрае — гэта яе эмацыянальнасць і багацце фактаў.**

**Міхаіл СТАЛЯРОЎ**

## З блакнота падарожніка

**ZaH**

MIROSLAV
ZIKMUND
A
JIŘÍ
HANZELKA

Іржы ГАНЗЕЛКА, Міраслаў ЗІКМУНД

# ПА ДАРОГАХ СВЕТУ

### КАЛІ ГЭТУЮ УРНУ РАССТРАЛЯЦЬ...

Наогул кажучы, набацеі яшчэ ў першыя тысячагоддзі да нашай эры асталяваліся на важным стратэгічным скрыжаванні — усе караваны, якія накіроўваліся да Міжземнага мора за дарагімі таварамі Усходу, павінны былі прайсці праз іх тэрыторыю. Пошліну набацеі бралі неміласэрную, а калі купцы адмаўляліся плаціць, іх каралі і «забіралі іх скарбы пад ахову».

Так ладзілі свой дабрабыт набацеі і іх горад. Але дзе стаяў гэты горад? Ніхто аб гэтым не меў ніякага ўяўлення. Можа, ён некуды пад зямлю праваліўся? Ці, можа, набацеі былі чараўнікамі?

Гэткае ж пытанне вы задасцё і сёння, калі пасля двух дзён цяжкой дарогі даберацеся да горада. За Айн-Муса, крыніцай Маісея, дарога некалькімі віткамі спаўзае ў даліну, дзе размясцілася шырокая будыніна паліцэйскага ўчастка, а вакол яе — невялікі пасёлак.

— А Петра?

— Да яе яшчэ каля гадзіны хады. Можаце наняць коней. Мы ахвотна знойдзем вам і коней і праваднікa. Мы гэтым якраз і займаемся.

Выехалі мы ў той жа дзень, пасля абеду.

На наша здзіўленне, дарога і за пасёлкам спускаецца ўсё ўніз, пакуль не мяняецца на вузкую сцяжынку, якая, прабегшы ўздоўж высахлага рэчышча патоку, заварочвае ў скалы. Чым ніжэй бяжыць сцяжынка, тым вышэй вырастаюць скалы. Нарэшце яны ператвараюцца ў высачэнныя стромыя сцены, якія пасунуліся адна да адной, каб паглынуць вандроўніка і раздушыць яго, як чарвяка. Сонца схавалася, цямнее, толькі аднекуль зверху праз вузкую шчыліну прабіваецца водбліск дня. Коні спатыкаюцца аб каменныя глыбы, прынесеныя сюды бурлівымі патокамі, шматразовае рэха адбівае цоканне падкоў і адносіць яго некуды ўгору.

Пачынаеш верыць, што ты ў казачным царстве, адразу маладзееш, вяртаешся ў далёкае дзяцінства, у свет зачараваных замкаў, асілкаў і казачных прынцэс, рука мімаволі цягнецца да кішэні па чароўны клубок шоўку, каб потым па разматанай нітцы знайсці дарогу назад. Увесь гэты казачны свет здзіўляе гамай мяккіх, прыемных колераў: там, дзе зверху прабіваецца святло, скала мядова-жоўтая, крыху далей — пурпурная, а там — аранжавая, пранізаная рэльефнымі жылкамі, якія нагадваюць гарызанталі на геаграфічнай карце...

Раптам, нібы па ўзмаху ўсемагутнай палачкі чараўніка, скалы расступіліся, і перад намі паўстала дзіва: высечаны ў скале храм колеру охры. Сапраўдны храм з усім чысценька — калонамі і пілястрамі, капітэлямі і фрызамі, з прасторнай залай...

Фасад храма глыбока ўразаецца ў скалу, каменны навес аберагае яго зверху, надзейна засланяючы ад вады і сонца. Але людзі! Ніхто не ведае, калі яны пачалі знішчаць храм. Яны ўзялі на прыцэл вялізную каменную урну, якая ўпрыгожвала вяршыню ратонды, высечанай у стылі рымскай архітэктуры. Відаць, тут шукалі скарб, бо храм жа называецца Хазнэ, што азначае Скарбніца. Калі гэтую урну расстраляць, з яе хлыне сапраўдны лівень золата і каштоўнасцей.

Але не хлынуў.

Хоць выстралы падзяўблі Скарбніцу, але яна выстаяла. Вытрымала град куль і каменная статуя на фасадзе. Яна была абстраляна з усіх бакоў, асабліва пацярпелі галава і ногі. Вандалы перабілі і адну з калон каля ўваходу. Але храм пасмяяўся з разбуральнікаў — ён спакойна стаіць, як і стаяў, хоць і без апорнай калоны.

### РАХІЯ

Назаўтра мы пакінулі коней у маленькай крэпасці, узялі з сабой толькі двух лашакоў. З намі паехалі Абдул Рахман, Мухамед і Юсуф. З коньмі ўсё роўна далей, чым да Акропаля, не дабярэшся, а там нават лашакі нам не будуць патрэбны. Яшчэ ніводнаму падарожніку не ўдалося ў сядле дабрацца да храма Эд-Дэіра — і ніколі не ўдасца.

Адразу ж за Скарбніцай лагчына, праз якую набацеі праклалі акведук, стала прыкметна шырэйшай. З левага боку насустрач нам цягнецца рад грабніц з дзіўным арнаментам, накшталт шырока расстаўленай літары V, высечаным у пурпурным, ружовым, жоўтым і кармінавым камені. За грабніцамі ўзвышаўся амфітэатр на 2000 гледачоў, а насупраць, на правым беразе лагчыны, размясцілася галерэя двух- і трохпавярховых капліц.

Канец снежня, Новы год ужо стукае ў дзверы, але даліна Вадзі-Муса, схаваная ад непагоды, усцелена родадэндранамі і бледнапунсовымі крокусамі, з зямлі прадзіраюцца на свет дзіды дзікіх цюльпанаў. На тым баку Мёртвага мора, у ваколіцах Іерусаліма і Віфлеема, у гэты час кветкі днём з агнём не знойдзеш, а тут нібы ўзялі верх цуды набацейскіх чараўнікоў...

Да захаду сонца заставалася гадзіны дзве, калі мы, пакінуўшы Юсуфа з лашакамі пад Акропалем, накіраваліся ўгару па гіганцкай лесвіцы на паўночны захад — да Эд-Дэіра. Гэта самая дзікая і найбольш маляўнічая частка ўсёй Петры. Усюды вас чакаюць цудоўныя віды, даліна з амфітэатрам і фасадам храма апускаецца на глыбіню ста, а потым двухсот метраў, над схіламі каньёнаў узнімаюцца хрыбты далёкіх Эдэмскіх гор, нечакана ўзнікаюць перад вамі новыя цуды будаўнічай

---
Працяг. Гл. № 5.

дасціпнасці набацеяў. І, нарэшце, як заключны акорд урачыстай сімфоніі, з лабірынту скал выплывае Эд-Дэір, храм у сорак два метры вышынёй!

Ён высечаны ў скале, гэтак жа, як і ўся Петра. Калі апошні прамень сонца слізнуў па яго фасадзе, аднекуль з'явілася жанчына, захутаная ў чорнае пакрывала. У руках яна трымала два кубкі і вазачку з вузкім рыльцам, нібыта зробленыя рукамі набацеяў. Яна прапануе нам набыць іх за пяцьдзесят пяць піястраў. Мы абшукалі кішэні — ні піястра, усё пакінулі ўнізе, ля Акропаля.

— Ну, хоць бакшыш за тое, што фатаграфавалі. Мы бедныя, панове.

Гэтага ты магла і не гаварыць, жанчына, гэта відаць па тваіх вачах і далонях, па маршчынах маці, пастарэлай у свае 18 год.

— А ведаеш што, пашлі з намі сваю дачушку, унізе, ля Акропаля, мы заплацім ёй і за набацейскія сувеніры, і за фатаграфаванне.

Яна зразумела. І падштурхнула наперад сваю дачушку год сямі, босую, худзенькую, адзетую таксама ва ўсё чорнае. Палахлівая, як козачка, яна адступілася назад і схавалася за маму, ледзь толькі мы ступілі крок да яе.

— Бяжы, бяжы з імі, Рахія!

Хвілінку яна вагалася, потым пабегла за намі, перасконваючы з каменя на камень, як ласка. За паваротнай сцежкі яна прапускае нас наперад і знікае. Праходзіць чвэрць гадзіны. Відаць, дзяўчынка спалохалася прыцемкаў і вярнулася дадому. Але раптам бачым — стаіць за выгінам скалы, як горны дух, маўклівая, сур'ёзная, без адзінага слова, без усмешкі.

Сарамліва ўзяла грошы, моцна заціснула іх у далоні, у другую ўзяла яблычка — апошняе, якое мы яшчэ вылавілі ў мяшку, ледзь прыкметна ўсміхнулася — і знікла. Толькі маладому Мухамеду, які нешта крыкнуў ёй услед, скалы аднекуль зверху вярнулі рэха яе дзіцячай песенькі.

* * *

Дарогі да вадаспадаў Ігуазу не было, хоць нам яе апісвалі надзвычай падрабязна, з усімі выдатнымі мясцінамі, і заставалася або вярнуцца па свайму следу, даўшы круг больш чым у тысячу кіламетраў, або ўступіць у адзінаборства з дзікай прыродай і прабівацца ў невядомасць.

Цікава, што ў такой сітуацыі выбіраюць пераважна іменна гэтае другое. Відаць, таму, што вяртацца па ўласнаму следу — значыць, прызнаць сваё паражэнне, а яшчэ таму, што чалавека заўсёды вабіць прыгода, хочацца даведацца пра што-небудзь новае.

— Паедзем пустыняй! Горшага пекла, чым тое, што называюць шашой з Тафілы ў Шуабак, ужо не можа быць. Зрэшты, тут жа возяць бензін з Акабскага заліва.

— У дадатак да ўсяго заўтра Новы год, дык хоць установім для наступных трохсот шасцідзесяці шасці дзён даволі цвёрдую норму.

## ГЭТА МУСУЛЬМАНСКАГА БРАЦТВА НЕ ДАТЫЧЫЦЬ!

Пустыня зусім не нагадвала пустыню — паветра вільготнае і халоднае, на небе хмары, падобныя на дзівосныя замкі, па дарозе трапляюцца лужыны вады. Рыхлае серабрыстае неба над гарызонтам — злавесна-цёмнае. На хвіліну мільгнула на ім карычневая нітка вячэрняй зары, і на пустыню адразу ж апусцілася ноч. Апошняя ноч года. Якраз такой мы і ўяўлялі яе за многа тыдняў наперад. Мы амаль радаваліся ёй — будзем адны, учатырох, далёка ад людскога жылля, толькі з успамінамі аб сваім доме... Мы нават не будзем чакаць, калі надыдзе поўнач...

Праз адчыненыя дзверы агеньчык нашай газніцы ўразаецца ў начную цемру, але на адлегласці дваццаці метраў ужо зусім цёмна і ціха, толькі аднекуль з невымернай далечыні, подых ветруданясе часам гул матораў.

Праз гадзіну, калі мы якраз селі вячэраць, матор загуў зусім блізка, потым святло фар лізнула левы бок нашай машыны, а праз хвіліну з цемры вынырнуў каржакаваты мужчына ў клетчатай хустцы на галаве — шафёр цыстэрны.

— Я думаў, у вас нешта зламалася, — сказаў ён, зазірнуўшы ў машыну. — А тут зусім іншая справа. Але паслухайце, я параіў бы вам ехаць, не спыняючыся. Па ўсім відаць, будзе дождж. А калі ў гэтай праклятай пустыні пачнецца дождж, значыць — канец. Вы да Амана не даедзеце.

У руцэ ён трымаў янтарны тасбіх — арабскі ружанец, і машынальна перабіраў пальцамі пацерку за пацеркай. На развітанне ён закурыў прапанаваную намі папяросу і паехаў у цемру.

У 1910 годзе тут, у пустыні, правялі чыгуначную лінію, якая канчалася аж у Эджазе. Чыгунка павінна была палегчыць мусульманам Атаманскай імперыі і ўсяго Бліжняга Усходу падарожжа ў святую Меку. Навошта брысці пехатой або трэсціся на вярблюдах, калі пара можа гэта зрабіць хутчэй і зручней!

Аднак сёння, калі толькі вандроўнік не паляціць паветраным волатам, ён павінен зноў спадзявацца толькі на вярблюдаў або на ўласныя ногі. Цягнікі да Эджазу ўжо не ходзяць, канечная станцыя цяпер у Маане, далёка ад Акабскага заліва. Рэйкі, якія праляглі далей на поўдзень, у час першай сусветнай вайны былі разабраны англічанамі — гэтая аперацыя была састаўной часткай усёй сістэмы ваенных дзеянняў супраць імперыі султана.

Сёння за гэта расплачваецца не Турцыя, а Іярданія. Яна заціснута, як абцугамі, — з часу палесцінскай вайны краіна не мае доступу да Міжземнага мора, а з усходу цягнецца фронт другой блакады, іракскай. У ліпені 1958 года, калі Хусейн страціў свайго багдадскага кузена — караля Фейсалу, дыпламатычныя зносіны паміж краінамі былі перарваны, засталіся толькі вельмі абмежаваныя эканамічныя адносіны. Дарога, якая віецца побач з нафтаправодамі, амаль зусім мёртвая, гады ў рады пройдзе па ёй калона сірыйскіх грузавікоў, якія перапраўляюць транзітам у Багдад ліванскую садавіну.

У выніку ўсяго гэтага краіна, на тэрыторыі якой цякуць дзве з самых багатых нафтавых «рэк» на свеце, павінна ўвозіць бензін з Бейрута або з акабскага порта — за вялікія грошы і з вялікімі цяжкасцямі. Калі мы наглядалі за іярданскімі цыстэрнамі, якія караскаліся праз нагор'і Ліван і Антыліван, нам здавалася, што больш бессэнсоўнай працы нельга прыдумаць...

— А чаму бензін не вазіць чыгункай? Гэта ж было б значна дзешавей!

Чыноўнік міністэрства замежных спраў, якому мы задалі гэтае пытанне пасля прыезду ў Аман, некаторы час рабіў выгляд, што не разумее нас.

— Лёгка сказаць, дзешавей. Спачатку трэба купіць чыгуначныя цыстэрны, а гэта нешта каштуе. Потым, чыгунка належыць мусульманскаму брацтву, якога такія рэчы не датычаць. А ўрэшце, што б рабілі ўсе гэтыя шафёры, калі б у іх адабралі адзіны заработак?

## У КРАІНУ ГАРУНА АЛЬ-РАШЫДА

269 кіламетраў, якія аддзяляюць Петру ад Амана, мы адольвалі два з паловай дні. Едучы ад світання да ночы, «набіралі» каля 100 кіламетраў у дзень. Калі ўлічыць, што больш паловы гэтай адлегласці, дакладней кажучы, 141 кіламетр, ужо заасфальтавана, дык баланс атрымаецца сумны. Па дарозе, аднак, мы сустрэлі некалькі інвалідаў, якія падводзілі рахункі з яшчэ больш сумным вынікам: у аднаго зламана каробка перадач, у другога лопнула задняя вось, трэці парваў карданны вал. Яны стаялі ў пустыні і чакалі, калі сябры прывязуць запасныя часткі. Калі ж? Усё гэта залежыць ад надвор'я. Цяпер, пасля таго, як нядаўні лівень ператварыў пустыню ў непралазную багну, чакаць можна вельмі доўга.

На пачатак асфальтавай дарогі, якую пракладваюць з Амана на поўдзень, мы ўзбіліся толькі ў дванаццаць, без пяці мінут. Апошнія чатыры кіламетры да шашы мы рухаліся, як кот па лёдзе. Буксавалі раз за разам. Добра яшчэ, што тут, калі цябе слухаецца



Адзіны яго скарб — гэта зерне, якое ўзыдзе на рымскіх чарапках.

руль, можна выбраць дзесяць або дваццаць розных дарог, каб не наляцець на сустрэчную машыну.

Пра Іярданію гавораць, што яе ўлада жыве толькі з турысцкага руху. І калі б турысты перасталі наведваць вартыя ўвагі месцы, то краіна, якая большую частку свайго дзяржаўнага бюджэту павінна пакрываць замежнымі пазыкамі і падачкамі рознага тыпу, вымушана была б зачыніць свае пасольствы і консульствы.

Вартых увагі мясцін у Іярданіі не так ужо і многа.

З класічных да іх належыць Петра і Джараш. Потым нованабытыя пасля палесцінскай вайны паўночна-заходнія берагі Мёртвага мора і біблейскія гарады, якія некалі знаходзіліся ў Палесціне: Эрыха, Віфлеем, Іерусалім. Не дзіўна, што значную частку замежных пазык і «дарункаў» Іярданія адпускае на пабудову новых дарог.

Знаёмства з Джарашам — антычнай Герасай — узбагаціць вас адной цікавай з'явай. У Іярданіі таксама захаваўся доказ таго, якой прыгожай была краіна да таго часу, пакуль яе пакрывалі лясы. Кіламетраў за трыццаць перад Джарашам вы нечакана саслізгваеце ў глыбокі яр, які носіць тую ж назву, што і канъён на поўдзень ад Амана — Зарка. Сюрпрыз надзвычайны: схілы параслі соснамі так, што люба глянуць...

Нечаканую радасць нам сапсаваў нейкі вандал. Ён сядзеў на перадку двухколкі-арбы, за якой цягнулася пышная веймутава сасна, метраў у пяць даўжынёй, толькі што ссечаная. Відаць, вандал высушыць яе і пусціць на апал. Ці, можа, у Амане зноў будуюць нейкую ўрачыстую браму?

Джараш сустрэў нас цудоўным надвор'ем. На вуліцах не было ні душы, толькі купка дзяцей гуляла ў цяню старога рымскага храма ды араты на палетку перад храмам Артэміды пракладваў баразну за баразной. Хвіліну мы назіралі за ім і дзівіліся гэтаму палетку, які хутчэй нагадваў склад разбітых ваз і гаршкоў — чарапок на чарапку. У самым літаральным сэнсе — сметнік гісторыі. Можа, зачапіўшы матыкай крыху глыбей, удалося б адкапаць і скарб.

Пра гэта араты не клапоціцца. Яго адзіны скарб — гэта зерне, якое ўзыдзе на рымскіх чарапках...

Гаспадар бензакалонкі ў Мафраку прывітаў нас, як старых знаёмых.

— Ну, ці не гаварыў я вам, што мяне вы не абмінеце, усё роўна, ці едзеце вы ў Дамаск ці ў Багдад! Як вам шанцавала ў Петры?

Ён параіў нам набраць поўныя бакі бензіну, «гэта аплоціцца».

— Тут вы плаціце па 36 філсаў, а ў пасёлку перад іракскай граніцай будзеце даваць 45.

— А ў Іраку?

Ён хітравата ўсміхнуўся.

— Што там гаварыць пра Ірак! Там бензін не каштуе ні граша. Толькі пераедзеце граніцу, і ў Ратбе ўжо напалову дзешавей — 20 філсаў за літр.

Дык вось яно што! Недзе ўсё ж павінны былі праявіцца вынікі той анамаліі, што Іярданія цягае бензін праз горы і долы, хоць у яе пад носам цякуць рэкі нафты. Іменна тут, у Мафраку, непадалёк ад чыгункі, цягнецца амерыканскі нафтаправод з Эз-Захрама ў напрамку Сірыі і Лівана. Калісьці працякала тут яшчэ адна «рака» — з Кіркуку ў Хайфу. За час палесцінскай вайны яна высахла — ніводзін літр не прайшоў пасля таго праз трубы. Краіны Арабскай лігі аб'явілі блакаду Ізраіля.

Кожны кій мае, аднак, два канцы. Гэтым другім канцом ён б'е па іярданцах — у іх няма доступу да Міжземнага мора.



Яшчэ за дзве гадзіны да выезду з Амана мы не ведалі, ці трапім у Багдад. Не ведалі гэтага і ў міністэрстве замежных спраў. Трэба было званіць спачатку ў міністэрства абароны, потым турбаваць упраўленне паліцыі. Усё таму, што іракска-іярданскія граніцы закрыты, сякія-такія выключэнні захаваліся толькі для замежных турыстаў.

— Прасцей кажучы, для неіярданцаў, — паправіў нас чыноўнік, паведамляючы вынікі мытнага агляду. — Можаце ехаць, але пры дзвюх умовах: вы не маеце права карыстацца машынамі з іярданскім нумарным знакам і браць з сабой у спадарожнікі іярданскага падданага. Дарога праходзіць праз Мафрак і Ратбу. Шчаслівага падарожжа!..

... Дарога праходзіць праз Ратбу... У памяці ўсплывае вядомая па старых часопісах караванная сцежка, якая спрадвеку злучала каралеўства Гаруна аль-Рашыда з астатнім светам. Дарога, у канцы якой ззяюць мінарэты багдадскай Залатой мячэці...

* * *

Англійскае слова curfew азначае — званок. Без яго не абыходзілася ні адна карэспандэнцыя ў друку Бліжняга Усходу пасля замаху на Абдэль Керым Касема ў кастрычніку 1959 года. Званок азначаў забарону выходзіць на вуліцу з 19 да 5 гадзін. Пазней «званок» быў перасунут да 21-й гадзіны, бо рабочыя не маглі трапіць на начную змену. На дні каляд была аб'яўлена новая ільгота — дазвалялася вяртацца дамоў за гадзіну да поўначы...

Але, праводзячы сваю першую ноч на тэрыторыі Ірака, мы маглі не зважаць на гэтую пастанову. Куды ні кінь вокам — на цэлыя дзесяткі кіламетраў ніводнай жывой душы... Сярэбранае святло поўні залівала пустыню, над краем навісла дзівосная цішыня. Бясконцая прастора, у якой гублялася лінія гарызонту, давала прастор фантазіі, абуджала самыя нечаканыя ўяўленні аб краіне, якая зусім яшчэ нядаўна была так герметычна закрыта для ўсяго свету. Пасля замаху на старшыню савета міністраў трывога яшчэ не ўлеглася, таму «званка» строга прытрымліваюцца, ноччу ўзброеныя патрулі абшукваюць машыны, не робячы скідкі нават сваім уласным міністрам, — і яны павінны выйсці з машыны і адчыніць багажнік... Як тут не ўспомніць пра неспакойныя пытанні ў мытніцы — што рабіць з нашымі пісталетамі і малакаліберкамі. «Так, мы ведаем, што вы едзеце з дружалюбнай краіны, мы рады вітаць вас, але зразумейце — у вас зброя, а вы ведаеце, якія пакаранні аб'яўлены ў нас за яе хаванне...»

Усе ў мытніцы з палёгкай уздыхнулі, калі мы прапанавалі апячатаць зброю і здаць яе ў цэнтральную мытніцу на час нашага знаходжання ў Багдадзе. Потым доўга пісалі нейкія пратаколы і паперы, урэшце нам далі чатыры запячатаныя канверты з адрасамі на арабскай мове і растлумачылі, каму і дзе іх аддаваць. Першы — паліцэйскаму пасту ў дваццаці кіламетрах за Ратбай, другі — абласному паліцэйскаму ўпраўленню ў Рамадзі, трэці — паліцэйскаму ўпраўленню ў Багдадзе, апошні — багдадскай мытніцы. Першы канверт ужо адвеў у бок бочкі з-пад асфальту на забарыкадаванай шашы, і вось цяпер мы ляжым у халоднай студзенскай пустыні паміж граніцай і Багдадам...

## НА ДАЛЯГЛЯДЗЕ — БАГДАД

За Рамадзі пачынаецца бездакорная сучасная шаша, роўная, як кухонны стол. Гэткі ж роўны пейзаж з левага боку, затое справа — гліняныя ўзгоркі адзін на адным. Гэта ўрадлівыя наносы, якія многа тысяч год назад прыцягнуў з турэцкіх гор Еўфрат, праточваючы сабе рэчышча на некалькі метраў ніжэй. З аднаго боку дарогі пасвяцца невялікія статкі авечак, на другі бок пастухоў не пускаюць, там, паміж двайнымі агарожамі з гліны струменіць вада Еўфрата. Таму палеткі каля агарож такія зялёныя, таму яны даюць ураджай круглы год, таму весялейшыя і людзі, якія іх апрацоўваюць. Там, дзе няма жыватворнага струменьчыка, няма і




Якая з гэтых лічбаў правільная? Аказваецца, 156, бо на правым баку слупа цыфра, што нагадвае наш нуль,—гэта пяцёрка, а сем — гэта не што іншае, як шэсць!

жыцця. Глеба, як скура хворага праказай, спярэшчана шэра-белымі плямамі...

У некалькіх кіламетрах ад Рамадзі хаваецца за ўзгоркамі возера Хабанія. Амаль трыццаць год з гэтай назвай быў звязан лёс англічан у Іраку. Па дагавору яны аб'явілі возера экстэрытарыяльным і пабудавалі тут не толькі значную ваенную базу, але клубы і купальні, куды іракцам заходзіць не дазвалялася.

Ліпеньская рэвалюцыя Касема скасавала падзел англійскай Хабаніі. Авіяцыйнай базы тут ужо няма, іракцы зноў могуць купацца ў возеры, якое напаўняюць вадой з Еўфрата. З няўтоенай радасцю яны расказвалі нам, якая паніка ахапіла англічан, калі паляцеў да д'ябла іх апякун Нуры-Саід. Куды толькі дзеўся хвалёны брытанскі спакой! Галоўнае было ў тым, каб выбрацца адсюль, захаваўшы цэлай скуру, і як мага хутчэй прадаць усё, што можна. Багатыя аўтамашыны «заганяліся» за 150 дзінараў; калі ж купец не знаходзіўся, аблівалі іх бензінам і кідалі ў сярэдзіну запалены факел.

Не адзін удзельнік гэтага адыходу ад улады, ад славы спачывае і сёння на дне возера.

Ад Аль-Фалуджы, дзе дарога адыходзіць ад Еўфрата, да Цікрыта каля пяцідзесяці кіламетраў, і нідзе не падыходзяць Вялікія рэкі так блізка адна да адной — аж да самага зліцця ў адну раку Шат Эль-Араб. Можна было думаць, што на гэтых пяцідзесяці кіламетрах будзе сапраўдны зямны рай. Але дзе там! Абапал дарогі зноў пустыня, зноў стаіш перад адвечнай праблемай гэтай краіны: дзе вада, там жыццё.

Пакуль што зямлю тут захапілі цагельні, рабочыя знялі ўрадлівы верхні пласт глебы і ператвараюць глеевыя наносы ў будаўнічы матэрыял для горада, які расце на вачах. Дзесяткі такіх цагельняў рассыпаны вакол Багдада, ужо здалёк яны заяўляюць аб сабе чорнымі слупамі дыму. Рабочыя складваюць свае новаспечаныя вырабы штабялямі, каб іх высушыла сонца, а потым зносяць іх да канічных печаў, каля якіх завіхаюцца хлапчукі — самая дзяшовая рабочая сіла. З ранку да вечара не выпускаюць яны з рук вялікага апалоніка — палівам тут служыць не вугаль, не дровы, а нафта. Прывязе яе цыстэрна, выпусціць у чорную сажалку. Вось табе, замурзаны качагар, новая порцыя смярдзючай брагі, кармі вечны агонь да таго часу, пакуль тыгрскі і еўфрацкі глей не ператворыцца ў шэра-жоўтыя цагліны.

З цэглы пабудаваны ўвесь Багдад, горад Гаруна аль-Рашыда, горад «Тысячы і адной ночы», горад, які ўзнік перад намі, як з-пад зямлі. Відаць, гэта найменш выразная па рэльефу сталіца з усіх, якую мы бачылі на сваіх дарогах.



Адна з незлічонага мноства цагельняў, якія абступілі Багдад з усіх бакоў.





Механізацыя...

Бензін у Іраку дзяшовы. У гэтым няма нічога дзіўнага, дзе ж яму быць дзяшовым, як не ў краіне, з зямлі якой б'юць такія магутныя крыніцы нафты! Таму ў Іраку шафёры таксі не прывыклі эканоміць бензін, яны бесперапынна лётаюць па вуліцах, прапануючы прахожым падвезці іх. Асабліва дзівакоў з Еўропы, калі тыя выйдуць на прагулку па сталіцы. Бо хто ж калі бачыў, каб белы хадзіў пехатой, пры англічанах такога не здаралася...

І ўсё ж мы ў Багдадзе былі сведкамі такіх хвілін, калі ўсе таксісты як скрозь зямлю праваліліся. Яны не толькі не лавілі прахожых, іх нават і на стаянках не відаць было. Усе сядзелі ў кафэ і рэстаранах, тулячыся да экранаў тэлевізараў,—цяпер ім і не заікайцеся пра якую-небудзь паездку, хіба вы не ведаеце, што вось-вось пачнецца працэс?

Тэлевізары раскупліваліся нарасхват.

## БІСМІ АШ-ШААБ!

Калі вечарам 7 кастрычніка 1959 года па Багдадзе разнеслася вестка, што на старшыню савета міністраў быў зроблены замах, людзі разгубіліся. Што будзе далей? Канец рэспубліцы? Паварот да ненавісных старых часоў? На вуліцах збіраліся натоўпы людзей, усюды чуліся крыкі:

— Дзе ты, Фадэль Абас? Скажы нам, што будзе з намі!

Фадэль Абас — гэта палкоўнік Махдаві, другая пасля Касема папулярная фігура ў Іраку.

Можна без перабольшання сказаць, што з таго часу папулярнасць яго яшчэ больш вырасла. У значнай меры гэтаму садзейнічала яго функцыя старшыні народнага суда, які судзіў першых арганізатараў змовы супраць маладой рэспублікі.

Махдаві — выдатны, прыроджаны прамоўца. Ён гаворыць без лістка перад сабой, без папярэдняй падрыхтоўкі, умее імгненна рэагаваць на паводзіны залы, добра арыентуецца ў сусветнай літаратуры. Яго здольнасцям мог бы пазайздросціць любы акцёр. Калі Махдаві з'яўляецца на экранах, людзі або сціхаюць, або, сціснуўшы кулакі, пагражаюць разбіць экран. Усё ў залежнасці ад таго, выступае Махдаві ў абарону рэспублікі ці дапытвае яе праціўнікаў.

Са спецыяльнымі журналісцкімі білетамі паехалі мы на вячэрняе пасяджэнне суда — праз дзень пасля таго, як адзін з тых, каго дапытвалі, нейкі Азаві, заявіў, што ў падрыхтоўцы замаху



Багдадскі ганчар.

ўдзельнічалі «некаторыя высокапастаўленыя асобы з кіраўніцтва дзяржавай» і назваў генерал-губернатара Абдзі. Хоць у друку не з'явілася ні радка, ні слова, увесь Багдад гаварыў пра гэта, бо допыт перадаваўся непасрэдна з залы суда па радыё і тэлебачанню.

Праз некалькі дзён Махдаві прыняў карэспандэнта лонданскай «Дэйлі тэлеграф» Яна Кальвіна. На пытанне, ці праўда тое, што сказаў Азаві, Махдаві адказаў:

— Я ўжо заяўляў публічна, што гэта не што іншае, як непрыкрытае імкненне імперыялістаў убіць клін паміж нашым правадыром і адданымі яму людзьмі. На шчасце, Касем не такі наіўны, каб увесці сябе ў зман дэмагогіяй!

Вуліцы вакол суда застаўлены моцнымі кардонамі, у салдат — вінтоўкі з прымкнутымі штыкамі, у афіцэраў — кароткія аўтаматы. Сям-там стаяць браневікі. Каля ўваходу ў будынак салдаты абшукваюць усіх, хто праходзіць у залу, звыклым жэстам праязджаючыся па рукавах, спіне, кішэнях штаноў. Нават адкручваюць аўтаручкі, каб упэўніцца, ці не схавана ў іх што-небудзь іншае...

У зале стаіць трыбуна з пяццю крэсламі, пад ёй стол для стэнаграфістаў, па баках лаўкі для прадстаўнікоў друку, на балконе і пад ім крэслы для гасцей. Усяго каля трохсот месц. Найцікавейшай была публіка пад балконам. Справа — мужчыны, рабочыя ў камбінезонах, людзі ў еўрапейскіх касцюмах і арабскіх хустках або круглых вышываных шапачках. Злева — жанчыны, большасць у чорных абах, некаторыя нават з прыкрытым тварам. Але заднія рады ззялі самымі стракатымі колерамі - гэта маладыя іракскія студэнткі прыйшлі ў элегантных касцюмах, каб прадэманстраваць не толькі адданасць рэспубліцы, але і свой новы стыль мыслення, каб даць зразумець, што іх месца не ў затхлых каморках.

Роўна ў васемнаццаць гадзін, разам з апошнім ударам гадзінніка, у залу ўвайшлі члены суда — усе ў ваенных мундзірах. Апошнім увайшоў, усміхаючыся, Фадэль Абас аль-Махдаві, палкоўнік з трыма зоркамі на пагонах. Разнесліся гучныя воплескі, людзі ўсталі і стаялі, пакуль суд не заняў свае месцы.

* * *

## КАЛЯРОВЫ ТУМАН

«Што? Вы кажаце, у Багдадзе цёпла? Скажыце гэта каму-небудзь іншаму!»

Прыблізна так скажа кожны, хто прыедзе ў Багдад у студзені. Чалавек, які жыве на пяцідзесятай паралелі, глыбока перакананы, што варта яму спусціцца на дзесяць-пятнаццаць градусаў на поўдзень, як ён ужо апынецца ў царстве вечнага сонца, дзе трэба будзе асцерагацца невыноснай гарачыні.

— Мы таксама гэтак жа думалі, — сказалі нам багдадскія «старажылы». — Прыехалі сюды летась на каляды і не паспелі купіць ні світараў, ні цёплай бялізны.

Багдадскія дамы не прыстасаваны да холаду. У іх няма печаў, а пра цэнтральнае ацяпленне і гаварыць не прыходзіцца. Там, дзе архітэктар выконваў патрабаванні англійскага заказчыка, у дамах праектаваліся каміны, якія служаць хутчэй для дэкарацыі. А калі б у вас узнікла жаданне пагрэцца каля такога каміна, дык трэба было б спаліць процьму дарагіх дроў, якія завозяцца ў бязлесныя ваколіцы Багдада аж з паўночнага Ірака, з Курдзістана, — і ўсё роўна вам было б холадна, бо ўсё цяпло вылятае ў комін.

Але горш за ўсё даводзіцца жыхарам гліняных хацін. Захутаўшыся ў тонкія коўдры, яны туляцца бліжэй да ачага, дзе чадзяць «каровячыя брыкеты» — высушаныя лепякі гною. Там, дзе гаспадар можа патраціць некалькі дзінараў на ацяпленне, можна пагрэць скачанелыя рукі і ногі каля печак. У іх паляць не вугаль, і не дровы, а нафту.

* * *

Кажуць, што за ўвесь 1959 год дождж у Багдадзе ішоў толькі сем разоў. Можаце сабе ўявіць, як прагна чакаюць дажджу людзі, у якіх няма грошай, каб купіць вады палівацъ поле, або збудаваць дарагую абвадняльную сістэму.



Залатая мячэць у Багдадзе...



...але сёння тут будуюць і новыя мячэці — жалезабетонныя.

Тут лічыцца святам, калі хмары завалакуць неба і на зямлю пальецца лавіна вады. Яна прыб'е пыл, вымые вуліцы, прынясе радасць не толькі дзецям, якія адразу ж пачнуць плюхацца ў сажалках і лужынах, але нават жабам, якія крэкчуць па начах у абвадняльных каналах.

Але потым лужыны высыхаюць, і горад зноў дыхае гліняным пылам з пустыні. Пыл — гэта самая характэрная рыса Багдада. Вецер збірае яго над Сірыйскай пустыняй і кідае ў твар безабароннаму гораду. Праз няшчыльна прычыненыя дзверы і праз вокны пыл забіваецца ў пакоі, у шафы, у страву. Бываюць дні, калі ўсё пакрыта карычневым пластам пылу. Сатрэш яго, і ён тут жа з'яўляецца зноў на посудзе і абрусах.

У пачатку сакавіка нам давялося ўбачыць у Багдадзе... каляровы туман. Раніцай раптам пачало цямнець, хоць на небе не было ні хмурынкі. Дзесьці ў вышыні паветра было напоўнена лёгкім гліняным пылам. Не паспеўшы асесці ўніз, ён стварыў над горадам фантастычную атмасферу аранжава-ружовага колеру. Здавалася, быццам нейкія звышмагутныя помпы высмакталі з верхавін фінікавых пальмаў іх свежую зеляніну, пальмы пажоўклі і ў адзін момант пастарэлі на цэлы век. Яшчэ большыя дзівы рабіліся на вуліцах: за сто крокаў ужо нельга было нічога разгледзець, машыны ездзілі з запаленымі фарамі, але святло іх выдавала сінім. Жоўтыя падфарнікі адкідвалі праменні светла-зялёнага колеру.

Мы тут жа выцягнулі фотаапараты, зарадзілі іх каляровай плёнкай. Але экспанометры нібы аслеплі, паказвалі куды меней святла, чым звычайна ў гэтую пару дня.

Калі нам пазней вярнулі праяўленыя здымкі, да іх была далучана заўвага:

«Маглі б быць цікавыя здымкі, калі б вы знялі з аб'ектыва аранжавы фільтр...»

У дзесяць гадзін раніцы ўжо нічога не было відаць за пяцьдзесят крокаў, цемра была такая, як пры зацьменні сонца. Пясчаны дар пустыні пачаў асядаць на горад.

(Працяг будзе)

**Пераклад з чэшскай мовы**
**А. МАЖЭЙКІ.**

# Шахматы

Пад рэдакцыяй міжнароднага майстра
А. СУЭЦІНА

# ШАХМАТНЫЯ КУР'ЁЗЫ

**З блакнота майстра**

## ПРАВЕРКА НЕ ЎДАЛАСЬ

Адзін малады, схільны да арыгінальнічання першаразраднік паставіў сабе за мэту знайсці нешта сваё, асаблівае ў такім вывучаным дэбюце, як іспанская партыя. І вось ён прыдумаў пасля 1. е4 е5, 2. Кf3 Кс6, 3. Сb5 ход 3. ...а5??! Гуляючы ў сеансе адначасовай гульні супраць вопытнага майстра і тэарэтыка В. Панова, малады шахматыст вырашыў праверыць сваё вынаходніцтва.

Праверка дала нечаканы вынік: ход 3. ... а5 здаўся майстру такой бязглуздзіцай (і гэта сапраўды так), што ён вырашыў — з яго хочуць пасмяяцца. Майстар спыніў гульню і павучальна сказаў: «Перш чым гуляць з майстрам, вывучыце правілы!». І праверка не змагла адбыцца. Праўду кажуць: «Першы блін камяком».

## НАЙВЫШЭЙШАЯ БЛЫТАНІНА

Цэйтнот — самы злы вораг шахматыста. Колькі хваляванняў, перажыванняў бывае ў шахматыста, калі ён трапляе ў цэйтнот! Мускулы твару сутаргава перакошваюцца, твар то чырванее, то бялее. Шахматыст знаходзіцца ў своеасаблівым экстазе. Не выпадкова, будучы ў жорсткім цэйтноце, адзін шахматыст дайшоў да таго, што крыкнуў на ўсю залу: «Якімі я гуляю?»

## ПРА САМАЎПЭЎНЕНАСЦЬ

Упэўненасць — вельмі неабходная шахматысту якасць. Але ўсё мае мяжу... Адзін, скажам сціпла, упэўнены ў сабе шахматыст гуляў з больш моцным партнёрам. Прайграўшы першую партыю, ён сказаў: «Якая неразумная нечаканасць!» Прайграўшы другую: «Так, вы зусім кепска гуляеце!» Прайграўшы трэцюю: «Калі б я быў у форме, я зусім мог бы даць вам фору!» І нарэшце пасля чацвёртай прайгранай партыі: «Калі вы будзеце ўзмоцнена трэніравацца, дык з часам дасягнеце майго ўзроўню гульні!»

Пакідаем самому чытачу зрабіць адпаведныя вывады.

## ПАДРЫХТОЎКА НА ВЫСОКІМ УЗРОЎНІ

Грузінскі майстар А. Эбралідзе ніяк не мог вырашыць праблему гульні чорнымі. Як хутка і ясна адказаць на асноўныя хады белых: 1. е4 і 1. d4? Да хода 1. е4 ён сяк-так падрыхтаваўся, а вось ход 1. d4 зрабіўся ў нейкі момант для майстра загадкай. У хвіліну яго сумнення адзін з партнёраў, які раней заўсёды пры гульні з ім рабіў 1. е4, на гэты раз, паслухаўшы сяброў, вырашыў зрабіць нечаканасць ходам d2 — d4. Рэакцыя пераўзышла ўсё, што можна было чакаць — Эбралідзе праседзеў над адказам паўгадзіны, нечакана працягнуў руку і сказаў: «Здаюся, супраць гэтага ходу я ў гэты момант не ведаю абароны!»

## ДЫПЛАМАТЫЧНЫ АДКАЗ

У шахматнай партыі дзейнічае аксіёма, правіла: узяўся за фігуру — рабі ход. На студэнцкім першынстве свету ў г. Ліёне (1955 г.) у партыі з аўтарам гэтых радкоў фінскі майстар Ватэра зрабіў сутаргавы рух адной з фігур, але, заўважыўшы, што гэта прывядзе да хуткага паражэння, збянтэжыўся і паставіў фігуру назад, потым зрабіў другі ход. Прыйшлося звярнуцца да перакладчыка. Адказ Ватэра быў вельмі дыпламатычны: «Я не перакананы, што мог зрабіць такі кепскі ход». Гульня ішла далей.

## ПАСПЯШЫЎ НА СВАЮ ГАЛАВУ

Цікавы выпадак у партыі двух украінскіх майстроў — Ю. Сахарава і А. Замыхоўскага.

Замыхоўскі вельмі няўпэўнена гуляў у цэйтноце, нягледзячы на тое, што меў вялікую перавагу. І вось яго партнёр прыняў рашэнне — ахвяраваўшы фігуру, напаў на караля Замыхоўскага, сказаўшы: «Вам, здаецца, мат!». А. Замыхоўскі інстынктыўна спыніў гадзіннік і распісаўся на бланку. І толькі тут ён заўважыў, што мата ж зусім няма! На яго пратэст Сахараў запярэчыў: «Я ж і сам не быў перакананы, што гэта мат!».

## ПАПАЎСЯ НА СЛОВЕ

У паўфінале першынства СССР у г. Таліне (1959 г.) гросмайстар Б. Спаскі гуляў з кандыдатам у майстры М. Гаўбіндарам. Гросмайстар абвастрыў гульню і пачаў складаную камбінацыю. Яго партнёр заўзята абараняўся. Здавалася, што нічыя ўжо блізка.

«Прапаную вам...» — пачаў Спаскі. «Дзякую», — перапыніў яго партнёр, падаўшы руку. «...здацца», — закончыў гросмайстар.

Спаскі разлічыў фарсіраваны варыянт, які дакладна вёў да перамогі, і тут жа яго ажыццявіў.

## У ГАРАЧЦЫ БОЮ

Аўтар гэтых радкоў наглядаў на адным з жаночых турніраў такі вось выпадак.



Жадаючы ўмацаваць сваё становішча, белыя зрабілі актыўны ход 1. Лd6?

Чорныя тут жа адказалі: 1. ... Ф:d6! Пачуўся літасцівы вокліч «Ой!..» І толькі тады белыя заўважылі, што нельга 2. ed з-за 2. ... Л:е2, бо чорныя застаюцца з лішняй фігурай.

Пасля некаторага роздуму белыя сыгралі 2. Кс4 Фе7, і тут было сыграна: 3. Кd6?? Ф:d6! Зноў прагучалі на тым жа полі! І зноў поўны жалю вокліч. Вяршыня шахматнага непрадбачання!

## З ЗАМЕЖНАГА ГУМАРУ



«Ладзейны эндшпіль».



«Страшэнная помста».

## ЗМЕСТ



**Да нумара прыкладаецца бясплатны дадатак «А гармонік грае, грае...»**





**М. Гвоздзікаў. На Заходняй Дзвіне.** Акварэль.
Віцебскі абласны дом народнай творчасці.



В. Савіцкі. Ударнік камуністычнай працы будаўнік М. Ярашэвіч.



М. Данцыг. Стары і новы Мінск.

З веснавой выстаўкі мастакоў Беларусі. 1962 г.



Л. Шакінка. **Напрадвесні.** З серыі лінагравюр: **«Поры года».**

М. Моўчан. **Праца!** З серыі літаграфій: **«У пошуках лепшага жыцця».**